Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№2 (4648) 13 студзеня 2012 г.

## Калонка рэдактара



## Год кнігі – *праца* кожны дзень

**Таццяна СІВЕЦ**

Бадай, адно з самых складаных пытанняў для мяне на сёння: "Падкажыце, што пачытаць". Гэта амаль тое самае, што раіць чалавеку, з кім пасябраваць. У наш звышадкрыты час кніга стала рэччу ў пэўным сэнсе інтымнай. Калі так проста знайсці любую інфармацыю бясплатна ў інтэрнэце, то набыццё кнігі мусіць мець вельмі важкія прычыны.

Калі раней купляліся практычна ўсе навінкі, то сёння чытач, ашчаджаючы свае "кроўныя", выбірае толькі тое, без чаго не можа абысціся. Атрымліваецца, кнігі, якія мы набываем, ствараюць наш псіхалагічны партрэт. Вось і звярніце ўвагу наступным разам у кнігарні...

І гэта сітуацыя накладвае большую адказнасць на так званую "сацыяльна значную літаратуру", на набыццё якой дзяржава выдзяляе асобныя грошы. І тут павышаецца роля бібліятэкараў у рэгіёнах: што замаўляюць, што прапануюць, урэшце, як размаўляюць з чытачамі. Кніга робіцца не толькі крыніцай інфармацыі — на ёй, аказваецца, можна і зарабіць, толькі падысці да яе продажу трэба... творча! Да прыкладу, у новай "краме № 13" "Белсаюздруку" прапануюць і кніжку пагартаць, і кавы папіць, а то і жывога пісьменніка пабачыць, ды і не толькі пабачыць... Тут раз на тыдзень будуць праводзіцца прэзентацыі выданняў РВУ "Літаратура і Мастацтва", а аўтары, не абмяжоўваючыся аўтограф-сесіямі, дапамогуць сваім чытачам вызначыцца з выбарам кнігі.

Добра?

Выдатна!

Няхай гэта адзін невялікі крок да літаратуры, але, магчыма, менавіта ён стане пачаткам вялікай дарогі. Духоўнае адраджэнне нацыі пачынаецца з Кнігі. Упэўнена, што тыя, каго Кіраўнік дзяржавы ўганараваў прэміямі, чыталі ў дзяцінстве творы класікаў савецкай літаратуры і па сёння нясуць у сваёй душы зерне Культуры, якая, па словах Прэзідэнта, з'яўляецца "крыніцай унутранай сілы беларускага народа".

# Мудрасцю і словам

**Ірына ТУЛУПАВА, фота БелТА**

**"Беларуская цывілізацыя стваралася не агнём і мячом, а мудрасцю і словам", — зазначыў Аляксандр Лукашэнка на ўрачыстай цырымоніі ўручэння прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльных прэмій Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва.**

Год распачаўся ўручэннем узнагарод тым, хто заслужыў прызнанне людзей: талентам і высакароднымі ўчынкамі. Згадайма: мінулы, 2011-ы, таксама завяршыўся на высокай духоўнай прыступцы: 30 снежня Кіраўнік дзяржавы падпісаў Указ аб аб'яўленні надыходзячага Годам кнігі.

А ў першыя дні студзеня, азораныя святлом Віфлеемскай зоркі, мы з вераю ў лепшае вярнуліся да першакрыніц: "Менавіта наша зямля дала чалавецтву такіх светачаў хрысціянства, як Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі. Тут з'явіўся на свет выдатны асветнік Францыск Скарына, які 495 гадоў таму падарыў усходнім славянам першае друкаванае выданне. Беларусь узбагаціла сусветную культуру паэзіяй Янкі Купалы, Якуба Коласа, 130-гадовы юбілей якіх мы адзначаем у гэтым годзе», — сказаў Кіраўнік дзяржавы.

Наш народ шануе і беражэ запавет продкаў — "любіце кнігу". У ёй — мудрасць, назапашаная праз вякі. Але якія ж мы сёння?

На святочнай сустрэчы ў Палацы Рэспублікі гаварылася пра рысы нашага нацыянальнага характару: міласэрнасць і дружалюбнасць, душэўную шчодрасць і гатоўнасць падзяліцца ўсім, што маем.

Сярод узнагароджаных — пяць лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" і дзевяць лаўрэатаў спецыяльных прэмій. Гэтыя людзі добра вядомыя ў сваіх рэгіёнах і ва ўсёй Беларусі. Вынікі іх працы — навідавоку. Яны — у створанай унікальнай мазаіцы на капліцы ў гонар іконы "Знаменне Прасвятой Багародзіцы". Працу аўтарскага калектыву Беларускага саюза мастакоў Сяргея Бышнёва, Аляксандра Сушы і Валерыя Чайкі — лаўрэатаў сёлетняй прэміі — можа ўбачыць кожны наведвальнік мемарыяльнага комплексу па ўвекавечанні памяці ахвяр Першай сусветнай вайны на месцы Мінскіх брацкіх могілак 1914 — 1918 гг.

І ў малітоўных словах архіепіскапа Навагрудскага і Лідскага Гурыя шмат хто знайшоў душэўную падтрымку і спагаду. Ён удастоены прэміі за значны асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне Беларусі, выдавецкую, асветніцкую і дабрачынную дзейнасць.



На старажытнай Нясвіжскай зямлі, атуленыя клопатам бацькоў-выхавальнікаў Ігара і Галіны Бушмакіных, жывуць і знаходзяць сваю шчаслівую дарогу ў жыцці гадаванцы дома сямейнага тыпу. За 20 гадоў існавання іх дзіцячага дома гаспадары выхавалі адзінаццаць сірот, і цяпер яшчэ пяцёра знайшлі тут родны парог.

З клопатам пра хворых дзяўчынак і хлопчыкаў калектыў аддзялення ранняга ўмяшання Гомельскай цэнтральнай гарадской дзіцячай паліклінікі дабіўся поспехаў у развіцці сістэмы ранняй дыягностыкі і карэкцыі псіхамаўленчых, нейрасенсорных і маторных парушэнняў у дзяцей.

Прэміі "За духоўнае адраджэнне" ўдастоены таксама аўтарскі калектыў ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал" — за тэлевізійны праект "Гарады-героі".

"Творчым людзям большай узнагароды не існуе", — прызналася пасля ўручэння ёй спецыяльнай прэміі Прэзідэнта краіны артыстка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, народная артыстка Беларусі Бэла Масумян. "Мне, армянскай дачцэ беларускага народа (так мяне называе Пасол Арменіі ў Беларусі), дарагія і любоў гледача, і такая высокая дзяржаўная ўзнагарода", — зазначыла жанчына, якая сыграла на сцэне больш як 100 роляў.

Спецыяльныя прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва прысуджаны таксама артыстцы балета, вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Кацярыне Алейнік; ансамблю салістаў "Класік-Авангард" Беларускай дзяржаўнай філармоніі; прафесару Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народнаму артысту Беларусі Яўгену Гладкову; заслужанаму аматарскаму калектыву Рэспублікі Беларусь харэаграфічнаму ансамблю "Зорка" Цэнтра культуры "Віцебск"; калектыву Гомельскага палацава-паркавага ансамбля; загадчыку аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі Барысу Лазуку; калектыву рэстаўратараў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь; мастакуграфіку, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь Генадзю Шутаву.

***На здымку: аўтарскі калектыў Беларускага саюза мастакоў уганараваны прэміяй Прэзідэнта "За духоўнае адраджэнне" па выніках 2011 года. Узнагарода ўручаецца Сяргею Бышнёву.***

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб уручэнні дзяржаўных узнагарод 17 чалавекам. У тым ліку медалём "За працоўныя заслугі" ўзнагароджаны першы намеснік генеральнага дырэктара БелТА Ігар Луцкі, медалямі Францыска Скарыны — галоўны рэдактар часопіса "Беларуская думка", член Саюза пісьменнікаў Беларусі Вадзім Гігін, фотакарэспандэнт рэдакцыі фотаінфармацыі БелТА Віктар Талочка, член Беларускага саюза кінематаграфістаў Вера Савіна. Указам таксама нададзена ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь" старшыні Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Беларусі Анатолю Афанасьеву.

✔ Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь абвешчана шэрагу прадстаўнікоў навукі, адукацыі, СМІ і іншых сфер. Сярод іх — генеральны дырэктар Беларускага тэлеграфнага агенцтва Дзмітрый Жук і супрацоўнікі БелТА Андрэй Жыбуль, Аляксандр Сухаверхі, Кацярына Жучэнка; супрацоўнікі Другога нацыянальнага тэлеканала Аляксандр Злобін і Святлана Кнутава; галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты "Чырвоная зорка", член Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб наданні калектыву Тэатра-студыі кінаакцёра ганаровага звання "заслужаны".

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Андрыса Ліепу з 50-годдзем. "Спадзяюся, што Ваша супрацоўніцтва з Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета Рэспублікі Беларусь і ў далейшым будзе такім жа плённым", — адзначыў Прэзідэнт.

✔ У Мінску адбылася рабочая сустрэча Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Азербайджанскай Рэспублікі Ісфандзіяра Вагабзадэ з Міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Латушкам. У ходзе перамоў было абмеркавана пытанні беларуска-азербайджанскага супрацоўніцтва ў сферы культуры. У тым ліку разгледжана магчымасць правядзення Дзён культуры Азербайджана ў Беларусі і Дзён культуры Беларусі ў Азербайджане.

✔ Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў нададзены статус вядучай установы адукацыі ў сферы культуры. БДАМ — ужо трэцяя па ліку культурная ВНУ, якая атрымала такі статус, — пасля Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

✔ Каля 100 манастыроў, падвор'яў і праваслаўных прыходаў Беларусі, Расіі, Малдовы, Прыднястроўя, Украіны ўзялі ўдзел у 10-й духоўна-асветніцкай выстаўцы "Нараджэнне Хрыстова", якая праходзіла ў мінскім Палацы мастацтва. У праграму было ўключана больш як 30 мерапрыемстваў: семінары і гутаркі са святарамі, канцэрты, прэзентацыі новых кніг і фільмаў.

✔ У Віцебску завершана рэстаўрацыя калекцыі карцін Юрыя Пэна, якая вялася амаль два дзесяцігоддзі. З завяшчанных Віцебску некалі самім мастаком больш як 800 палотнаў горад атрымаў усяго 160 карцін, ды і тое толькі ў пачатку 1990-х гадоў. Большасць палотнаў былі замалёваны падчас папярэдніх рэстаўрацый. Сёння старанна адноўленыя творы Юрыя Пэна занялі пачэснае месца ў Віцебскім мастацкім музеі. Цяпер гэта самая вялікая ў свеце калекцыя карцін мастака.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Падводзім вынікі — складаем планы

**У Белпрэсцэнтры прайшла прэс-канферэнцыя на тэму "Вынікі працы Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 2011 годзе. Перспектывы дзейнасці ў сувязі з абвяшчэннем 2012 года Годам кнігі". Перад прадстаўнікамі СМІ выступіў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. На пытанні журналістаў разам з ім адказвалі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў і галоўны рэдактар газеты "ЛіМ" Тацццяна Сівец.**



*Фота Кастуся Дробава*

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

У сваім выступленні Мікалай Чаргінец спыніўся на такой значнай для пісьменніцкай арганізацыі падзеі, як сустрэча з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, якая адбылася 25 кастрычніка 2011 года. Пра тое, што размовы, якія вяліся на ёй, далі плён, можа сведчыць паступовае выкараненне такіх заганных з'яў, як нявыплата айчыннымі выдавецтвамі ганарараў пісьменнікам па тры-восем гадоў пасля таго, як кніга пабачыла свет, патрабаванне выдаўцамі ад літаратараў гарантый выкупу тыражоў іх кніг на 85 працэнтаў. Прэзідэнт уважліва выслухаў прэтэнзіі пісьменнікаў, звязаныя з ацэнкай кніг не па змесце, а па вокладцы. Аляксандр Рыгоравіч стаў ініцыятарам паездкі групы пісьменнікаў па Мінскай і Магілёўскай абласцях, падчас якой творцы ўбачылі, хто з'яўляецца сапраўднымі героямі нашага часу, змаглі адказаць сабе на пытанне, якіх кніг чакаюць сённяшнія чытачы. Стала відавочна і тое, чаму правінцыя мала знаёмая з кнігамі сучасных айчынных пісьменнікаў — у раённых гарадах і вёсках беларуская літаратура ў бібліятэках прадстаўлена кнігамі, выдадзенымі 20, а то і 30 гадоў таму.

Аляксандр Рыгоравіч падтрымаў прапанову членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі абвясціць 2012 год Годам кнігі. Мікалай Чаргінец распавёў журналістам, што ў сувязі з гэтым кіраўніцтвам СПБ ужо складзены планы работы і падрыхтаваны канкрэтныя прапановы ў адпаведныя міністэрствы. "Мы не забыліся, — адзначыў старшыня СПБ, — пра юбілеі нашых класікаў Купалы, Коласа, Танка. Памятаем пра 11-50-годдзе Полацка — унеслі прапанову аб правядзенні за кошт Саюза пісьменнікаў літаратурных конкурсаў з прэміямі, сувенірамі для пераможцаў. Абавязкова будзе праведзены пашыраны Пленум СПБ на тэму "Пісьменнік — выдавецтва — бібліятэка — чытач". Абмяркоўвалі мы ўжо і сумесны ўдзел з Беларускай Праваслаўнай Царквой у шэрагу духоўных мерапрыемстваў. Будуць ладзіцца літаратурныя чытанні ў розных населеных пунктах Беларусі, сумесныя мерапрыемствы з Інстытутам беларускай мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І, безумоўна, мы запланавалі выданне вялікай колькасці кніг з нашымі добрымі сябрамі, выдавецтвамі "Харвест" і "Чатыры чвэрці", якія друкуюць нас бясплатна, што немалаважна ў эканамічна нялёгкі час".

Адказваючы на пытанні журналістаў, пісьменнікі запэўнілі прысутных, што СПБ, заяўляючы пра неабходнасць перагледзець школьныя праграмы па беларускай літаратуры, не мае на мэце рэвалюцыйныя змяненні ў выкладанні прадмета, а праўляе зацікаўленасць у тым, каб у праграму было ўнесена як мага больш імёнаў нашых сучаснікаў. Паведамілі, што да дыялогу, безумоўна, літаратурная, з калегамі з Саюза беларускіх пісьменнікаў у СБП не толькі гатовыя, але і вядуць яго — у выніку многія члены СПБ пераходзяць у Саюз пісьменнікаў Беларусі. Расказалі пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы і сучасныя выдавецкія праекты з калегамі з іншых краін. Журналістаў цікавіла, ці маюцца сёння творцы, якія маглі б прэтэндаваць на званне "Народны пісьменнік Беларусі". Адказ на гэтае пытанне быў станоўчым. У той жа час Мікалай Чаргінец падзяліўся з прысутнымі сваімі разважаннямі наконт мэтазгоднасці гэтага звання. Дбанне пра беларускую мову стала асобнай тэмай гутаркі з прадстаўнікамі прэсы. Пісьменнікі паведамілі, што СПБ робіць усё дзеля таго, каб заахвоціць літаратара пісаць па-беларуску, а чытача — па-беларуску чытаць. Аднак працэс прапаганды беларускага слова, як паказаў вопыт, не выносіць катэгарычнасці і прымусовасці.

## Прынятыя ў СПБ



**ПАЎЛЮЧЭНКА**
**Вольга Міхайлаўна**
***Публіцыст, паэт***

Нарадзілася 25 жніўня 1965 года ў г. Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала ў газетах "Дзеці і мы" ("Сям'я") Беларускага дзіцячага фонду, "Веды" Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, "СБ. Беларусь сегодня", часопісах "Вясёлка", "Родная природа" (намеснікам галоўнага рэдактара — адказным сакратаром). Аўтар кніг "Пока на свете есть сирень" (2009), "Городская трава" (2011).



**ТУЛУПАВА**
**Ірына Зігмундаўна**
***Празаік, публіцыст***

Нарадзілася 5 кастрычніка 1960 года ў г. Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1983 г.). Працавала на Беларускім радыё, у Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку, часопісе "Гаспадыня". З 2006 года — рэдактар аддзела публіцыстыкі штотыднёвіка "ЛіМ". Апавяданні друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Полымя", апавяданні і вершы — у газеце "Літаратура і мастацтва". У 2011 г. выйшла кніга прозы "Шчасце на парозе тваім". Сябра Беларускага саюза журналістаў. Лаўрэат прэміі БСЖ "Залатое пяро".



**ШОСТАК**
**Адам Міхайлавіч**
***Паэт, празаік***

Нарадзіўся 14 чэрвеня 1982 года ў г. Баранавічы. Скончыў Баранавіцкае музычнае вучылішча і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Працуе ў выдавецкім доме "Внешняя торговля". Аўтар кніг паэзіі і прозы "Спатканне Не" (2006), а таксама шматлікіх публікацый у перыядычным друку. Займаецца мастацкім перакладам. З'яўляецца лаўрэатам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, лаўрэатам рэспубліканскіх і міжнародных паэтычных конкурсаў.

## Падзея

# Стыпендыі для творцаў

Аляксей ГАРБУНОЎ

На падставе рашэння Прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі аб вылучэнні штогадовых стыпендый членам Саюза пісьменнікаў Беларусі згодна з заяўленнямі і рашэннем экспертнай камісіі на 2012 год з пазабюджэтнага фонду вылучаны стыпендыі дзевяці пісьменнікам ва ўзросце да 40 гадоў і двум — ва ўзросце пасля 40 гадоў.

Стыпендыятамі сталі Аляксандр Бараноўскі, Юрый Максіменка, Рагнед Малахоўскі, Аляксей Несцераў, Наталля Пусцільнік-Марчук, Надзея Саўчук, Алена Свечнікава, Тацццяна Сівец, Марыя Цітарчук. А таксама іх старэйшыя калегі Аркадзь Груздзь і Канстанцін Жук. Загад падпісаны старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом.

## Водгалас

# Конкурс памяці Багдановіча

Дар'я ШОЦІК

У мастацкай галерэі "БелАРТ" адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу дзіцячых малюнкаў "Зорка Венера", прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

У конкурсе ўдзельнічалі дзеці з усёй Беларусі. Журы выбірала пераможцаў у трох узроставых групах: 7 — 9, 10 — 12 і 13 — 17 год. Пераможцамі ў намінацыях "Лепшы малюнак" і "Лепшая ідэя" сталі Ксенія Дзямідава, Ганна Антанышава, Мелана Курыловіч, Кацярына Матусевіч, Марыя Уласава, Уладзімір Баран.

На цырымонію завіталі прадстаўнікі выдавецтва "Пачатковая школа" на чале з дырэктарам Наталляй Ванінай, супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску ды самі ўдзельнікі конкурсу.

## Святы

# Пад Каляднаю зоркаю

Міра ІЎКОВІЧ

**Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту 15 студзеня а 13-й гадзіне запрашае на свята "Шчадрэц".**

"Шчадрэц", або "Шчодрая куцця", — вечар напярэдадні свята Васіля Вялікага (першага дня Новага года паводле старога стылю), які адзначалі падчас Каляд. Адметнасцю сёлетняга свята ў музеі стане дэманстрацыя абраду, які захаваўся ў вёсцы Рог Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Выканае яго народны фальклорны калектыў "Палескія крыніцы". Дарэчы, салігорскі "Шчадрэц" унесены ў спіс нематэрыяльнай спадчыны Беларусі.

У калядней праграме возьмуць удзел народны тэатр-студыя гульні "Прымакі" з вёскі Ахонава Дзятлаўскага раёна, дзіцячы ўзорны калектыў народнай песні "Валошкі" сталічнага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў, даўні сябар музея — фальклорны калектыў "Мілавіца" Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі "Ветразь" Кастрычніцкага раёна г. Мінска. Лялечны тэатр "Батлейка" падорыць сустрэчу з народным мастацтвам мінулага.

Усе наведвальнікі змогуць узяць удзел у традыцыйным конкурсе "Калядная зорка". Таму захапіце на свята сваю Калядную зорку і станьце пераможцам! А яшчэ кожны зможа пазнаёміцца з экспазіцыяй музея, зрабіць незабыўныя фотаздымкі і набыць адмысловыя сувеніры ад народных майстроў.

Літабсягі

# Музыканты віншавалі паэта

Ірына АЛЯКСАНДРАВА

**Паэту-песенніку Івану Цітаўцу споўнілася 75 гадоў. Юбілейная вечарына творцы, арганізаваная Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і народным клубам кампазітараў і паэтаў "Жывіца", прайшла ў вялікай зале Дома літаратараў.**

"Без добрага слова і гутарка не бяседа, а без песні і весялосць не свята", — гэтымі словамі, якія прагучалі ў самым пачатку вечарыны, была азначана і ўся яе скіраванасць. Юбіляра прыйшлі павіншаваць кампазітары і выканаўцы, для якіх сустрэча з яго паэзіяй стала момантам натхнення і радасці. Песень, напісаных на словы Цітаўца, хапіла на паўнавартасны вялікі канцэрт, у якім знайшлося месца для нумароў, падрыхтаваных прафесійнымі музыкантамі, і для мастацкай самадзейнасці, і для дзіцячых выступленняў.

З асаблівымі пачуццямі прысутныя віталі вакальную групу Мінскага ваеннага суvoраўскага вучылішча. Адкрываючы вечарыну, хлопчыкі прапанавалі ўвазе публікі песні "Армія магутная" на музыку Ізмаіла Капланава і "Герой Калабанаў" на музыку Аркадзя Гофмана. Суvoраўцам жа выпаў гонар і завяршаць юбілейнае свята — песняй "Беларусь дарагая" на музыку кіраўніка народнага клуба "Жывіца" Ірыны Карнаухавай.

Калі разважаць па-філасофску, то можна прыйсці да высновы, што сёння ў большасці выпадкаў шырокавядомым паэта робіць кампазітар, які пакладзе яго словы на музыку. У гэтым сэнсе Івану Цітаўцу пашчасціла. З яго тэкстамі працавалі такія цікавыя кампазітары, як Якаў Навуменка, Яўген Дзеравянка, Міхась Слізкі, Анатоль Мяккі, Вольга Кашэвіч, Дзмітрый Сушко. На вечарыну да паэта завітаў і самы, напэўна, тытулаваны беларускі кампазітар-песеннік Ігар Лучанок, некалькі песень якога былі прадстаўлены публіцы ў канцэрце. Між іншым, юная выканаўца адной з іх — Паліна Ласкіна — сарвала ледзь не самую вялікую колькасць апладысментаў і ўсмешак. Яна спявала пра Чырвоны Каптурок пад акампанемент самога кампазітара.

У гэты вечар слухачоў радавалі сваім мастацтвам Ансамбль народнай музыкі "Свята", заслужаны артыст Беларусі Іван Краснадубскі, Ірына Чубрыкава, Вольга Нупрэйчык, Яўген Ермалковіч, салісты эстраднай студыі "Аванці". Многія з іх казалі шчырыя словы падзякі паэту, які падарыў ім яркія тэксты песень і цікавыя вобразы для сцэнічнага праўвасаблення.



Кульмінацыяй свята стала ўзнагароджанне юбіляра Дыпломам Саюза пісьменнікаў Беларусі за адметны ўнёсак у развіццё паэтычна-песеннага жанру ў айчыннай літаратуры. Яго ўручыў Івану Цітаўцу старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў.

***На здымку:* паэт-песеннік Іван Цітавец.**

Артлінія

# Імя ў мастацтве

**Знакавай падзеяй для творчай і навуковай інтэлігенцыі, адметным праектам у культурным жыцці краіны сталася выстаўка, падрыхтаваная Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі да 80-годдзя з дня нараджэння яго незабыўнага дырэктара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Юрыя Карачуна (1931 — 1997).**

Лана ІВАНОВА

Два дзесяцігоддзі прабыў Юрый Аляксандравіч на чале галоўнай мастацкай скарбніцы краіны, прыняўшы дырэктарскі чын ад Алены Аладавай у 1977 годзе. Выдатны арганізатар і гаспадар адказнай справы, адметны мастак-графік, эрудыт, надзелены тонкім густам і чуццём на таленты, ён паспрыяў годнаму папаўненню музейных фондаў творамі беларускіх майстроў. Захоўваў навукова-даследчую і выдавецкую дзейнасць супрацоўнікаў музея і сам удзельнічаў у такой працы — як аўтар манаграфіі "Яўген Зайцаў" і ўступных артыкулаў да музейных альбомаў ды каталогаў, складальнік альбомаў "Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі", "Янка Купала ў творчасці мастакоў", "Якуб Колас у творчасці мастакоў", навуковы кансультант "ЭЛіМБел". Падтрымліваў моладзь: музейны праект 1990-х "На галерэі", прысвечаны паказу новага айчыннага мастацтва, — ініцыятыва дырэктара. Важкі ўнёсак зрабіў ён у развіццё філіялаў музея, у арганізацыю Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, Музея В. К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, Мазырскай карціннай галерэі ў вёсцы Гурыны, архітэктурнага комплексу ў Гальшанах, Палацава-паркавага комплексу ў Міры, сталічных Мемарыяльнага музея-майстэрні З. І. Азгура ды музея "Дом Ваньковічаў". Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.", у запачатkаванне будаўніцтва новага корпуса Нацыянальнага мастацкага музея.

Гэтая выстаўка для многіх адкрыла складаную і яркую Асобу. Жыццё Ю. Карачуна, які нарадзіўся ў Мінску, пачалося з выпрабаванняў: пяцігадовая ссылка ў Краснаярскі край разам з рэпрэсіраваным бацькам; прытулак у сваякоў пасля вяртання ў Мінск; вайна і эвакуацыя ў Казахстан... Па прызванні паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Затым скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут як мастак-графік, абараніўшы дыпломную работу "Мастацкае афармленне кнігі вершаў Петруся Броўкі «А дні ідуць... »". Працаваў Ю. Карачун мастацкім рэдактарам выдавецтва "Ураджай", загадчыкам рэдакцыі Дзяржкамвыда БССР, рэдактарам мастацка-экспертнай калегіі па выяўленчым мастацтве, загадчыкам аддзела Міністэрства культуры БССР, загадчыкам аддзела рэкламы і прамграфікі Гандлёва-прамысловай палаты БССР... Працягваў займацца творчасцю і за мастацкае афармленне кніг атрымліваў узнагароды рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсаў.



Музейны праект, прысвечаны юбілею Ю. Карачуна, бліжэй знаёміць нас з віртуознай і пранікнёнай графікай майстра. Зацікавіліся і даследчыкі, бо некаторыя малюнкі, захаваныя родзічамі Юрыя Аляксандравіча, экспануюцца ўпершыню.

***На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Юрый Карачун.***

Повязі

# Узнагарода за «Даравanne»

Аліса ГАНЧАРОВА

**Першая сустрэча беларускай пісьменніцы Алены Брава з чытачом расійскай літаратурна-мастацкай перыёдыкі аказалася паспяховай: за аповесць "Даравanne", якая была надрукавана ў перакладзе на рускую мову ў № 6 расійскага літаратурна-мастацкага часопіса "Сибирские огни" (г. Новасібірск) за 2011 год, Алена стала лаўрэатам прэміі імя Канстанціна Сіманава з уручэннем залатога медаля і адпаведнага Дыплома.**




Гэтай узнагародай беларускую пісьменніцу ўганаравала Міжнародная Асацыяцыя пісьменнікаў баталістаў і марыністаў (г. Масква). Прэмія імя Канстанціна Сіманава прысуджаецца за творы героіка-патрыятычнай тэматыкі. Аповесць "Даравanne" ўпершыню пабачыла свет у часопісе "Маладосць" у лютым 2011 года. Урывак з аповесці быў надрукаваны ў "ЛіМе".

Медаль Міжнароднай Асацыяцыі пісьменнікаў баталістаў і марыністаў — усё ж не зусім звычайная ўзнагарода для жанчыны-пісьменніка. Яна, па прызнанні самой аўтаркі, стала для яе нечаканасцю.

— Прыемна, што твор быў заўважаны, не згубіўся ў патоку прозы, якая друкуецца ў шматлікіх расійскіх літаратурна-мастацкіх выданнях, — кажа Алена Брава. — Урэшце, разглядаць той ці іншы аспект твора, яго змест ці форму — права таго, хто ацэньвае. Трэба думаць, адыграла ролю не толькі тэма "Даравання" — нечаканае рэха вайны ў сучасным жыцці герояў, а тое эмацыйнае ўздзеянне, якое робіць тэкст: эфект, у аснове якога — сплаў формы і зместу.

Дазволім сабе працытаваць водгук адной чытачкі "Сибирских огней": "Мой бацька і герой аповесці Алены Брава аднаго ўзросту. І тое, што расказана, доўга не адпускала мяне… Што закранула ў лёсе беднага Ганса, заложніка вайны, як і мой бацька? Што ён у вар'яцтве сваім шукаў вінаўніка смерці любімай беларускай дзяўчыны Зосі… Два старых. Абодва паміраюць у пакутах. Два салдаты. І горка мне сёння чытаць і плакаць. Плакаць па абодвух…" Такія водгукі чытачоў вельмі хвалююць і самі па сабе з'яўляюцца ўзнагародай для аўтара.

Дарэчы, прэмію і адпаведна медаль імя Канстанціна Сіманава ў гэтым годзе атрымаў таксама Алесь Бадак, паэма якога "Камяні" ў перакладзе расіянкі беларускага паходжання Любові Шашковай была надрукавана ў казахскім рускамоўным часопісе "Простор".

Пераклад на іншыя мовы робіць сучасную беларускую літаратуру здабыткам замежнага чытача. Сёння беларускаму аўтару гэта надта важна — быць пачутым і зразумелым.

З-пад пяра

Больш як 30 гадоў жыцця аддаў Мікола Маляўка часопісу "Вясёлка". І таму невыпадкова месцам святкавання яго 70-гадовага юбілею была абрана сталічная дзіцячая бібліятэка № 6 імя Васіля Віткі, з якой у рэдакцыі ўсталявалася цеснае супрацоўніцтва (летась тут нават быў адкрыты філіял музея "Вясёлкі"). Удзельнікі сустрэчы атрымалі магчымасць разам з паэтам нанова прайсці яго жыццёвымі і літаратурнымі сцяжынкамі, а выстаўка кніг юбіляра дапамагла ўзнавіць у памяці прачытаныя і пазнаёміцца з тымі, што яшчэ чакаюць свайго прачытання. Юбіляра віталі галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі, Анатоль Зэкаў, Анастасія Радзікевіч, Мікола Чарняўскі, Ніна Галіноўская, артысты лялечнага тэатра "Пацешка", які не першы год дзейнічае пры бібліятэцы.

**Анатоль ПАТАПАЎ**

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння жонкі паэта Уладзіславы Луцэвіч. Экспазіцыя музея расказвала пра бацькоў Уладзіславы Францаўны, яе інтарэсы, дапамагала ўявіць абставіны знаёмства з будучым мужам, інтэр'ер, у якім жыла сям'я, той шлях, якім яна ішла дзеля ўвекавечвання памяці Янкі Купалы. Выступілі людзі, асабіста знаёмыя з "цёцяй Уладзяй" — родзічы, выхаванцы, тыя, каму яна дапамагла вызначыцца з выбарам прафесіі: Жанна Дабкюнас, Тамара Тарасава, Вячаслаў Рагойша... Пра сяброўку Уладзіславы Францаўны Канстанцыю Буйло расказала Раіса Баравікова. Вершы, з любоўю і пяшчотай складзеныя жонкай Купалы для дзяцей, чыталі школьнікі. Мерапрыемства стала першай ластаўкай у шэрагу тых, што ладзіць музей да юбілейнага года Купалы.

**Вольга НОРЫНА**

Свята, прысвечанае Максіму Багдановічу, прайшло ў сталічнай сярэдняй школе з архітэктурна-мастацкім ухілам № 185. Спецыяльна для гэтага мерапрыемства настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Марынай Емяльянавай і вучаніцай 11 класа Тацянай Петрачковай была падрыхтавана арыгінальная кампазіцыя паводле твораў беларускага класіка. Праз усё тэатралізаванае дзеянне прайшлі Вадзянік і Русалка — персанажы беларускага фальклору — як сімвал мінуўшчыны. Юнак і Дзяўчына — як увасабленне будучыні Беларусі. Гучалі вершы Максіма Багдановіча і песні на яго словы. Паэт Мікола Маляўка расказаў прысутным пра тое, як упершыню адкрыў для сябе Багдановіча. Супрацоўніца выдавецтва "Мастацкая літаратура" Зося Кустава прадставіла кнігі, выдадзеныя да юбілею Максіма.

**Мікола РАГАВЫ**

Музей Біблії будзе створаны пры Інстытуце тэалогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Калекцыя экспанатаў збіраецца дзякуючы асабістым ахвяраванням. Аргкамітэт запрашае ўсіх неабыякавых людзей ахвяраваць дзеля добрай справы Біблії мінулых гадоў выдання, Біблії на розных мовах, а таксама карціны, скульптуры, кераміку, кнігі, карты, фотаздымкі, паштовыя маркі і грашовыя знакі, звязаныя з біблейскай тэматыкай. Першым жа экспанатам музея стаў такі характэрны дакумент эпохі, як вырваны з Бібліі лісток, выкарыстаны ў якасці пісчай паперы. Надпіс зроблены ў 1935 годзе старшынёй сельсавета: "Спраўка дадзена Званавай Яўгеніі Кузьмінічне ў тым, што яна па паходжанні сваім сялянка-калгасніца-серадначка". Каштоўны экспанат падарыў музею выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка Ігар Котаў.

**Лізавета ВІХУРА**

Алесь МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

# Пісьмо сумлення

**Алесь Савіцкі, як вядома, з таго пакалення, якое зведала ўсе жахі Вялікай Айчыннай вайны. Больш за тое, належыць да тых, хто ў маладым узросце мужна змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а пасля браў актыўны ўдзел у мірнай стваральнай працы. Зразумела, гэтыя сумленныя людзі не маглі не верыць савецкай уладзе. Яны цалкам падтрымлівалі ідэі сацыялізму, якія ўспрымаліся адзіна правільнымі і справядлівымі. Толькі цягам часу многае ў жыцці грамадства мяняецца. Як высветлілася, многае з таго, што ўспрымалася несумненнай ісцінай, насамрэч апынулася зусім не такім, як гэта не адно дзесяцігоддзе ўяўлялася.**

Канечне ж, гэта стала сапраўдным ударам. Некаторыя ад такой праўды захісталіся, завагаліся, не ведаючы, як паводзіць сябе далей. Знайшліся і такія, хто пачаў злараднічаць. Большасць жа — духоўна моцных, упэўненых у сабе, перажыўшы ўнутранае ўзрушэнне, сабраўшыся з сіламі, узяліся разбірацца ў тым, што адбылося і як адбылося. У рэшце рэшт, чаму адбылося. А. Савіцкі — акурат з гэтай па-грамадзянску стойкай і па-чалавечы сумленнай большасці. Ён з тых, хто здатны цвяроза мысліць, прыходзячы да высновы, што ў многім да дэградацыі грамадства прывяла страта спрадвечных маральных і духоўных каштоўнасцей, пазбаўленне ў жыцці правільных арыенціраў на карысць ілюзорных, выпадковых. Гэтыя працэсы негатыўна паўплывалі на моладзь, кожнае новае пакаленне якой і так часам знаходзіцца на ростанях. Ёсць пра што задумацца. Ёсць над чым паразважаць.

Такім роздумам і напоўнены раман А. Савіцкага "Пісьмо ў Рай". Дакладней, твор гэты, паводле аўтарскага вызначэння жанру, не проста раман, а раман-споведзь. Што адпавядае ісціне. Галоўны герой Андрэй Смоліч, які аднолькава добра раскрыў свае творчыя здольнасці і як пісьменнік, і як журналіст, спавядаецца пра тое, як жыў і чым жыў. Гранічна шчыры і адкрыты, ён раскрывае сваю душу, нічога не хаваючы. Нават такога, у чым, здавалася б, можна было не прызнавацца. Аднак герой разумее, што недагаворванне наўрад ці пойдзе на карысць у гэтай споведзі, бо спавядаецца ў першую чаргу перад самым блізкім чалавекам — бацькам. Да ўсяго лёс ягоны такі, што і ворагу не пажадаеш: Ануфрый Смоліч загінуў у гулагаўскім лагеры. Да яго і звяртаецца сын, праз адлегласць і смугу часу дасылаючы свой ліст у Рай:

"Даруй...
Даруй мне, татка родны...
Даруй мне,
мілы бацька мой, даруй...

Гэтае маленне студзіць сэрца штораз, калі ўглядаюся ў твае вочы на фотакартцы, якую ты збярог у фашысцкім палоне. Цяпер давяраю яго паперы і дасылаю табе ў Рай. Пераканы, што ты цяпер там, бо кожнаму на згоне жыццёвага шляху на зямлі небам дараваны толькі дзве дарогі — альбо Рай, альбо Пекла. Пекла ты адбыў тут, на зямлі. А двойчы туды, як кажуць мудрыя людзі, трапіць немагчыма".

Пекла Ануфрыя Смоліча — усе тыя сем кругоў, праз якія прайшоў ні ў чым не павінны чалавек. Дый адкуль той віне ўзяцца! Як толькі нямецка-фашысцкія захопнікі напалі на Савецкі Саюз, ён, не задумваючыся, узяўся за зброю. Праўда, доўга ваяваць не змог: "У сорак першым быў паранены на правым беразе Нёмана, непадалёк ад Гродна". Апынуўся ў палоне і за гэта быў асуджаны на пяць гадоў, трапіў на востраў Пуцяцін, што на Далёкім Усходзе. Пра гэта і паведаміў сам пасля вайны блізкім у сваім лісце. Нічога не ўтаіў, усё расказаў, роспачна прызнаўшыся: "І ведайце: мая віна толькі ў адным — не збярог і паспеў спаліць фінансавыя дакументы штаба, і не застрэліўся, бо барабан майго нагана быў пусты — усе кулі я паслаў па ворагу..."

У тым, што ніякай бацькавай віны няма, Андрэй Смоліч ні на хвіліну не сумняваецца. Таму адразу бярэцца за ўстанаўленне справядлівасці. А дзе шукаць яе?



Малады, але ўжо неаднойчы загартаваны ў баях, ён добра ведае, што адрасат ёсць адзін. Канечне ж, бацьку можа вызваліць самы справядлівы чалавек на зямлі. Гэта, у чым неаднойчы пераконвалі Андрэя, як і ўсіх савецкіх людзей, Сталін. Таму Смоліч і дасылае ліст "правадыру ўсіх народаў", наіўна думаючы, што той ва ўсім разбярэцца.

Памыляецца юнак, яшчэ як памыляецца! Нічога не дае не толькі гэты ліст, а і наступныя. А потым... У гэта немагчыма паверыць, але што адбылося, тое адбылося. Працуючы са сваёй брыгадай на выгрузцы з парахода лесу, ягоны бацька стаяў ля самага борта. Матрос нечакана ўключыў лябёдку і крук вагой да пуда ўдарыў небараку. Пра гэта паведаміў Андрэю нехта Філяеў, які ў лісце назваўся "таварышам па рабоце" Ануфрыя Смоліча. Выпадковасць? А можа... Андрэй паступова пераконваецца: "...Ліставанне іх (начальства лагера — **А. М.**) напалохала... Сябе ратуючы, яны татку пад абух і кінулі..."

Чытач, добра знаёмы з творчасцю А. Савіцкага-раманіста (як вядома, ён паспяхова выступае і ў іншых празаічных жанрах, дый публіцыст такі, якіх пашукаць трэба), не мог не звярнуць увагу на тое, наколькі ўдала пісьменнік валодае сюжэтам, як па-майстэрску ўводзіць у ягоную канву новыя адгалінаванні, якія арганічна ўпісваюцца ў кампазіцыю ўсяго твора, узмацняючы ягонае гучанне, ператвараючы яго ў мастацкае палатно, у якім усё да месца і ўсё працуе на агульную мастакоўскую задуму.

> *"А мінулае ты ніколі не падманеш, бо яно табе непадуладнае. <…> Мінулае табе ніколі і нічога не даруе. Яго не зменіш, не пераробіш, не ўпросіш зрабіцца лепшым, прыгажэйшым, у ім ты не выправіш нават дробненькую памылку, ніводнае слова і гук, і ўсе твае апраўданні і маленні яно, тваё мінулае, маўкліва прапусціць гэтак жа, як прапускае вецер раскінутая нахлашч брама. Тваё мінулае заўжды застаецца гэткім, якім яно было".*

Раман-споведзь "Пісьмо ў Рай" — лішні таму доказ. Знаходжанне ў лагеры, а потым гібель Ануфрыя Смоліча — нібы пралог твора. Зразумела, падобнае вызначэнне ўмоўнае. Тым не менш, менавіта зыходзячы з гэтага, А. Савіцкі і разгортвае асноўнае дзеянне рамана-споведзі, сутнасць якога (маецца на ўвазе дзеянне) зводзіцца да таго, каб праўдзіва паказаць, як час палымнае праламляецца ў лёсе Андрэя Смоліча, а сам ён, жывучы ў гэтым часе, як бы вырываецца за яго межы.

Паколькі ж раман у цэлым, за выключэннем першага і апошняга раздзелаў, — менавіта споведзь галоўнага героя, то і аповед вядзецца ад першай асобы. Значыць, на тое, што было некалі, Андрэй глядзіць ужо з пазіцыі сённяшняга дня. Гэта выйгрышны момант для пісьменніка. Ёсць магчымасць дазволіць галоўнаму герою рабіць пераацэнку свайго колішняга жыцця.

> *Алесь Савіцкі з тых, хто здатны цвяроза мысліць, прыходзячы да высновы, што ў многім да дэградацыі грамадства прывяла страта спрадвечных маральных і духоўных каштоўнасцей, пазбаўленне ў жыцці правільных арыенціраў на карысць ілюзорных, выпадковых. Гэтыя працэсы негатыўна паўплывалі на моладзь, кожнае новае пакаленне якой і так часам знаходзіцца на ростанях. Ёсць пра што задумацца.*

Праўда, была небяспека, што аўтар паспрабуе ідэалізаваць свайго "я-героя". Аднак гэтага не адбылося таму, што А. Савіцкі на дзіва сумленны як у пошуку самой праўды, так і ў імкненні разабрацца, наколькі пакаленне, да якога належыць Андрэй Смоліч, сваім жыццём, паводзінамі адпавядала тым ідэалам, да якіх яно імкнулася, і ў якой ступені ідэалы гэтыя з'яўляліся падманнымі і ілюзорнымі.

Галоўны герой рамана — у пэўнай ступені такі, як усе. Правільней, як шмат хто з пакалення, да якога Андрэй належыць. У яго было партызанскае юнацтва. Ён перажыў здраду дзяўчыны, якая была першым ягоным каханнем. Не прынесла шчасця і першая жаніцьба — тая, у кім ён бачыў сямейнае шчасце, аказалася не такой, як яму ўяўлялася. Няпроста далася і вучоба ў прэстыжным маскоўскім інстытуце... Затое цяпер, на схіле сваіх дзён, ён можа адчуваць сябе шчаслівым, бо поруч тыя, каго любіць і хто любіць яго. Атрымліваецца, што спрадвечнае супрацьстаянне Зла і Дабра закончылася перамогай апошняга. Шкада, аднак, што такой вялікай цаной, і шмат чаго з мінулага хацелася б назаўсёды забыць.

У рамане моцныя публіцыстычныя моманты. Праўда, у асобных месцах, як на маю думку, іх можна было б крыху паслабіць, абмежаваўшыся ўнутранай публіцыстычнасцю, а то і зусім зняць, як у выпадку з вядомым выказваннем Далеса наконт таго, як трэба "прамываць" мазгі савецкіх людзей. Але гэта не так істотна. У цэлым публіцыстычны пафас да месца. Асабліва гэта датычыць тых момантаў, што дазваляюць усвядоміць, як ставіцца да нашай нядаўняй гісторыі.

Узяць хоць бы гэтае меркаванне: "А мінулае ты ніколі не падманеш, бо яно табе непадуладнае. <…> Мінулае табе ніколі і нічога не даруе. Яго не зменіш, не пераробіш, не ўпросіш зрабіцца лепшым, прыгажэйшым, у ім ты не выправіш нават дробненькую памылку, ніводнае слова і гук, і ўсе твае апраўданні і маленні яно, тваё мінулае, маўкліва прапусціць гэтак жа, як прапускае вецер раскінутая нахлашч брама. Тваё мінулае заўжды застаецца гэткім, якім яно было".

Таму так балюча Смолічу сутыкацца з выпадкамі, калі знаходзяцца нягоднікі, гатовыя апаганіць помнікі і мемарыялы: "У большасці сваёй гэта нашы, айчынныя вандалы, пацукі нашае ўласнае гадоўлі, і раскашуюць яны з нашае ласкі, з нашае дабрыні, неабачлівасці, лагоды". Не менш страшны і вандалізм духоўны. Праяўленне яго, бадай, нават у большай ступені наносіць урон маральнасці, спаконвечным ідэалам дабра і справядлівасці. Вандалаў, якія апаганілі партызанскі мемарыял непадалёку ад Полацка, можна пакараць. Але як быць з рознымі Антонамі Шаўлюкамі?

Антон Шаўлюк — унук аднаго з тых, хто нямала рабіў бяды ў гады сталінізму. Канечне, за дзеда ён не адказвае. Аднак, "чалавек новага і ўчэпістага пакалення", Шаўлюк, хоць і любіць паразважаць (часам і правільна) пра тое, напрыклад, як трэба развіваць бізнес, у сапраўднасці нічога святога за душой не мае. Ён, не абцяжарваючы сябе згрызотамі сумлення, грэе рукі на выданні кнігі былых гулагаўцаў. Дый адкуль з'явіцца сумненням, наколькі непрыстойны гэты яго ўчынак, калі сваё стаўленне да ўспамінаў тых, хто перажыў сталінізм, ён выказаў яшчэ раней: "Кніга Філяева выдадзена, помнікам героям яе можна лічыць. А хто і як на яго будзе маліцца — нам тое ведаць не дадзена. У дзеда была свая праўда, у нас — свая. І гэта нязменна: новыя пакаленні жывуць па сваёй праўдзе. Так што эпас нашага дзеда ўжо нічога не зменіць".

Як быццам і ўчапіцца няма за што. Аднак гэта толькі на першы погляд. З пункту гледжання самога Шаўлюка і яму падобных. Аднак ёсць яшчэ і праўда, якая забыццю не падуладная — праўда пакалення Андрэя Смоліча. Праўда тых, а гэта хочацца асабліва падкрэсліць, хто жыў так, як і мусіць жыць чалавек сумленны. Насуперак тым, для каго гэтае сумленне і выедзенага яйка не варта. Таму Андрэй і ўзяўся разблытваць гісторыю лёсу свайго дзеда, а разам з тым пераасэнсоўваць сваё стаўленне да падзей, што спадарожнічалі і яму самому на працягу жыцця.

Кожны такі роздум — няпросты. Аднак ад яго нікуды не дзенешся, бо гэта неабходна для душэўнага самаачышчэння. Неабходна, няхай такое сцвярджэнне не падасца празмерна гучным, таму што ўступаць у заўтрашні дзень з бруднымі думкамі і намерамі недаравальна злачынна. З маральнага боку недаравальна. Андрэй Смоляк ужо мог неаднаразова ўпэўніцца, што і маральны суд таксама шмат значыць. Як над іншымі, так і над самім сабой. Бо тое, што робіцца ў табе самім, таксама важна для грамадства, таму што ты з'яўляешся ягонай часткай: "Тут Антон, вядома ж, мае рацыю: у свеце яны сапраўды нічога не зменяць (маюцца на ўвазе гулагаўскія запісы — **А. М.**). Затое ў маёй душы змянілася шмат: амаль усе падрабязнасці таго, што здарылася з табой (мае на ўвазе свайго бацьку — **А. М.**), я цяпер ведаю. Аднак Антонаву выснову — "У дзеда была свая праўда, у нас — свая" — маё сэрца не хоча прыняць і аніколі з ёй не пагадзіцца, калі Яўгенка, мой унук, а твой праўнук, не паставіцца з павагаю да праўды, па якой мы жылі, дык чаго яна, тая наша праўда, вартая? І навошта тады было па ёй жыць, адстойваць яе і за яе змагацца?"

Нельга не пагадзіцца з вядомым даследчыкам літаратуры Таццянай Шамякінай: "Раман Савіцкага прасякнуты вялікім гуманістычным, жыццесцвярджальным пафасам. Сцвярджэнне жыцця — як і ў папярэдніх творах — адбываецца як сцвярджэнне дабра, прыгажосці, міру, кахання, сям'і, працы, любові да сваёй зямлі — тых самых каштоўнасцяў, якія маюць універсальны характар і з'яўляюцца ўмовай выжывання роду чалавечага. Уласнае шчасце чалавек павінен бачыць не ў тым, каб шмат чым валодаць, а ў тым, каб шмат чым бачыць. Укараненне такой жыццёвай мудрасці праз мастацкую літаратуру заўсёды лічыў сваёй галоўнай місіяй пісьменнік-патрыёт".

Варта заўважыць, што раман "Пісьмо ў Рай" выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка", а гэта лішні раз сведчыць пра тое, што і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, па заказе і пры фінансавай падтрымцы якога ажыццёўлена выданне, і "Мастацкая літаратура" першаступенную ўвагу надаюць акурат тым творам, якія могуць стаць для падрастаючага пакалення сапраўднымі падручнікамі жыцця. "Пісьмо ў Рай" А. Савіцкага — гэта пісьмо сумлення аднаго са старэйшын беларускай літаратуры.

# Выявай духу будзе творчасць Караткевіча

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

**Гаворачы пра Уладзіміра Караткевіча, баішся збіцца на банальнасць. Імя яго шмат значыць. Шляхетны, годных паводзін, рамантычны і аптымістычны. І Пераможца.**

Пра У. Караткевіча многа быць не можа. У апошнія гады з'явілася шмат цікавых і змястоўных кніг, манаграфій, прысвечаных творчасці пісьменніка, успамінаў блізкіх яму людзей: бліскучая кніга А. Мальдзіса "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча", манаграфіі В. Шынкарэнкі "Пад ветразем дабра і прыгажосці: жанрава-стылявыя асаблівасці прозы У. Караткевіча", "Нястомных пошукаў дарога: праблемы сучаснай беларускай гістарычнай прозы", І. Штэйнера "«Свет шчодры. Свет мяне паўторыць…»: паэзія У. Караткевіча і класічныя традыцыі", А. Вераб'я "Уладзімір Караткевіч: Жыццё і творчасць", кніга "Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!: успаміны, інтэрв'ю, эсэ" (укладанне Г. Шаблінскай) і многія іншыя. Аднак кожны новы зварот да асобы У. Караткевіча запатрабаваны як аматарамі прыгожага пісьменства, так і даследчыкамі літаратуры. "Попыт" на У. Караткевіча толькі павялічваецца. Цікавая сама асоба пісьменніка, яго эрудыцыя, талент, патрыятызм, захапляюць інтэлектуалізм, эмацыянальная раскаванасць яго творчасці.

Парадаваў выхад кнігі "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы"(укладальнікі А. Верабей, М. Мінзер, С. Панізнік. — Мінск, "Літаратура і Мастацтва"). Кніга складаецца з трох частак: эсэ Алега Лойкі "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі", "«Белая песня ў лугах залацістых…»: Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева", "«Свет мяне паўторыць»: творы, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу".

Пра эсэ Алега Лойкі дакладна сказана Анатолем Верабʼём у прадмове "Подзвіг творцы": "Твор сведчыць пра подзвіг Алега Антонавіча як пісьменніка і навукоўца, пра яго самаахвярнае служэнне мастацкаму слову. Сабраўшыся з сіламі, Алег Лойка <…> не толькі асэнсаваў постаць Уладзіміра Караткевіча, але і выявіў уласную постаць…" У паэме — так абазначыў жанр свайго твора сам Алег Антонавіч — суб'ектыўнасць аднаго творцы (У. Караткевіча) накладваецца на суб'ектыўнасць другога творцы (А. Лойкі), што ў значнай ступені і нараджае незвычайную аўру паэмы, яе своеасабліва-ўзнёслую танальнасць.

З першых сказаў зачароўвае сам рытм лойкаўскага апавядання: "У цэнтры гэтае паэмы будзе Уладзімір Караткевіч. І назва яе будзе з аднаго імя і аднаго прозвішча, хоць, напэўна, будзе і падзагаловак, бо вельмі хочацца, каб ён знайшоўся, і быў незвычайным, надзвычайным, якім быў Уладзімір Караткевіч — паэт, пісьменнік, чалавек, беларус, сябра не толькі мой…" Алег Лойка называе У. Караткевіча геніем, рэфрэнам праз увесь твор гучыць пра пісьменніка "надзвычайнае аб надзвычайным", "тое, што стала незвычайным, звычайна пачынацца не магло!", "быць вялікім была яго наканаванасць…"

Канечне ж, Алег Антонавіч не мог напісаць пра У. Караткевіча твор нецікавы, халодна-адасоблены. У яго эсэ ўсё дарэчы: і ўспаміны, і цытаты з лістоў і твораў У. Караткевіча, і разважанні над яго творамі, уласная філасофія і эстэтыка Алега Лойкі. І эмоцыя. Узнёслая. Што дазваляе літаральна *адчуць* і У. Караткевіча, і Алега Лойку.

Эсэ "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі" — вынашанае, унутрана перажытае. Тут шмат не толькі пра У. Караткевіча, але і пра літаратуру, пра таямніцу нараджэння Творцы і Твора, нашу гісторыю, урэшце, нас саміх.

Перачытваючы эсэ, ловіш сябе на думцы: якім жа добрым філолагам быў Алег Антонавіч! Чаго вартая ягоная рэцэпцыя твораў У. Караткевіча. Такое глыбокае, асобаснае ўчытванне ў твор, яго смакаванне, адчуванне. Дастаткова згадаць аналіз апавядання "У шалашы", апісанне навальніцы. Альбо прачытанне "Пралога" да рамана "Нельга забыць". Як жа трэба адчуць гэтыя метафары, эпітэты, параўнанні! Як жа трэба любіць, адчуваць і шанаваць Слова! Праз увесь твор праменіць паэтычная душа самога А. Лойкі.

Дакладна і ёміста акрэслівае А. Лойка сутнасць жыцця і творчасці У. Караткевіча: "…вывай духу будзе творчасць Караткевіча…", "Уладзімір Караткевіч — беларус да мозга касцей — гэта перш за ўсё. Але мы тут падкрэслім не веліч патрыятызму пісьменніка, а тое, што яго ніяк не было б як пісьменніка, каб не валадарніцтва ягонага характару, каб не моц, сіла, магутнасць яго характару".

"Выявай Духу"… Гэта думка пастаянна гучыць на старонках кнігі "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы". А. Лойка адзначае: "Дух Уладзіміра Караткевіча <…> — дух Святла, нецярпімасці да подласці, разумны дух — велікадушны па-рыцарску, беларуска-волатаўскі, наддняпроўскі, машэкава-курганны і хлебасольны па-сялянску". У прадмове Сяргея Панізніка чытаем: "Мы не звыкліся будзённа ўзгадваць чыннасць Асобы, найвышэйшыя песні моцных духам ахвярнікаў, будзіцеляў, званароў…" У прачулых словах Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна:

*Уладзімір Караткевіч прыйшоў,*
*Каб сцвердзіць жывучасць*
*І трываласць духу беларускага…*

Наколькі дакладнае спасціжэнне У. Караткевіча, галоўнага пасылу яго творчасці. Так, скразны матыў рамана "Каласы пад сярпом тваім" выяўлены ў словах Алеся Загорскага: "У рабстве гіне дух".



Пра агульны пафас творчасці У. Караткевіча Алег Лойка ізноў жа выказаўся з уласцівай яму паэтычнасцю і трапнасцю: "Адны героі ўпрыгожвалі месца, другія ізгоілі яго: або ўпрыгожвалі Беларусь, або ізгоілі яе, або ўслаўлялі, або нявечылі, або захаплялі душу і сэрца пісьменніка, або прымушалі жыць абурэннем, заміраць ад абурэння, ад асуджэння эгаізму, подласці, здрадлівасці і зыску".

Алег Лойка адзначае максімалізм У. Караткевіча: у шырыні душы, у таленце, у стаўленні да людзей і стаўленні да літаратуры: "І паэзію ён ацэньваў, зыходзячы з гэтага, калі кепскі чалавек, як можна лічыць яго вялікім паэтам. Паэзію тых, каго ён лічыў кепскімі людзьмі, ён не прымаў". Вельмі цікавае і роздумнае сведчанне: ці можа няварты чалавек пісаць вартыя творы? Сапраўды, "геній і злачынства — рэчы несумяшчальныя". Як пісаў сам У. Караткевіч:

*Мужчыны і жанчыны сонмам цэлым*
*Імкнуцца здрадзіць,*
*край свой ашукаць.*
*Я проста ў гэтым не прымаю ўдзелу.*
*Няма мяча, дык чыстай будзь рука.*
*("Аб існаванні подласці й наветаш")*

Сяргей Гандлеўскі назваў паэзію максімалісцкім мастацтвам: "Паэзія акумулюе ідэалізм". Да творчасці У. Караткевіча гэтыя словы стасуюцца найлепш.

Алег Лойка падае вельмі трапныя цытаты з У. Караткевіча, што так дакладна характарызуюць яго і як пісьменніка, і як чалавека: "Калі вытрымаем — значыць, тыганы і не памрэм. Калі не вытрымаем — туды нам і дарога, шэлег нам кошт і смецце нам магіла. Іншага мы не варты. І хай яны тады здыхаюць, такія ўладары думак і такі народ, не пераводзяць дарма хлеб. Таму што кожны купляе права на жыццё маральнай стойкасцю, веліччу душы, у якую ніхто не мае магчымасці запусціць лапы".

Прачула пра У. Караткевіча і А. Лойку сказана ў эпілогу У. Дамашэвіча "Два птахі высокага палёту": "Галгофа — шлях пакуты, пройдзены сынам Божым, гэта шлях подзвігу. Нашы нацыянальныя геніі Уладзімір Караткевіч і Алег Лойка прайшлі гэты шлях, наканаваны кожнаму, гераічна, нястомна, пранеслі свой крыж, не схіліўшы галовы. Яны падаюць нам прыклад на ўсе наступныя гады і стагоддзі".

У раздзеле "«Белая песня ў лугах залацістых…»: Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева" змешчаны вершы У. Караткевіча, прысвечаныя Ніне Молевай, выкладчыцы пісьменніка на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Сёння многа напісана пра ўзаемаадносіны У. Караткевіча і Н. Молевай, ці дакладней, адносіны У. Караткевіча да Н. Молевай, якая стала прататыпам гераіні рамана "Нельга забыць". (Дарэчы, цыкл артыкулаў Дзяніса Марціновіча, прысвечаны гэтай тэме, якраз друкаваўся ў газеце "Літаратура і мастацтва"). Раздзел цікавы тым, што тут сабраныя разам і змешчаныя ў храналагічнай паслядоўнасці творы, прысвечаныя Н. Молевай, лісты пісьменніка і дарчыя надпісы У. Караткевіча жанчыне, якая так узрушыла яго сэрца. Што дае магчымасць большаму набліжэнню да постаці класіка нашай літаратуры. Паказальна, што ў зборніку "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы" ўпершыню надрукаваныя як асобныя вершы У. Караткевіча, так і падрадковыя аўтаперакладу на рускую мову. Асабліва парадавала публікацыя паэмы "Родина". Твор вылучаецца глыбокай пранікнёнасцю, сілай патрыятызму. Хораша, што здараюцца такія адкрыцці.

Трэці раздзел "Свет мяне паўторыць" адкрываецца прачулай прадмовай Сяргея Панізніка "У векавечнай Бацькаўшчыне…", які называе У. Караткевіча Дойлідам, Майстрам, Аратым, Сейбітам. С. Панізнік каля сарака гадоў збірае "водгаласы" пра У. Караткевіча, беларускіх творцаў і "блізкіх-далёкіх суседзяў па планеце": творы латышскіх, літоўскіх, цыганскіх, армянскіх, украінскіх, рускіх, в'етнамскіх паэтаў. Пэўна, мала каму з пісьменнікаў прысвечана столькі вершаў, як У. Караткевічу, што таксама гаворыць пра вартасць і значнасць здзейсненага ім. У гэтым жа раздзеле змешчаныя сяброўскія эпіграмы на У. Караткевіча і ўрывак з кнігі А. Мальдзіса "Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча", дзе пададзеныя асобныя выказванні пра Пісьменніка "людзей самых розных прафесій і нацый", што "сведчыць пра вялікую папулярнасць пісьменніка як у нашай краіне, так і за яе межамі".

Перачытваючы гэтыя выказванні, а таксама "Згадкі пра У. Караткевіча" нашых пісьменнікаў, крытыкаў, даследчыкаў літаратуры, думаеш, што калі Гасподзь пасылае нам такіх людзей, значыць, ён нас любіць. Словы пра У. Караткевіча, змешчаныя ў гэтым раздзеле, — добры эпіграф да ўрока па творчасці пісьменніка, яны сведчаць, што У. Караткевіч стаў па-чалавечы сваім, блізкім і тым, хто быў асабіста з ім знаёмы, і тым, каго пісьменнік паланіў сваімі творамі. Гэтыя выказванні настолькі трапныя, прачулыя, што хочацца працытаваць іх усе. Але што станецца тады з газетным артыкулам?

Урэшце, выхад кнігі — гэта і магчымасць яшчэ раз паразважаць уласна пра У. Караткевіча, *свайго* У. Караткевіча. Творчасць, жыццё яго — узор аптымізму. Прыклад таго, як можна захаваць чалавечую і мастакоўскую годнасць, не ісці на кампрамісы са сваім сумленнем. І перамагчы. У. Дубоўка ў свой час вельмі дакладна сфармуляваў:

*Жыццё закон нязломны мае:*
*Ніколі праўда не ўмірае.*

У. Караткевіч перамог. Перамагла яго праўда, яго канцэпцыя беларускай гісторыі, ягоны аптымізм, ягоная шляхетнасць і высакароднасць.

Канечне, кніга пра яго вельмі дарэчы. Дарэчы для ўсіх нас.

---

Школа добрых пачуццяў

## З любові, з жалю, са святла

Раіса БАРАВІКОВА



Мне ўсё яшчэ добра памятаецца тая восеньская раніца 1988 года, калі патэлефанавала Жэня Янішчыц і запыталася: "Што ты сёння робіш? Адкладвай усё і прыходзь на секцыю паэзіі. Будуць разглядаць вершы Змітрака Марозава для рэкамендацыі ў Саюз. Трэба падтрымаць хлопца". Мы і сустрэліся на той секцыі, дружна падтрымалі Змітрака, і пад канец пасяджэння Жэня шэптам запрасіла: "Прыходзь у нядзелю на ўваходзіны, пабачыш маю новую кватэру, і маё саракагоддзе тады ж адзначым. Вырашыла ўсё сумясціць. Але я яшчэ патэлефаную, скажу, у колькі гадзін трэба прыязджаць". Яе званка я не дачакалася ні ў пятніцу, ні ў суботу, ні ў нядзелю… А роўна праз тыдзень, у чацвер, калі ў мяне быў працоўны кансультанцкі дзень у "Чырвонай змене", на вакзале купіла белыя хрызантэмы і, перш чым пайсці ў "Чырвонку", завярнула ў рэдакцыю "Маладосці", дзе Жэня працавала загадчыкам аддзела паэзіі, каб павіншаваць яе з саракагоддзем. Яна была на сваім працоўным месцы, на падаконніку ляжалі чырвоныя гваздзікі, Жэню паспеў ужо павіншаваць Мікола Мятліцкі, і дастаткова было аднаго позірку, каб пабачыць на Жэніным твары нейкую вельмі вялікую, вельмі глыбокую скруху… Хто мог тады падумаць, што тая наша сустрэча будзе апошняй?!

Пра Жэню Янішчыц шмат пісалі — крытыкі, многія і многія пісьменнікі, настаўнікі, сябры… І вось радкі з артыкула Алены Сямёнаўны Васілевіч "Жэня, Жэнечка, дзе ты?": "…Нешта, пэўна, блізкае і сугучнае, знаходзіла, адчувала і яе душа на маіх уласных старонках. "Мілая Алена Сямёнаўна, дай Бог здароўя, бо жаль наш несканчоны. Дзякуй лёсу, што ёсць Вы і Ваша глыбокае сэрца, Ваша творчасць! Ваша Жэня Янішчыц".

Надпіс на кнізе лірыкі "Пара любові і жалю". На франтыспісе кнігі ў авале мілы яе партрэт. Не прыгажуня. Хутчэй — загадка…"

З усіх сваіх кніжак лірыкі, а гэта і "Снежныя грамніцы", і "Дзень вечаровы", і "На беразе пляча", і "Каліна зімы", Жэня і сама чамусьці найбольш вылучала менавіта гэтую — "Пара любові і жалю". Яе мне Жэня дарыла і падпісвала двойчы. Першы раз — калі кніга выйшла, у 1983 годзе, а другі — праз пяць гадоў… "Раечка, хай будзе любоў і натхненне да ста лят!! Жэня. 12.6.1988 г." Помню, тады я здзівілася: "Ты ж ужо падпісвала мне яе!" І Жэня адказала: "Тая была з тыражу, а гэтая з маіх самых-самых асабістых экзэмпляраў. Тут, ведаеш, друкарскі брак, вершы на некалькіх старонках не адбіліся. Дык няхай і ў цябе будзе яшчэ і такая". Яна ў мяне і ляжыць заўжды навідавоку, і, як і Алена Сямёнаўна Васілевіч, я таксама часта звяртаюся да Жэніных вершаў, асабліва калі вельмі скрушна, тужліва і самотна… І вось усе гэтыя радкі прыводжу тут амаль па памяці: "Ён будзе, прыйдзе морак вечаровы, ды хіба сэрца спыніцца звінець? Каму — вязьмо, каму — вянок лаўровы, а гэтае галінцы — зелянець!", "Маё аблічча — толькі форма, адлітая для струн душы", "Дай ласкавую руку… Старана мая азёрная, хата светлая, прасторная, двор у белым вішняку", "Я буду доўга тут шчаслівай, святлом узгоркаў і раўнін, дзе вецер маладыя гулліва зрывае пацеркі з рабін", "Лячу у найсучасным самалёце, дачка любові, жалю і святла", "Я вас люблю" — няма каму сказаць? А мне ў любві да скону не змыліцца: я вас люблю, лясы і сенажаць, старая вёска, новая сталіца", "Ах, не загадвай ласкавае быць, калі сама без ласкі паміраю", "І змые час дурных здзіўленняў пену, і пачуццё абвугліцца дашчэнту. <…> Паэзія, — яна не знае тлену, калі ў душы хоць прыгаршчы святла"…

Кажуць, што Іван Пятровіч Шамякін вобраз сваёй "Княгіні" выпісваў з вобраза Жэні Янішчыц, нашы равеснікі-паэты нярэдка называлі яе князёўнай, а там, на Піншчыне, дзе між снягоў свеціцца сваімі вокнамі вёсачка Велясніца, Жэню ласкава завуць ластаўкай Палесся… Гэтак яно і ёсць, асабліва калі згадваеш Жэніны радкі: "А вусцішнае лісце Белавежы — святочная апратачка мая" — з любові, з жалю, са святла.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Словакраязнаўцы



**Лявон ЦЕЛЕШ, даследчык гістарычнай спадчыны з Дзяржынска, расказвае пра свой шлях у "краіну краязнаўства":**

— З патрыятызмам не нараджаюцца, яго трэба выхоўваць. А вучыцца любіць свой родны край, шанаваць яго лягчэй за ўсё пачынаць з краязнаўства. Газета "Літаратура і мастацтва" дзякуючы рубрыцы "Зямля пад белымі крыламі" робіць вялікую справу па папулярызацыі краязнаўчай дзейнасці. Публікацыі гэтай рубрыкі пацвярджаюць думку, што Беларусь — скарбонка, у якой захоўваецца шмат цікавага пра мясціны, гістарычныя постаці, традыцыі і абрады нашай зямлі.

На працягу 35 год, займаючыся палявымі пошукамі ў якасці глебазнаўцы і геолага, аб'ехаў і абышоў ледзь не ўсю краіну, змог ацаніць прыгажосць роднага краю, дабрату і гасцінасць яго жыхароў. Калі пайшоў на заслужаны адпачынак, не вагаўся доўга, чым заняцца ў вольны час, бо мяне як географа вельмі зацікавіла краязнаўства. Далучыўся да яго больш як шэсць год таму, калі прынёс у рэдакцыю "Краязнаўчай газеты" сваю тэматычную крыжаванку, прысвечаную раслінаму свету Беларусі. Потым пачаў пісаць краязнаўчыя артыкулы.

Асаблівa "ўраджайным" быў для мяне мінулы год. Упершыню прысутнічаў на археалагічных раскопках Лаўрышаўскага манастыра і старажытнага беларускага горада Казіміра, пабываў у Мірскім замку на вялікай імпрэзе, прысвечанай кампазітару Мікалаю Набокаву, на свяце беларускага пісьменства ў Ганцавічах… Шмат уражанняў засталося пасля падарожжа па Малдове, знаёмстве з яе гарадамі і прыродай, звычаямі і традыцыямі, а таксама ад сустрэч і стасункаў з прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Сёлета збіраюся наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Уражанні ад такіх вандровак кладуцца на паперу, бо хочацца падзяліцца імі з іншымі.

Шчыра кажучы, у мяне шмат творчых планаў і задум. Спадзяюся, яны здзейсняцца і будуць цікавымі не толькі для мяне, але і для чытачоў "ЛіМа".

## Акунуцца ў мінулае

**Бажэна СТРОК**

У Музеі гісторыі Магілёва плануюць стварыць гасцёўню XIX ст. з элементамі інтэрактыву. Размесціцца яна ў суседнім будынку, дзе цяпер захоўваюцца архівы. Паводле задумы музейшчыкаў, інтэр'ер памяшканняў пасля рамонту аформяць у стылі пачатку XIX ст. У якасці інтэрактыву наведвальнікам прапануюць пачытаць старадаўнія кніжкі, сфатаграфавацца ў стылізаваных касцюмах, раскласці пасьянс і паўдзельнічаць у чайнай цырымоніі. А яшчэ плануецца праводзіць камерныя выстаўкі, канцэрты, прэзентацыі, творчыя вечарыны. Кіраўніцтва ўстановы спадзяецца, што ажыццяўленне гэтага праекта паспрыяе прытоку наведвальнікаў і дапаможа зарабіць дадатковыя грошы. Цяпер усё залежыць ад фінансавання: калі будуць выдзелены неабходныя на рамонт сродкі, то здзейсніць падарожжа ў мінулае можна будзе ўжо сёлета.

## Музейны ўнікат

**Бягомльскі музей народнай славы адкрыўся ў 1970 годзе. Яго месца ў горадзе — амаль цэнтральнае. Цікавая акалічнасць: экспазіцыя пачынаецца яшчэ на плошчы каля самой установы, дзе наведвальнікаў сустракае самалёт часоў Вялікай Айчыннай вайны — ІЛ-14.**



# «Падпольныя» шахматы

**Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара**

Музей размешчаны ў будынку (захаваўся з 1902 года), які калісьці належаў тутэйшаму памешчыку Булгакаву. У асноўных фондах налічваецца 14 тысяч музейных прадметаў.

У зале, якая прысвечана рэвалюцыі 1917 года і падзелу беларускіх земляў паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, можна ўбачыць незвычайныя шахматы з хлеба і пяску, зробленыя ў 1928 годзе падпольшчыкам Андрэем Качаном у турме. У музеі ўвогуле шмат цікавых экспанатаў, непасрэдна звязаных з тагачасным падзелам — пячаткі памежнікаў і ўстаўныя дакументы. І гэта не дзіўна: мяжа праходзіла якраз пасярэдзіне Докшыцкага раёна.

Яшчэ адзін унікальны экспанат — пасмяротная маска ўраджэнца вёскі Вежкі Докшыцкага раёна Нестара Сакалоўскага, які напісаў музыку да Гімна Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Побач з нотнымі сшыткамі і фотаздымкамі Сакалоўскага — творы іншых славутых землякоў: Леаніды Чарняўскай, Цішкі Гартнага, Алеся Ставера.



Чатыры наступныя залы прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Але асноўная тэма музейнай экспазіцыі — партызанскі рух, які сфарміраваўся ў раёне на пачатку 1942 года. Тут дзейнічалі партызанскія брыгады "Жалязняк", камандзірам якой быў Іван Ціткоў, а камісарам — Сцяпан Манковіч, які нарадзіўся на Бягомльшчыне і да вайны займаў пасаду сакратара райкама партыі.

Толькі з дапамогаю партызан мясцовае насельніцтва змагло вытрымаць шматлікія карныя аперацыі немцаў. У музеі ёсць цікавая дыярама, якая расказвае гісторыю падпольнага шпіталя, арганізаванага "жалезнякоўцамі" ў маленькай зямлянцы. Паветра ў яе паступала праз дупло сухога дрэва. На працягу 18 сутак медсёстры і параненыя чулі галасы немцаў над сваімі галовамі...

У бягомльскім музеі можна ўбачыць і станок, на якім "жалезнякоўцы" друкавалі газету "Савецкі Патрыёт".

***На здымках: незвычайныя шахматы з хлеба і пяску; пасмяротная маска Нестара Сакалоўскага.***

## У кантэксце

# Славянскае яднанне

**Прыйшла запозненая вестка са Львова: памёр — яшчэ ў сярэдзіне 2010 года — украінскі акадэмік Яраслаў Дзмітрыевіч Ісаевіч. На 75-м годзе жыцця… Нарадзіўся Я. Ісаевіч 7 сакавіка 1936 года. Усё сваё жыццё аддаў служэнню Яе Вялікасці Гісторыі. Быў дырэктарам Інстытута ўкраіназнаўства імя І. Крып'якевіча НАН Украіны. Старшыня Нацыянальнага камітэта гісторыкаў Украіны. Аўтар больш як 700 навуковых работ, 15 манаграфій. Дзякуючы надзвычайнай руплівасці Яраслава Дзмітрыевіча з'явіўся трохтомны каталог "Помнікі кніжнага мастацтва".**

**Мікола БЕРЛЕЖ**

Так, яркая і не чужая Беларусі асоба… Вось і на адной з паліц майго сціплага хатняга кнігазбору яго, Яраслава Ісаевіча, кніга — "Пераемнікі першадрукара" (Масква, "Книга", 1981). На тонкай папяровай вокладцы — малюнак друкарні, рэпрадукцыя з кнігі А. Венгрыновіча "Sillabus marianus" (Львоў, 1717). Ужо на самым пачатку даследавання аўтар зазначае: "Узнікненне кнігадрукавання ўсходнеславянскіх народаў непарыўна звязана з іменамі трох выдатных першадрукароў — Швайпольта Фіоля, Францыска Скарыны, Івана Фёдарава. Для Украіны асаблівa важнай была дзейнасць знакамітага "друкаря-москвитина" Івана Фёдарава, які зрабіў такі важкі ўнёсак ва ўмацаванне руска-беларуска-ўкраінскага яднання. Менавіта фёдараўскія кнігі заклалі моцны фундамент для далейшага беспераыпннага развіцця кнігавыдавецкай справы на ўкраінскіх землях".

У першым раздзеле "Друкарні Украіны на мяжы XVI—XVII стагоддзяў" асобны нарыс прысвечаны Астрожскай біблії, астрожскаму перыяду ў друкарскай дзейнасці І. Фёдарава. Астрог, горад на Валыні, як вядома, належаў князю Васілю-Канстанціну Канстанцінавічу Астрожскаму. Гісторыя Астрожскай друкарні — гэта гісторыя фарміравання падмурка ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Менавіта ў Астрозе закладваліся традыцыі, напрацоўваўся ўнікальны вопыт. Не выпадкова, што пасля астрожскія выданні перавыдаваліся і ў Маскве, і ў Кіева-Пячэрскай лаўры, а таксама ў друкарнях Беларусі.

Адзін з нарысаў Я. Ісаевіча распавядае пра ўкраінскі перыяд у дзейнасці Спірыдона Собаля — "Друкар-запарожац Вярбіцкі і беларускі друкар Собаль". Сярод персанажаў даследавання па гісторыі кнігадрукавання ва Украіне — беларускі майстар Міхаіл Слёзка (? — 1667). "У Львоў Слёзка прыйшоў пешшу, "з адной торбачкай". Пры садзеянні ўплывовага братчыка К. Мезапеты, з выхаванкай якога Варварай ён ажаніўся, малады друкар уладкаваўся ў друкарню брацтва", — чытаем у Я. Ісаевіча. Міхаіл Слёзка "патрапіў" у "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі", толькі ў "Дадатак" (змешчаны ў другой кнізе шостага тома, выдадзенага ў 2003-м) — як майстар-друкар і пісьменнік. Хаця яшчэ ў 1973 годзе ўкраінскі вучоны выступіў на Фёдараўскіх чытаннях з дакладам "Друкарня Міхаіла Слёзкі і яе роля ў міжславянскіх культурных сувязях". Вядома, што наш суайчыннік выдаў каля 50 кніг — ці не трэцюю частку ад усіх, што пабачылі свет у тыя часы ва ўкраінскіх друкарнях. Кнігазнаўца звяртае ўвагу на наступную адметнасць пазіцыі ўраджэнца Беларусі: калі папярэднік Слёзкі Я. Шэліга, які меў тытул епіскапскага друкара, ахвотна друкаваў публіцыстычныя творы супраць праваслаўя, то беларус гэтага сабе не дазваляў. "…Слёзка заставаўся перакананым барацьбітом супраць экспансіі каталіцызму. Не выпадкова і сярод выданняў Слёзкі на польскай мове былі кнігі, якія ўслаўлялі актыўных дзеячаў антыкаталіцкага руху". У адной з прадмоў да чытача майстар, гаворачы пра цяжкасці, цытуе "Энеіду" Вергілія: "…А ты не уступай злому, Але иди смело напротив тому".

Кніга Яраслава Дзмітрыевіча Ісаевіча "Пераемнікі першадрукара", выдадзеная накладам у 5500 асобнікаў, як мне падаецца, і сёння вартая перавыдання. А многія персанажы гістарычнага даследавання вядомага ўкраінскага вучонага вартыя і новых згадак у Беларусі. І напрыканцы гаворкі пра Я. Ісаевіча — яшчэ адна цытата з яго працы: "Сувязі рускага, беларускага і ўкраінскага кнігадрукавання былі такімі цеснымі, што ў многіх адносінах кірылічнае кнігадрукаванне ўсіх трох усходнеславянскіх народаў з'яўлялася адзіным працэсам, асобныя плыні якога ўзаемна дапаўнялі адзін аднаго. Адзначым кароткачасовы росквіт беларускага кнігавыдання (57,7 % аб'ёму ўсіх кірылічных кніг у 1591—1601 гг.)…"

## Да ведама

# Сведкі мінулага

**Раіса МАРЧУК**

**Лямпы, ліхтары і іншыя асвятляльныя прыстасаванні — гэта яшчэ і помнікі народнай культуры, якія сведчаць пра жыццё і побыт нашых продкаў.**

Важна не толькі збіраць гэтыя экспанаты, але і фіксаваць усю інфармацыю пра іх: якія яны былі, як выкарыстоўваліся, з чаго выраблялія. Сёння гэта частка нашага мінулага, памяць пра тых, хто жыў раней. Яе неабходна захаваць і перадаць наступным пакаленням, лічаць супрацоўнікі полацкага Музея традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я, дзе з 20 снежня працуе міні-выстаўка "Святло нашых продкаў".

Калекцыю лямп і ліхтароў прадставіў студэнт 5-га курса гістарычнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксей Коц. Свае экспанаты ён збірае ўжо шэсць гадоў і мае ва ўласнай калекцыі больш як 40 газавых лямпаў і ліхтароў розных часоў. Большасць з іх паходзіць з тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі, у прыватнасці, з Глыбоцкага раёна. Аляксей не толькі адшуквае такія рэдкія ў наш час рэчы (некаторыя экспанаты — сапраўдныя рарытэты), але і самастойна займаецца іх аднаўленнем. На выстаўцы, якая, безумоўна, зацікавіць як гісторыкаў і краязнаўцаў, так і звычайных наведвальнікаў, прадстаўлены найбольш адметныя экзэмпляры.

Сустрэчы з краязнаўцамі

# Бачыць перспектыву

**Ігар Пракаповіч працуе настаўнікам геаграфіі ў Паставах ужо чвэрць стагоддзя. Акрамя багатага педагагічнага вопыту ён мае шмат дасягненняў, сярод якіх — 14 краязнаўчых кніг, аўтарская сістэма школьнага краязнаўства, званне “Чалавек года Віцебшчыны-2009”. Сёння Ігар Пракаповіч адказвае на пытанні газеты “Літаратура і мастацтва”.**

Марына ВЕСЯЛУХА



**— Ігар Міхайлавіч, з чаго пачынаўся ваш шлях у краязнаўства?**

— Для большасці маіх знаёмых шлях у краязнаўства пачынаўся ў школе, але я ў час вучнёўства да матэрыялаў пра родны край ніякага дачынення не меў. Напэўна, эпоха была такая: разважалі пра глабальныя праблемы, а роднае і блізкае ігнаравалі, не вывучалі.

Цікавасць да навуковых пошукаў узнікла ў час вучобы на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, асабліва калі давялося працаваць у экспедыцыях лабараторыі азёразнаўства БДУ і ў лабараторыі геахіміі ландшафтаў навукова-даследчага інстытута геахіміі і геафізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Пашанцавала з настаўнікамі. Мной апекаваліся вядомыя беларускія вучоныя В. Якушка, А. Мацвееў, Э. Ляўкоў. Дарэчы, апошні быў навуковым рэдактарам маёй першай краязнаўчай кніжкі “Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна”.

Непасрэдна ж далучыўся да краязнаўства, калі пачаў працаваць у школе настаўнікам геаграфіі. Спачатку захапіўся турызмам, а потым паступова пачаў збіраць матэрыялы па геаграфіі, гісторыі, культуры роднага краю. Вялікі ўплыў у пачатку 1990-х аказаў на мяне кіраўнік аддзела краязнаўства Віцебскага абласнога аб’яднання пазашкольнай работы А. Куржалаў. Ён арганізаваў і правёў абласныя спаборніцтвы “Мой родны кут” для настаўнікаў, у час якіх удзельнікам выпала магчымасць папрацаваць у бібліятэках, музеях і архівах Санкт-Пецярбурга, Вільні, Віцебска, Мінска, наведаць Польшчу. Паездкі, сустрэчы з цікавымі людзьмі падштурхнулі да ўласных краязнаўчых пошукаў. Вельмі ўдзячны лёсу за знаёмства з вядомымі краязнаўцамі Віцебшчыны В. Ермалёнкам, М. Піваварам, В. Бандарэвічам, К. Шыдлоўскім, А. Райчонак, В. Пячонкіным і іншымі.

**— Вы з’яўляецеся аўтарам некалькіх кніг. Што звычайна становіцца штуршком для іх напісання?**

— Імпульсам для напісання краязнаўчай кнігі звычайна з’яўляецца праблема: па нейкай мясцовасці, з’яве, падзеі няма або зусім мала інфармацыі, яна не вывучана, не даследавана, або факты раскіданы па розных крыніцах. Напрыклад, так з’явілася “Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна”. Ладзячы вандроўкі з вучнямі па Пастаўшчыне, быў здзіўлены, што няма выданняў, у якіх можна было б прачытаць пра рэльеф, клімат або воды роднага краю. Пачаў збіраць матэрыялы з публікацый навукоўцаў, сам аб’ехаў і абышоў амаль увесь раён, вывучаў яго вачыма географа. Калі кніжачка выйшла ў свет, то ад калег-настаўнікаў пачуў шмат слоў удзячнасці. Выданне стала дапаможнікам пры падрыхтоўцы да ўрокаў, пры распрацоўцы і правядзенні падарожжаў з вучнямі. Тое ж і з іншымі краязнаўчымі кнігамі. Спадзяюся, што знойдуць чытачоў і кнігі, якія яшчэ чакаюць свайго лёсу ў рукапісах.

**— Вы распрацавалі сістэму школьнага краязнаўства. У чым яго адметнасць?**

— Сістэма школьнага краязнаўства — адно з маіх зацікаўленняў і тэма кандыдацкай дысертацыі. Я лічу, што краязнаўства — адзін з найважнейшых шляхоў, які можа прывесці вучня да сапраўднага патрыятызму, дапаможа ўсвядоміць сябе носьбітам, спадчыннікам і абаронцам мовы, традыцый, культуры свайго народа. З малога пачынаецца вялікае, з любові да малой радзімы вырастае любоў да Бацькаўшчыны, краіны.

Адметнасцю школьнага краязнаўства з’яўляецца тое, што тут пошукі і знаходкі выступаюць важнай, але не адзінай мэтай: правядзенне даследчай работы арыентуецца ў першую чаргу на навучанне (вывучэнне роднага краю, знаёмства з метадамі даследаванняў, праца з крыніцамі) і выхаванне (фарміраванне станоўчых якасцей асобы).

**— Раскажыце крыху пра дзейнасць навуковага краязнаўчага таварыства “Ювента”. Ці мае суполка дасягненні, якімі сапраўды можна ганарыцца?**

— Навуковае краязнаўчае таварыства школьнікаў “Ювента” дзейнічае афіцыйна з 2001 года, але ўзнікла яно значна раней. Яшчэ ў канцы 1980-х у сярэдняй школе № 1 г. Паставы склалася дружная і мабільная турысцкая група, з якой мы пабывалі ў розных куточках Пастаўшчыны. Вось тады і ўзнікла назва “Ювента”, што з лацінскай мовы перакладаецца як “маладосць”. А прапанавала яе былая актыўная ўдзельніца вандровак Алёна Махніс.

З кожнай вандроўкі прыносілі не толькі ўражанні і добры настрой, але і некаторыя рэчы і факты з гісторыі і культуры тых мясцін, дзе пабывалі. Так, паступова, краязнаўства выйшла на першыя ролі, і менавіта гэтым цяпер займаецца навуковае таварыства. На рахунку “Ювенты” даволі многа цікавых знаходак, перамог у абласных і рэспубліканскіх конкурсах, на ўсіх этапах усебеларускай краязнаўчай экспедыцыі “Наш край” удзельнікі таварыства былі ў ліку пераможцаў.

**— Вашы ўласныя навуковыя інтарэсы і меркаванні, высновы заўсёды супадаюць з высновамі вашых вучняў?**

— Зразумела, кіраўнік з’яўляецца той “інстанцыяй”, якая вызначае кірункі і формы дзейнасці таварыства. Разам з гэтым падтрымліваецца індывідуальная творчая работа вучняў. Бывае так, што школьнікі ідуць наперадзе настаўнікаў. Напрыклад, першы сайт пра Паставы стварыў удзельнік “Ювенты” Яўген Громаў. Гэта быў яго ўласны праект, які ўтрымліваў шмат краязнаўчай інфармацыі, сабранай таварыствам. А кіраўнік тым часам толькі пачынаў асвойваць камп’ютар.

**— Вы неаднаразова падкрэслівалі, што вялікае значэнне пры выкладанні мае праблемнае выкарыстанне краязнаўчых матэрыялаў на ўроку. Як жа можна ўбачыць іх праблемнасць?**

— Краязнаўчая інфармацыя ўтрымлівае шмат матэрыялаў, якія могуць на ўроках разглядацца як праблемы. Гэта датычыць розных аспектаў жыццядзейнасці мясцовасці, дзе знаходзіцца навучальная ўстанова. Вучням заўсёды цікавей даведацца і паразважаць пра блізкае і знаёмае, чым пра далёкае і абстрактнае. Магу прывесці некалькі пытанняў, для адказу на якія трэба не толькі ведаць асаблівасці прыроды роднага краю, але і “падключаць” веды з іншых раздзелаў геаграфіі і іншых прадметаў: “Чаму на поўначы Пастаўскага раёна знаходзіцца нізіна, а на поўдні — узвышша?”, “Чаму на Пастаўшчыне шмат азёр?”.

**— Ці праяўляць самі вучні інтарэс да краязнаўства?**

— Трэба прызнаць, што з кожным годам цікаўнасць вучняў да краязнаўства як формы цікавага і карыснага занятку зніжаецца. І гэта тэндэнцыя мае шэраг прычын: недахоп вольнага часу з-за вялікай вучэбнай нагрузкі; з’яўленне новых форм правядзення вольнага часу; змены ў менталітэце бацькоў; павелічэнне моўна-культурнага бар’ера паміж старымі вясковымі жыхарамі і сучаснай моладдзю. Прааналізаваўшы дзейнасць “Ювенты”, заўважыў, што найбольш масавай і актыўнай яна была ў 2000 — 2005 гадах, у часы, калі яшчэ вучыліся школьнікі беларускамоўных класаў. Тады за месцы ў экспедыцыйнай групе спаборнічалі. Цяпер сяброў таварыства стала менш, але ёсць вучні, якія з задавальненнем удзельнічаюць у вандроўках, праводзяць уласныя пошукі, рыхтуюць даклады.

**— Якім чынам можна павысіць матываванасць удзелу вучняў у краязнаўчых пошуках?**

— Краязнаўчыя пошукі — гэта не толькі ўдзел у вандроўках, але і вялікі клопат па апрацоўцы, сістэматызацыі і афармленні матэрыялаў, іх прэзентацыі. І калі выправіцца ў экспедыцыю бывае шмат жадаючых, то на камеральных работах энтузіязм заўважна зніжаецца. Гэта зразумела: вучню трэба бачыць перспектыву. Навошта? Можна гаварыць пра грамадскую каштоўнасць той ці іншай краязнаўчай тэмы, але школьнікам тое будзе слаба зразумела і далёка. Трэба стымуляваць асабістае “я” і такім шляхам рэалізоўваць нейкія карысныя для мясцовай супольнасці праекты. Напрыклад, збор матэрыялаў па пэўнай тэме з мэтай выдання кнігі. Пры гэтым вучні становяцца суаўтарамі публікацый або некаторых выданняў. Так, кіраўніком сумесна з асобнымі ўдзельнікамі навуковага таварыства былі напісаны і выдадзены невялікія краязнаўчыя кнігі “Манькавічы”, “Мястэчка над возерам”, “Мястэчка каля пушчы”, “Ваколіцы Паставаў”, “О Беларусь, мая шыпшына... На радзіме У. Дубоўкі”.

Яшчэ адзін шлях — падрыхтоўка дакладаў і прэзентацый для выступленняў школьнікаў на навукова-практычных канферэнцыях. Ну і зразумела ж, для вучня рэальная ўзнагарода — добрая адзнака ў дзённіку. Лічу, што такога роду дзейнасць школьнікаў павінна заўсёды ацэньвацца высока.

З былога

# Гандлявалі з толкам

**Помнік архітэктуры першай паловы ХХ стагоддзя, узведзены ў 1931 — 1932 гадах адным з жыхароў мястэчка Глыбокае, прытым у “нацыянальным стылі” (сінтэз барока, класіцызму і мадэрну), даў прытулак Глыбоцкаму гісторыка-этнаграфічнаму музею. На працягу некалькіх гадоў стваралася музейная экспазіцыя, ажыццяўляўся збор экспанатаў — на момант адкрыцця ў фондах налічвалася іх больш як чатыры з паловай тысячы. Перад новым 1998 годам гэтая ўстанова гасцінна расчыніла дзверы для наведвальнікаў. І вось ужо чатырнаццаць год калектыў музея плённа працуе на ніве вывучэння мінуўшчыны нашага рэгіёна.**

**Уладзімір МІРОНЧЫК, навуковы супрацоўнік Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея, фота Кастуся Дробава**

Гандаль доўгія часы з’яўляўся асноўным заняткам многіх жыхароў Глыбокага. Ва ўсе часы мястэчка славілася сваімі кірмашамі. Нездарма ж адно з першых летапісных упамінанняў пра яго звязана менавіта з паведамленнем у “Літоўскай метрыцы” пра глыбоцкія “таргі” 1514 года.

У наступныя стагоддзі мястэчка працягвала заставацца гандлёвым цэнтрам, які прываблівае прадаўцоў і пакупнікоў не толькі з наваколля, але і з-за мяжы. Разгортвалася гандлярства на Базарнай плошчы. У першай палове ХХ стагоддзя кірмашы праводзіліся штотыдзень, а па чацвяргах праходзіў буйны кірмаш.

Неад’емнай часткай Базарнай плошчы былі гандлёвыя крамы. І амаль усе яны знаходзіліся ва ўласнасці мясцовых яўрэяў, якія пасяліліся на гэтых землях у XV стагоддзі. Яны мелі дастаткова развітыя эканамічныя сувязі, што давала магчымасць забяспечваць уласныя крамы каштоўнымі і рэдкімі таварамі. Напрыклад, у дакументах XVIII стагоддзя маюцца звесткі пра гандлёвыя зносіны глыбоцкіх гандляроў-яўрэяў з Кёнігсбергам, адкуль у мястэчка прывозіліся на продаж катлы, сукно, віно і іншыя дэфіцытныя тавары.

Яўрэйскіх крам у Глыбокім было даволі шмат. Як сведчыць даследчык гісторыі Глыбоччыны Аляксандр Тарыкаў, за польскім часам адну толькі галантарэю рэалізоўвалі больш як 80 крам. У асноўным гэта былі драўляныя памяшканні, але сустракаліся і мураваныя. Нярэдка лаўка знаходзілася ў адным памяшканні з жылой часткай, ад якой аддзялялася дзвярыма ці проста фіранкай.



***На здымку: прыкладна так выглядала лаўка глыбоцкіх гандляроў-яўрэяў.***



Валянціна Паліканіна

* * *

*Пакуль надзей не згублены сляды*
*І ноч цянюе сполаху прычыны, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Завабяць нас сівыя далячыні.*

*Пакуль каханне нібы назаўжды*
*І нам з табой пад лёсам не сагнуцца, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Пагляды два ў адзін пагляд зліюцца.*

*Пакуль яшчэ ў прамовах шмат вады,*
*Шпурляем словы лёгка-марнатраўна, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Ўсё будзе ні на хвілю непапраўна.*

*Пакуль яшчэ мы побач, без бяды,*
*І п'ём вачыма радасную млечнасць, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Два імені ў адну зліюцца вечнасць.*

*Пакуль гудуць натхнення правады,*
*Мы бачым свет старадасна-мажорна, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Ўсё будзе невыказна-непаўторна.*

*Пакуль ва ўладзе зорнае грады*
*Мы два жыцці зблізжаем,*
*нібы ў танцы, —*
*Хай не сягоння, любы, — праз гады*
*Мы сыдземся,*
*каб болей не расстацца.*

* * *

*Крананне вуснаў, рук цяпло*
*І тонкіх траў перапляценне.*
*Няхай тваім я стану ценем,*
*Адно б расстання не было.*

*Надзей стуманена крыло,*
*Не склеіць зноў пачуццяў вазу.*
*Няхай з табой не будзем разам,*
*Адно б расстання не было.*

*Кахання вернецца святло*
*І азарыць сабой планету.*
*Няхай зусім я кану ў Лету,*
*Адно б расстання не было.*

* * *

*Вочы мне завяжы...*
*Я іначай цябе не забуду.*
*Столькі ў памяці дзён,*
*колькі выпала мне на вяку.*
*Вочы мне завяжы,*
*і тады паміж грэшнага люду*
*Заблукаю навек і тваю не пазнаю руку.*

*Вочы мне завяжы...*
*Хай закончыцца наша карыда:*
*Ад скрываўленай раны*
*да сціснутых болем плячэй.*
*Вочы мне завяжы,*
*каб ніякія ў свеце флюіды*
*На дарогі твае не вялі ці знарок, ці знячэў.*

*Вочы мне завяжы...*
*Я даволі спазнала ўжо страху.*
*Хай сябры не пазнаюць.*
*Я лішняя ў гэтай гульбе.*
*Вочы мне завяжы, каб і я,*
*нібы збітая птаха,*
*Не змагла праляцець*
*і хвіліны насустрач табе.*

* * *

*У паднеб'і цямнеч,*
*нават пеўні яшчэ не спявалі.*
*Сарамліва гарыць майго сэрца*
*пакутная трэць.*
*Азірнуцца назад —*
*і пабачыць адно толькі шалі,*
*А наперад пайсці —*
*і над будучым знічкай згарэць.*

*І дваяцца шляхі. Без фурмана.*
*І конь занямогшы.*
*Памнажае грахі, як маршчыны,*
*зямная юдоль.*
*І панесці куды гэту цяжкую*
*горкую ношу,*
*Каб сумець заглушыць гэты чорны*
*нявыцерпны боль.*
*У калысцы начэй*
*спавівае нас сон беспрабудны,*
*А прачнёмся ад сну —*
*пойдзем зноў за вярстою вярста.*
*Ад крыжа да пярста —*
*кіламетры сцяжараных будняў,*
*Ад малітвы да сэрца —*
*крывавая вечнасць Хрыста.*

* * *

*Грымне дворнік пустой жалязякай*
*Ды як гахне слаўцом пад руку —*
*Стане раптам самотна-азябла,*
*Бы стаіш на людскім скразняку.*

*І дарэмна пытацца ў паднеб'я,*
*Што даўно ад'юнела мілосць,*
*Што цябе, як рыззё-непатрэб'е,*
*Зноў абыдзе чыясь маладосць.*

*Што гадзіны нясуцца бязбожна*
*У шуканні чарговых праблем,*
*Што кранаешся, хай асцярожна,*
*Толькі вечных, узвышаных тэм.*

*Што сябры дзесьці там, за гарою,*
*А з табою сябры-несябры.*
*Што жыццё — гэта вечныя мроі*
*У імглы беспрасветным віры...*

*Ды пакуль ты на "лініі фронту"*
*І збірацца ў паход не пара,*
*Будзь далёкім, канец гарызонту,*
*Будзь высокай, заранка-зара!*

**З рускай пераклаў**
**Мікола Шабовіч**



Фота Алеся Высоцкага



Віктар Бубнаў

* * *

*У скляпеннях дні, што ўжо забыты,*
*Сонейка не ўбачыць, дзе яны.*
*Я ў сучасным для святла адкрыты,*
*Без адчаю, роспачы, віны…*

*Быць павінны ўсё-такі прагалы,*
*Бо гады былыя — не кіно…*
*Я вярнуўся з апусцелай залы.*
*І гляджу ў ціхуткае акно.*

* * *

*Вочы твае —*
*нібы дзве незабудкі.*
*Кратае ветрык вясковую ціш.*
*І невядома, чаму ты са смуткам*
*Зноў на мяне, уздыхнуўшы, глядзіш.*

*Знаю, з табою мы бачымся рэдка,*
*Мо ад таго і твой смутак жыве?*
*Я не паверу, што гэтую кветку*
*Хтосьці другі неспадзеўна сарве.*

* * *

*Я так цябе пабачыць захацеў,*
*На лайнеры жаданняў паляцеў,*
*А ў небе хмарным*
*гэтак ляскаў гром,*
*І дзень гудзеў —*
*нібы аэрадром.*

*Працягваю сваёй я думкі ход:*
*Калі б не ты —*
*разбіўся б самалёт…*
*І добра, што з жаданай вышыні*
*Тваіх вачэй убачыў я агні…*

* * *

*Я без цябе быў столькі зім і лет…*
*Вяртаюся, як быццам бы*
*з выгнання.*
*Які вялікі і малы сусвет,*
*Калі хачу вярнуць сваё каханне.*

*Навошта я па ростанях блукаў?*
*Свабодаю хапіла наталення,*
*Таму й сябе*
*за глупства праклінаў,*
*Хоць і ў тваё не верыў прабачэнне.*

*Ну, хто памог бы мне,*
*калі б не ты?*
*Цябе сустрэў,*
*пайшоў, шчаслівы, следам…*
*Праз колькі год —*
*і столькі дабраты..*
*О, божа мой,*
*як я цябе не ведаў!*

* * *

*Душа у прыцемку няўдачы,*
*Хоць у разгары светлы дзень,*
*Але так хочацца пабачыць,*
*Калі душу кране прамень,*
*Які прыблізіць час да веры,*
*Што лепшыя настануць дні,*
*І недарма лягла папера*
*На стол пакутнай цішыні.*

* * *

*Зноў прыйшоў у сон начны*
*Вобраз твой жаданы.*
*Мо таму ўсе разам сны*
*Тайнай паяднаны.*
*Кожны сон — і шэпт, і ўздых…*
*(А сама, ну дзе ж ты?)*
*Не пытайся: я не з тых,*
*Хто раскажа нешта.*



Іван Монцік

* * *

*Памяць — дар чалавека —*
*У гісторыю верне,*
*Бліснe зоркай з засекаў,*
*Залацінкаю зерня.*
*Адгукнецца лагодна*
*Хваляй цёплай, без спешкі,*
*Верне зноў, верагодна,*
*Твару промень усмешкі.*
*Аблачынкаю белай*
*Выйдзе стрэць далягляды,*
*Збажыны недаспелай*
*З васільковым паглядам*
*Не гукай ты лагодна,*
*Сэрца, стоеным гулам,*
*Я з табой не бязродны,*
*Ладжу сувязь з мінулым.*
*Час ляціць у бязмежжы —*
*Робіць памяць прыпынкі:*
*Там, дзе замкі і вежы,*
*Там, дзе вёска Скарынкі.*

## Матчына мова

*Ці змог*
*Аддзякаваць*
*Табе за тое,*
*Што мне ў маленстве*
*Падарыла ты —*
*Сявеньку слоў,*
*Як зерня залатога,*
*Што прарасло*
*Калоссем дабраты…*

* * *

*А мне любіць не напалову,*
*Што цалкам лёс наканаваў:*
*Матулю, Бацькаўшчыну, Мову,*
*Жыццё, каб жыў — не існаваў.*
*Прымаю сэрцам і душою*
*Праявы ласкі, дабрыні,*
*Бо ў іх Вялікасці знайшоў я*
*Часоў спрадвечных карані.*
*Бо ў іх Вялікасці, зазначу,*
*Няма ні перад кім даўгоў…*
*Любові шчырай я не страчу*
*Да краю роднага майго.*

## Ты маё сонейка

Памяці любай жонкі — Надзеі

*Долю халоднаму, долі няшчаснай я*
*Вымалю зорку з нябёсаў.*
*Ты маё сонейка! Зорачка ясная,*
*Повязь жыцця і двух лёсаў.*

*Выйду на ганачак, сяду на лавачку,*
*Покліч пачую ля дому:*
*"Ванечка родненькі, любы мой Ванечка,*
*Вер мне… і болей нікому".*

*Гэта ў садочку заранка-вясняначка*
*Цешыць душу мне паволі.*
*Голас шчымлівы твой:*
*"Любы мой Ванечка"*
*Я не забуду ніколі.*

*Ты маё сонейка! Зорка нязгасная,*
*Ззяеш мне ў сэрца з нябёсаў.*
*Самая яркая, самая ясная*
*Зорка мая і двух лёсаў!*

*Ты маё сонейка! Зорка нязгасная,*
*Тая, што ў сэрцы з нябёсаў!*

# Кожнае выданне — як твор мастацтва

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Прадукцыя выдавецтва "Беларусь" добра вядома і ў нашай краіне, і далёка за яе межамі. Варта прыгадаць кнігі "Сакральны жывапіс Беларусі", "Ваяры Грунвальдскай бітвы", "Напалеон Орда", выдадзеныя ў мінулым годзе "Гісторыю сусветнага мастацтва", "Беларускую міфалогію", "Беларускае народнае мастацтва" і іншыя. Пра выдавецкія набыткі і клопаты сёння мы гутарым з яго дырэктарам Ганнай ТРУСЕВІЧ.**

**— Ганна Рыгораўна, раскажыце, чым вылучаецца "Беларусь" у шэрагу іншых дзяржаўных выдавецтваў?**

— Старэйшае ў нашай краіне Дзяржаўнае ордэна "Дружбы народаў" выдавецтва "Беларусь" у мінулым годзе адзначыла 90-гадовы юбілей. Заснаванае ў 1921 годзе, яно ўнікальнае і сваёй назвай — быць цёзкай краіны гэтай установе дазволілі, улічваючы яе заслугі. Выдавецтва мае шматлікія ўзнагароды. І хаця ордэн "Дружбы народаў" і ганаровыя граматы прысуджаліся ў часы СССР, ад гэтага яны не менш каштоўныя. І самі гэтыя ўзнагароды ўжо рарытэты: Пачотная грамата Вярхоўнага Савета БССР 1967 года — за заслугі ў развіцці кнігавыдавецкай справы і паліграфіі, паспяховае выкананне дзяржаўных планаў; Пачотная грамата Вярхоўнага Савета БССР 1971 года за дасягнутыя поспехі ў выпуску літаратуры.

Прыярытэтным напрамкам з'яўляецца выданне кніг, прысвечаных гісторыі, культуры, прыродзе нашай краіны, яе гарадам, багатым на архітэктурную спадчыну. У асноўным, гэта рознага кшталту прадстаўніцкая прадукцыя. Такія выданні ўпрыгожваюць экспазіцыі на міжнародных выстаўках-кірмашах, многія з іх адзначаны ўзнагародамі конкурсу "Мастацтва кнігі" — як рэспубліканскага, так і міжнароднага, што праводзіцца сярод дзяржаў-удзельніц СНД.

Нашы кнігі чытачы ведаюць, заўсёды адзначаюць адметнасці знешняга выгляду: гэта вялікі фармат, папера высокай якасці, друк поўнакаляровы, кожнае выданне багата ілюстраванае. Кніга сама па сабе ўяўляе твор мастацтва.

**— Каму ў першую чаргу адрасаваны кнігі выдавецтва "Беларусь"?**

— Сёння наша прадпрыемства выдае да ста найменняў друкаванай прадукцыі за год. Гэта кнігі па гісторыі, этнаграфіі і краязнаўстве, фотаальбомы, вучэбныя і метадычныя дапаможнікі, навукова-папулярныя выданні, выданні для вольнага часу, паштоўкі, плакаты, календары. Рэспубліцы неабходна падобная літаратура — трымаючы выданні такога кшталту ў руках, мы яшчэ раз упэўніваемся: нам ёсць за што ганарыцца сваёй краінай. Кожны, хто прыязджае ў беларускую сталіцу і іншыя гарады, хоча атрымаць інфармацыю пра тое, як мы жывём, што ў нас адбываецца.



Фота Кастуся Дробава

Чытачы розныя: для некага галоўнае ў кнізе — тэкст, іншы аддае перавагу ілюстрацыям, хтосьці шукае роўнае спалучэнне і таго, і другога. Выдавецтва прапаноўвае розныя варыянты прадукцыі — на ўсе густы. Гэта і выданні, што ўтрымліваюць вялікія ілюстрацыі (летась выйшла кніга "Гродзенская зямля з вышыні птушынага палёту" — буйнога фармату, тэксту зусім няшмат). Белавежскай пушчы прысвечаны кнігі рознага фармату "Белавежскае дзіва"). А не так даўно ўбачыла свет тэкставае выданне пра пушчу, дзе больш інфармацыі пра яе гісторыю, пра асаблівасці гэтага ўнікальнага нацыянальнага парку Рэспублікі Беларусь, пра жыхароў пушчы.

**— Расскажыце, калі ласка, пра супрацоўнікаў выдавецтва.**

— Калектыў выдавецтва — 32 чалавекі. Высокапрафесійныя кадры: літаратурныя і стылістычныя, мастацкія і тэхнічныя рэдактары, супрацоўнікі аддзела маркетынгу, вытворчага і фінансавага падраздзяленняў. Нашаму выдавецтву ўдалося захаваць вытворчы ланцужок: рэдактар, карэктар, тэхнічны рэдактар, мастацкі рэдактар. У пагоні за прыбыткам, у імкненні выжыць некаторыя выдавецкія структуры скарачаюць рэдактараў і карэктараў. Спашлюся на сусветную кнігавыдавецкую практыку: на адным з сусветных семінараў нямецкія калегі дзяліліся вопытам. Напрыклад, у выдавецтве, якое выдае класіку — Гётэ, Шылера, — карэктарская праца вельмі высока цэніцца.

Кожная наша кніга — прадмет мастацтва, таму асобнае значэнне мае праца мастацкага і тэхнічнага рэдактараў. Кніга адметная сваім дызайнам, яе кампазіцыя нараджаецца, бы мастацкае палатно, усебакова разглядаецца: з якой старонкі пачынаецца кожны раздзел і інш. Патрэбны клопат і ўвага. На жаль, часу на працу над кнігай застаецца ўсё менш і менш: ідэя, якую ты не паспеў рэалізаваць, рэалізуецца канкурэнтам, а рынак не вытрымлівае дзвюх аднолькавых прапаноў. (Чытач проста не здольны набыць дзве падобныя кнігі.)

> *"Прыярытэтным напрамкам з'яўляецца выданне кніг, прысвечаных гісторыі, культуры, прыродзе нашай краіны, яе гарадам, багатым на архітэктурную спадчыну. У асноўным, гэта рознага кшталту прадстаўніцкая прадукцыя. Такія выданні ўпрыгожваюць экспазіцыі на міжнародных выстаўках-кірмашах, многія з іх адзначаны ўзнагародамі конкурсу "Мастацтва кнігі" — як рэспубліканскага, так і міжнароднага, што праводзіцца сярод дзяржаў-удзельніц СНД.*

**— Ці ёсць падтрымка?**

— Кніга каштуе дорага — і паліграфія, і матэрыялы, і аб'ём вялікі. Дзяржава ў асобе Міністэрства інфармацыі краіны аказвае фінансавую падтрымку. Дзякуючы гэтаму кошт аднаго экзэмпляра для пакупніка дасягальны. Сацыяльна значныя праекты заўсёды знаходзяць падтрымку. Мы вельмі ў гэтым зацікаўлены: хацелі, каб такія кнігі, як "Беларускае народнае мастацтва", змагла прачытаць вялікая колькасць людзей. Канечне, можна паставіць максімальны кошт — тады гэта будзе выданне для абраных, вузкага кола спецыялістаў. Наша мэта — расказаць усім і пра іканапіс Беларусі, і пра алтарны жывапіс, і пра многія іншыя культурныя набыткі краіны. Мы плануем шмат кніг, прысвечаных прыгажосці прыроды, напрыклад, звязаных з мясцінамі Янкі Купалы, шэраг кніг зусім малога фармату пра асобныя славутасці — Полацкі Сафійскі сабор, Камянецкую вежу і іншыя. Часам знаходзяцца зацікаўленыя мецэнаты. Тады сабекошт выдання таксама памяншаецца.

**— Што плануеце на бліжэйшы час?**

— У гэтым годзе будзем працягваць выданне кніг па мастацтве. Цікавыя праекты, якія запланаваны: кніга пра горад Мінск, што была б і ілюстратыўнай, і інфарматыўнай, каб з яе маглі атрымаць звесткі, які наш Мінск сёння, калі і кім яго славутасці былі створаны. Плануем не адну мову — некалькі: рускую, беларускую і замежную, часцей за ўсё для такіх выданняў — англійскую. Калі змяшчаем тэкст на ёй, трапляем у сегмент вялікай мэтавай групы замежнікаў, бо англійскую яны ўсе ведаюць. Рыхтуем кнігу пра Беларусь, таксама разлічаную не толькі на замежнікаў, але і на жыхароў Беларусі, каб яны яшчэ раз прыгадалі, што ў нас ёсць вартага ўвагі, у ёй будзе шмат тэксту і ілюстрацый. Пакуль работа над праектам ідзе, не магу расказваць падрабязней, але гарантую, што мастацкая канцэпцыя зноў дасць магчымасць калектыву ганарыцца сваёй прадукцыяй.

Плануецца і серыя невялікіх выданняў. Прадставім работы нашых славутых мастакоў. Ілюстрацыі будуць суправаджаць тэкст: біяграфія, асноўныя напрамкі, у якіх тварыў аўтар.

***Прэзентацыя***




## Свет старажытнай дыпламатыі

Марына ВЕСЯЛУХА

**Значнай выдавецкай падзеяй мінулага года можна назваць фундаментальную анталогію літаратур СНД "Пад ветразем вечнага неба. Фальклор і літаратурныя помнікі краін СНД на рускай і англійскай мовах". Кніга падрыхтавана пры падтрымцы ЮНЕСКА і Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва і пабачыла свет у расійскім выдавецтве "Художественная литература".**

Беларуская літаратура ў анталогіі прадстаўлена творам пісьменніка XVII ст. Пятра Вяжэвіча "Дзённік пасольства да цара Міхаіла Фёдаравіча ад караля і вялікага князя Уладыслава IV", што з'яўляецца літаратурным шэдэўрам эпохі Барока, унікальнай гістарычнай крыніцай, рарытэтным помнікам нацыянальнай дыпламатыі і міжнародных адносін. Пераклад твора П. Вяжэвіча на сучасную рускую мову выканаў доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі Іван Саверчанка. Пераклад на англійскую мову — Івана Саверчанкі і Алены Бяцені.

— Для працы над гэтай кнігай быў створаны міжнародны калектыў, які ўключаў па сутнасці філалагічную эліту краін СНД, бо кожная дзяржава па задумцы прадстаўляла мастацкія шэдэўры нацыянальных літаратур — па-руску і па-англійску, — распавёў Іван Саверчанка. — Рыхтуючы тэксты для гэтага прэзентатыўнага выдання, кожная краіна кіравалася сваімі крытэрыямі, мы ж улічвалі эстэтычную і мастацкую вартасць, ідэйную значнасць і навізну матэрыялу. І не шкадуем, што абралі менавіта гэты твор, раней ён быў не вядомы шырокай публіцы, бо захоўваўся толькі ў арыгінале на старабеларускай мове.

"Дзённік пасольства да цара Міхаіла Фёдаравіча ад караля і вялікага князя Уладыслава IV" Пятра Вяжэвіча ўтрымлівае шмат інфармацыі пра характар і разнастайныя аспекты міждзяржаўных дачыненняў таго часу, дыпламатычныя рытуалы, адкрывае свет тагачасных адносін паміж элітамі дзвюх краін — ВКЛ і Маскоўскага княства. І ён можа быць цікавым не толькі для прафесіяналаў-філолагаў, але і для аматараў, бо чытаецца як сапраўдны дэтэктыў.

*Маладзічок*



# Марыся Лось, мастак, аўтар лагатыпа «Маладзічка»: Кнігі як кіно



— З самага маленства сябравала з кнігамі, яшчэ мама распавядала, што ў двухгадовым узросце я гадзінамі магла гартаць іх, разглядаючы малюнкі, вельмі акуратна, асцярожна і з захапленнем. Потым, навучыўшыся чытаць, я амаль праглынала любую кнігу, што трапляла мне ў рукі, гэта было падобна да прагляду кінафільма. Як кіно: нешта застаецца ў памяці, нешта не. Я нават вяла адмысловы сшытак, дзе запісвала, што і за які час прачытала, але, безумоўна, ёсць улюбёныя кнігі, якія дастаткова ўзяць у рукі — і адразу пераносішся ў чароўны свет і ў той жа час узгадваеш, дзе, пры якіх абставінах і ўмовах трымала яе ў руках у мінулы раз. Сярод такіх кніг магу назваць “Казкі” Карэла Чапека, “Янка і Ружа” Уладзіміра Ягоўдзіка, “Скандынаўскія народныя казкі”.

Хацелася б асобнае слова сказаць пра кнігу Уладзіміра Ягоўдзіка “Янка і Ружа”. Яна была падарункам з нагоды нейкага свята, і першае, што кінулася ў вочы, — гэта яе фармат: кніга не змяшчалася на маіх пальцах, таму “прапісалася” побач з сур’ёзнымі даведнікамі, атласамі па археалогіі і альбомамі па мастацтве. І па змесце кніга аказалася незвычайнай, перачытваючы яе безліч разоў на працягу доўгага перыяду, я кожны раз знаходзіла нешта новае, чароўнае і светлае.

Афармляючы кнігі, я перачытваю іх уздоўж і ўпоперак, аналізую, ацэньваю, параўноўваю і з чыстым сумленнем магу параіць для чытання тое, што самой запала ў душу. Напрыклад, цудоўная казка Алены Масла “Як Пані Чаротная ў Палангу на госці бегала” пра прыгоды маленькай рапушкі, якая распавядае пра свае вандроўкі. Смачнае слова, лёгка чытаецца, цалкам захапляе, і так хочацца ведаць, што будзе далей… Таксама нядаўна выйшла каштоўная кніжачка для самых маленькіх “А па сенцах ходзіць Бай” — прыгожыя беларускія калыханкі-забаўлянкі на роднай мове.

## Пра сур’ёзнае — цікава

**Вольга ШЫРОКАСТУП**

“Вясёлка «чорнага золата»” — так называецца кніга казак Анатоля Караленкі, што ўбачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 2011 годзе. Аўтара з павагай называюць рэчыцкім Андэрсенам, бо напісана ім больш як сотня казак.

У “Вясёлку «чорнага золата»” ўвайшла 21 казачная гісторыя. Усе яны розныя, але аб’яднаны адной тэмай, добра вядомай аўтару. Каля трыццаці гадоў працаваў ён майстрам нафтаздабываючага ўпраўлення “Рэчыцанефць”. Казкі адрасуюцца дзецям малодшага школьнага ўзросту. Але іх будзе цікава пачытаць і старшакласнікам, і дарослым людзям. Даступна расказвае Анатоль Караленка пра даволі складаныя рэчы.

Асабліва выдзяляецца ў кнізе пра “чорнае золата” казка “Зямля родная”. Сонца называе Зямлю сваёй любімай планетай, расказвае іншым пра яе багацці. І гаворыць, што для людзей “Зямля — дом родны”. Менавіта тэма любові і пяшчоты да вялікага дому чалавечага — галоўная ў кнізе, доказам таму казкі “Нафта пасля нафты”, “Чалавек і нафта”, “Дзіва-агонь”, “Залатыя кольцы”, “Вада і нафта”. Пачынае кнігу казка “Гарывада” — пра тое, як людзі навучыліся здабываць нафту і спадарожны газ. Найкаштоўнейшае багацце планеты можа быць не толькі чорнага колеру. Пра гэта — казкі “Тры чараўніцы” і “Вясёлка «чорнага золата»”. Пра добрыя і атрутныя якасці нафты распавядаецца ў казках “Белая і чорная”, “Мёртвая вада”, “Лыжка дзёгцю”.

У казцы “Плач лебедзяў” аўтар стварае жудасную карціну гібелі ўсяго жывога ад разлітай нафты і моліць Бога: “Даруй, Вялікі Гасподзь Бог, тваім неразумным дзецям...”

На старонках кнігі знойдуцца і легенда — “Нафтаград”, і мары казачніка-нафтавіка — “Свідравіна-кветка”, і звесткі з гісторыі — “Марскі скарб”, “Прабабуля нафтавых свідравін”, і проста цікавыя казачныя апавяданні пра тое, як і пры дапамозе чаго здабываюць нафту.

Пераклад казак з рускай мовы зрабіў вядомы беларускі пісьменнік Мікола Чарняўскі, а аздобіў кнігу мастак Валянцін Макаранка.

**Ігнат ШЫЧКО**

## …Любоў мая высокая, як неба

*Маляўка, М. Коласаў абярэг: Дзецям пра Якуба Коласа / Мікола Маляўка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.*

У апошні час выдавецтва “Мастацкая літаратура” падаравала маленькім чытачам некалькі кніг пра класікаў беларускай літаратуры. Пра Янку Купалу напісаў Уладзімір Ліпскі, пра Максіма Багдановіча — Алесь Марціновіч. Новая кніга ў гэтым шэрагу — аповед Міколы Маляўкі.

З прадмовай да кнігі выступае малодшы сын песняра — доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч. “Кніга Міколы Маляўкі — спрасаваны і паэтызаваны аповед пра асноўныя падзеі жыцця і творчасці Якуба Коласа, — піша ён. — Аўтар шырока выкарыстоўвае аўтабіяграфічныя сюжэты з жыцця Коласа, выказванні і ўспаміны пісьменнікаў, а таксама блізкіх яму людзей. Тэкст аздоблены паэтычнымі радкамі, вытрымкамі з апавяданняў, аповесцей і п’ес Коласа, рэдкімі фотаздымкамі”. І далей: “Як зямляк Коласа аўтар валодае шэрагам невядомых фактаў з гісторыі жыцця Коласавай радні, успамінамі, пачутымі ў свой час ад старэйшых аднавяскоўцаў. З дзіцячых гадоў ён захапляўся кнігамі Коласа, ужываўся ў яго творы, удзельнічаў у тэатралізаваных школьных спектаклях па некаторых з іх і таму выдатна валодае матэрыялам”.




У кнізе — 37 раздзелаў. Мікола Маляўка вельмі паслядоўны ў выкладанні матэрыялу пра Якуба Коласа. Кароткія мастацкія нарысы — вызначэнне найбольш важкіх момантаў у жыцці і творчасці песняра. Кожны з раздзелаў эмацыйна падсумоўваюць санеты Міколы Маляўкі, прысвечаныя класіку. Юнага чытача чакае сапраўды ўнікальнае гісторыка-літаратурнае падарожжа. Пачатак — у Акінчыцах (“Матчына калыханка”), Ластку (“Маленства ў Ластку”), Альбуцы (“Альбуцкі рай”), мясцінах, дзе будучы творца набіраўся сілы і моцы ад роднага слова, ад прыгажосці наднёманскай старонкі. “Тут Колас жыў — у цішыні лясной. // Грымела часам толькі навальніца // Ды завіруха выла, як ваўчыца. // Вітаў буслоў — вандроўнікаў вясной, // Блукаў адзін з кашолкаю грыбной…”

Кожны з нарысаў — 4 — 5 старонак. М. Маляўка так выбудоўвае канструкцыю твораў, што паспявае ў гэтай лаканічнай прасторы сказаць досыць шмат. Факты нанізваюцца на скразную лінію, думкі-высновы падсумоўваюць той ці іншы этап у жыцці і творчасці Якуба Коласа. У выніку асобныя фрагменты ствараюць шырокае палатно жыцця.

Расказваючы пра паэта ў тых ці іншых варунках, паказваючы побыт, акалічнасці існавання на розных гістарычных адрэзках часу, Мікола Маляўка стварае рэльефны вобразны партрэт Якуба Коласа і ў стасунках з людзьмі, народам Беларусі. Як мне асабіста падаецца, кніга можа стаць добрым дапаможнікам у вывучэнні творчасці Якуба Коласа ў агульнаадукацыйнай школе. Тыраж у 1200 экзэмпляраў, упэўнены, павінен досыць хутка разысціся, і кніга выйдзе больш масавым накладам у серыі “Школьная бібліятэка”. Зробленае Міколам Маляўкам можна паставіць хіба што ўпоравень з кнігамі М. Лужаніна, С. Александровіча, прысвечанымі Якубу Коласу.

## Паміж сузор’яў Льва і Ганчакоў

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

А ці ведаеце вы, што белы мядзведзь зусім не белы? Насамрэч валаскі яго поўсці колеру не маюць. Яны падобныя да полых трубачак з няроўнай унутранай паверхняй. Калі на поўсць трапляе сонечнае святло, адбіваецца ён пад рознымі вугламі — і мы бачым мядзведзяў белымі. Такі колер меху адыгрывае вялікую ролю. Валаскі поўсці праводзяць да скуры сонечнае святло. У летні час гэты звер да чвэрці патрэбнай яму энергіі можа атрымліваць ад сонца.

Нованароджаны дзіцёнак цюленя таксама не белы. Яго “вопратка”, як і мядзведжая, — з празрыстых бясколерных валаскоў. Прычым дзейнічае бы тэрмас, калі бялёк ляжыць на лёдзе. Малеча добра саграваецца на сонейку, а назапашанае цяпло з шубкі не выходзіць. Гэта дапамагае выжыць першыя тры тыдні, пакуль не з’явіцца належны слой тлушчу, што дазваляе цюленю ныраць і шукаць корм пад вадой.

Пра гэтыя і іншыя цікавыя факты вы даведаецеся з новай кніжкі Галіны і Сяргея Трафімавых “Пра валасы звычайныя і таямнічыя”, якой у серыі “Апавяданні Дзеда Прыродазнаўцы” парадавала выдавецтва “Народная асвета”. Мудры Дзядуля раскажа, як і з чаго пабудаваны волас, чаму ў адных людзей валасы завіваюцца, а ў іншых — не, што такое “валасы Пеле” і як на неба паміж сузор’яў Льва і Ганчакоў трапілі валасы Веранікі. А таксама пра тое, чаму ў ляніўца валасы зеленаватага




колеру і які “звярынец” у іх хаваецца.

Знойдуцца ў кнізе і загадкі, і рэбусы ў “Гульнятэцы Дзеда Прыродазнаўцы”. Выданне для дзяцей малодшага школьнага ўзросту будзе не менш цікавым іх бацькам і настаўнікам, дзядулям і бабулям.

*Азбука Морзэ*

**Чэслава ПАЛУЯН, Тамара ЗАЙЦАВА**

● У Партрэтнай зале замкавага комплексу “Мір” адбыўся святочны канцэрт, прысвечаны першай гадавіне адкрыцця Паўночнага корпуса Мірскага замка. Перад публікай выступілі артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Пасля канцэрта адбылася прэзентацыя кнігі Анатоля Бутэвіча “Таямніцы Мірскага замка. Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам”, што не так даўно пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

▬ Святочны вечар “Біблейскія сюжэты ў творчасці беларускіх майстроў” прайшоў у сталічным “Кніжным салоне”. Падчас імпрэзы прагучалі песні на вершы Рыгора Барадуліна ў выкананні Алеся Камоцкага, была прадстаўлена выстаўка графічных работ Арлена Кашкурэвіча. Удзельнікі прафесійнай дыскусіі — каталіцкія і праваслаўныя святары, мастакі і мастацтвазнаўцы — спрабавалі адказаць на пытанне: як знайсці гармонію паміж сакральным сэнсам і мастацкімі формамі?

● Спецыялізаваную выстаўку-кірмаш дзіцячай кнігі “Книжки в штанишках” плануецца зрабіць штогадовай. Першая выстаўка, што адбылася ў сталічным Палацы мастацтваў, паказала, наколькі актуальным з’яўляецца пытанне дзіцячага чытання. Удзельнікамі многіх мерапрыемстваў форуму сталі псіхолагі, супрацоўнікі бібліятэк, выхавальнікі, якія праз актыўнае абмеркаванне дапамаглі выявіць мноства станоўчых аспектаў чытання кніг дзецьмі. У выстаўцы ўзялі ўдзел беларускія і расійскія выдавецтвы, дзіцячыя перыядычныя выданні, кнігагандлёвыя арганізацыі.

▬ Першая кніга двухтомнай “Гісторыі беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI стагоддзяў” пабачыла свет у выдавецкім доме “Беларуская навука”. Гэтае выданне падрыхтавана навукоўцамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі. У кнізе аб’ёмам амаль 600 старонак упершыню ў айчыннай гістарыяграфіі раскрыты гістарычныя перадумовы і заканамернасці працэсу нацыянальнага самавызначэння беларускага народа, адлюстраваны шлях фарміравання дзяржаўнасці. Навінка рэкамендуецца для выкарыстання ў навукова-даследчай рабоце студэнтаў і аспірантаў, а таксама ў вучэбным працэсе.

● Прэзентацыя кнігі Уладзіміра Уладзімірава “Такая гэта Амерыка”, што выйшла нядаўна ў выдавецтве “Чатыры чвэрці”, адбылася ў бібліятэцы Мінскага каледжа дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі. Гэтая кніга — уражанні ад пяцігадовага знаходжання аўтара ў ЗША, спачатку як турыста, затым як жыхара гэтай краіны. Шчыра і эмацыйна распавёў пісьменнік пра сваю кнігу і працэс яе напісання, адказаў на ўсе пытанні, што хвалявалі слухачоў.

▬ Прыхільнікі творчасці знакамітага брытанскага пісьменніка Джона Рональда Руэла Толкіна адзначылі 3 студзеня 120-годдзе з дня яго нараджэння. Традыцыйны кароткі тост “За прафесара!” прагучаў а 9-й гадзіне вечара па мясцовым часе. З-пад пяра Толкіна, які захапляўся стварэннем так званых “штучных” моў, выйшаў агромністы чароўны свет Міжзем’я, з мноствам народаў і дыялектаў, уласнай рэлігіяй і гісторыяй, у якіх перакрыжоўваюцца матывы скандынаўскай, германскай і славянскай міфалогій, зораастрызму і хрысціянства. Раман “Валадар пярсцёнкаў”, што пабачыў свет у сярэдзіне 1950-х гадоў, досыць хутка заваяваў сусветную папулярнасць, стаў настольнай кнігай пакалення бітнікаў і хіпі і заклаў асновы літаратуры ў жанры фэнтэзі.

# Издания для умников

Юзефа ВОЛК,
Денис МАРТИНОВИЧ

**Есть люди, которые хотят всё делать правильно. Правильно выбрать домашнего питомца и ухаживать за ним. А есть те, кто хочет быть умным. Блеснуть знаниями в компании, например, в подходящий момент удивить всех, сказав, что у пауков бывает восемь глаз, или без труда разгадать даже самый сложный кроссворд. Представляем вниманию читателей "Кніжнага свету" издания ООО "Харвест", которые расширят кругозор и помогут выбрать питомца.**

## Кошка — сама по себе

Сегодня сложно сказать, когда человек приручил кошку. Существует мнение, что это произошло 10 — 12 тысяч лет назад. Кошка, в отличие от собаки, не переносит кочевого образа жизни. Она приблизилась к человеческому жилью, чтобы обеспечить себе пропитание. Ведь поблизости от стоянок чело-



века скапливались остатки еды, здесь концентрировались и грызуны. Люди быстро оценили полезность кошки. Кроме того, это милое пушистое животное создаёт атмосферу уюта в доме. Что может быть лучше, чем холодным зимним вечером гладить сидящую у вас на коленях кошку, слушая её мурлыканье?..

Но как правильно ухаживать за таким животным? Каковы их повадки и привычки? Как распознать кошачьи недуги, как воспитать котёнка, который станет вам настоящим другом? Эти и другие вопросы возникают сразу, как только в доме появляется пушистый питомец. Ведь несмотря на то, что кошка гуляет сама по себе и сложно поддаётся дрессировке, она нуждается в уходе и заботе. Книга **"Кошки. Новая иллюстрированная энциклопедия"** познакомит читателя с кошками всех пород, откроет удивительный мир этих животных.

В издании кошки представлены по породам и группам, в начале книги приведены термины и аббревиатуры, которые облегчат пользование энциклопедией. Интересные факты выделены на синем фоне. Так, все мы знаем, что кошкам нельзя отрезать вибриссы — усы. Почему? Считается, что без усов животное не сможет чувствовать запахи. Но не только. Учёными доказано, что кошки с подрезанными вибриссами не могут найти выход из лабиринта и быстро теряют ориентацию. Но порой кошки-мамы отгрызают маленькие усики котят. Возможно, кошка таким образом хочет предотвратить слишком ранний "выход в свет" излишне любопытного котёнка. Проходит 5 — 6 месяцев, прежде чем малыш обретёт нормальный "ус".

## Узнать правду

Природа — неотъемлемая часть жизни человека. Или наоборот: человек — часть природы? Впрочем, какая разница. Отдыхая на природе, заводя домашних питомцев, выращивая что-то на даче, в огороде или просто на окне в горшочке, даже выметая паутину из углов квартиры, мы соприкасаемся с удивительным миром. Умудрённые опытом, знаем о растениях и животных много. Но в то же время, кто сможет уверенно отличить лягушку от жабы? Или на самом деле нам ещё предстоит многое узнать?

Книга **Лори Трифелдт "Растения и Животные. Самые интересные факты"** (перевод с английского Е. Минаковой) расскажет много нового о цветах, пауках, птицах, акулах, грибах и других представителях флоры и фауны. Причём вся информация представлена в необычной форме. Вы, например, смогли бы провести интервью с тигровой акулой? А автор смогла! На вопрос, почему её можно считать опасной, сама хищница ответила: "Это заложено во мне природой. Я питаюсь практически всем, что нахожу. Что я могу поделать, если люди иногда падают с кораблей? Но, сказать по правде, людей я не очень люблю. Мне вполне подходят тюлени или морские черепахи, и я просто обожаю острых медуз". И так — о всех животных! Интересны не только факты, но и подход к их изложению.

Так как же всё-таки отличить лягушку от жабы? Всё, оказывается, просто: у лягушки гладкая влажная кожа, длинные,



сильные задние конечности, передвигается она прыжками или вплавь, живёт в воде или поблизости. Жаба же имеет сухую бугристую кожу, короткие задние лапы, передвигается скачками, живёт во влажных местах, иногда очень далеко от воды.

## «Веселей собаки нету существа!»

"Это знает всякий, это не слова, // Преданней собаки нету существа. // Преданней собаки, ласковей собаки, // Веселей собаки нету существа!", — именно такие строки есть в популярной советской песне. Прошли годы, но эти же слова можно повторить и сейчас. Дело в том, что собаку человек приручил около 12 тысяч лет назад, за это время умное животное стало для людей не только верным другом, но и надёжным помощником. Разумеется, происходило всё постепенно. Домашняя собака унаследовала от предков



весьма гибкий генетический потенциал. А человек, умело используя это, вывел множество пород.

Представьте, что вы решили остановить свой выбор на одной из них. Но как не ошибиться? Для этого рекомендуем вам книгу **"Собаки"**, которая вышла в серии "Большая иллюстрированная энциклопедия". В настоящем издании породы собак представлены по группам в соответствии с классификацией, разработанной Международной кинологической ассоциацией. Среди них выделяются овчарки и гуртовые собаки (группа 1), пинчеры и шнауцеры, молоссы, швейцарские горные и пастушьи собаки (группа 2), терьеры (группа 3), таксы (группа 4), шпицы и примитивные собаки (группа 5), гончие и родственные породы (группа 6), легавые (группа 7), ретриверы, спаниели и водные собаки (группа 8), декоративные собаки и собаки-компаньоны (группа 9), борзые (группа 10), а также некоторые породы собак, не признанные ассоциацией.

В начале каждой группы дана общая характеристика. Затем следует описание соответствующей породы, приведены советы по содержанию и уходу. Подробнейшая характеристика каждой породы, сопровождающаяся соответствующей иллюстрацией, поможет читателю представить собаку — как милого домашнего компаньона, так и незаменимого помощника человека на охоте, на работе и даже на войне.

## Только самое интересное

Кроме своего четвероногого друга многих читателей также интересуют другие животные, растения, путешествия, новые знакомые. Именно им мы советуем книгу **Лори Трифелдт "Самые интересные и знаменитые люди, животные, растения и места"** (перевод с английского И. Львовой и Е. Минаковой).

Главы этой книги расположены в алфавитном порядке. Например, на букву "М" — такие статьи, как "Маньчжурские правители Китая", "Маяки", "Мировая мифология", "Мифы Америки и Океании", "Мифы Дальнего Востока", "Мифы Севера", "Мосты" и "Мумии". Каждая страница имеет свою собственную структуру в виде колонок текста и подзаголовков, включает множество небольших, чётких цветных иллюстраций.

Объясним эти обстоятельства более подробно на примере Литвы. Тем более что автор, к сожалению, отождествляет наследие Великого Княжества Литовского именно с этой страной. Читатели найдут на этой странице много фактов белорусской истории: портрет великого князя Гедемина, рисунок башни Гедемина и Трокайского замка, герб "Погоня" и хронологическую ленту, которая включает время правления Миндовга, период войн с Тевтонским орденом и дату подписания Люблинской унии, в



результате которой ВКЛ объединилось с Польшей в Речь Посполитую. Из собственно литовского наследия представлены краткие сведения о государственном строе Литвы, её населении, культуре и природе, а также продолжение хронологической ленты, где содержится информация об истории страны в XX веке, периоде немецкой оккупации и вхождении в состав СССР. Кроме того, приводятся наиболее распространённые литовские слова и их произношение по-русски.

# Радостная весть

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО



Духовно-просветительское чтение — **"Евангелие для самых маленьких"**, допущенное к выходу в свет Издательским советом Белорусского Экзархата Русской Православной Церкви, посвящено главной для каждого христианина книге.

Евангельский рассказ о жизни Иисуса Христа, Его чудесах, смерти, воскресении, вознесении на небо изложен доступным и понятным языком, проиллюстрирован художником В. Волынцом. Каждая из иллюстраций снабжена подписью и ссылкой на место в существующих канонических евангельских текстах, где идёт речь об изображаемых событиях. На страницах книги есть и молитвы: молитва Богородице, молитва Святого Симеона Богоприимца, молитва Господня "Отче наш", тропарь Святой Пасхи — на церковнославянском и современном русском языках. Рождественская звезда на небосклоне, первые ученики Христа, внемлющие Нагорной проповеди люди, воскрешённый сын Наинской вдовы, герои притчей о пшенице и плевелах, прощении грешницы в доме Симона-фарисея, о немилосердном заимодавце и милосердном самаритянине, чудо насыщения 5000 человек пятью хлебами и хождение Иисуса по водам предстанут перед вами на страницах большого формата издания серии "Школа православия".

Издатели надеются, что с помощью этой книги они пробудят у маленьких читателей желание обратиться позже к другим священным книгам. Ибо Господь так сказал: "Небо и земля прейдут, но слова Мои не прейдут".

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 15 декабря 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям |
|---|---|---|---|---|---|
| ООО «БелИнтерМаркет» | 224030, г. Брест, ул. Советская, 64 | 200535779 | 02330/0630738, выд. 10.12.2003 № 197, прод. 8.12.2008 № 142 | 10.12.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧУП «БОФФ» | 220103, г. Минск, ул. Кнорина, 50, к. 4, к. 102 А | 100046704 | 02330/0150390 выд. 10.10.2003 № 197, прод. 8.12.2008 № 142 | 10.12.2013 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ЧИУП «Вилия и С» | 223013, Минский р-н, п.Самохваловичи, ул. Русиновичи, 1а | 600405097 | 02330/0150392 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 8.12.2008 № 142 | 10.12.2013 | литературно-художественное, издание для досуга |
| ИЧУП «МЕДИАФАКТ» | 220037, г. Минск, ул. Филимонова, 15, помещение 11 (порядковый номер 307) | 190374451 | 02330/0003951 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 08.12.2008 № 142 | 10.12.2013 | научно-популярное, производственно-практическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| НТРУП «ДИЭКОС» | 220039, г. Минск, ул. Короткевича, 5, комн. 20 | 101221883 | 02330/0150391 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 08.12.2008 № 142 | 10.12.2013 | официальное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| РУП «Информационно-вычислительный центр Национального статистического комитета Республики Беларусь» | 220070, г. Минск, пр. Партизанский, 12 а, комн. 8а | 100067865 | 02330/0552643, выд. 30.12.2003 № 209, прод. 8.01.2009 № 2 | 30.12.2012 | производственно-практическое, справочное |
| ООО «ОСКАР-АРТ» | 223044, Минский р-н, д. Касынь, контора «Белинтертранс», комн. 5 | 690244478 | 02330/0494016, выд. 30.12.2003 № 209, прод. 24.12.2008 № 15.2 | 30.12.2012 | справочное, издание для досуга |
| ЧУО «Минский институт управления» | 220102, г. Минск, ул. Лазо, 12 | 100687805 | 02330/0150388, выд. 30.12.2003 № 209, прод. 8.12.2008 № 142 | 30.12.2012 | научное, научно-популярное, учебное, справочное |
| ООО «Кузьма» | 220600, г. Минск, ул. Красная, 23, комн. 42 | 101477881 | 02330/0494019, выд. 27.01.2004 № 24, прод. 08.01.2009 № 2 | 27.01.2013 | научно-популярное, учебное, справочное, издание для досуга |
| Минское областное УП «Борисовская укрупненная типография им.1 Мая» | 222120, Минская область, г. Борисов, ул. Строителей, 33 | 600126259 | 02330/0003909, выд. 27.01.2004 № 24, прод. 3.02.2009 № 12 | 26.01.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга, научно-популярное, литературно-художественное |
| ООО "«Издательский Дом «Белый Ветер»" | 247760, Гомельская обл., г. Мозырь, ул. Советская, д. 198, комн. 4 | 400388539 | 02330/0548579, выд. 27.01.2004, № 24, прод. 8.01.2009 № 2 | 27.01.2014 | научное, производственно-практическое, справочное, учебное, издание для досуга, официальное |
| ГУО «Белорусская медицинская академия последипломного образования» | 220013, г. Минск, ул. П. Бровки, 3, к. 3 | 100185131 | 02330/0494028 выд. 27.01.2004, № 24, прод. 8.01.2009 № 2 | 27.01.2014 | научное, справочное |
| ПЧУП «БИЗНЕСРЕВЮ» | 220141, Минск, ул. Руссиянова, 4, помещение 2Н, подвал – 1 этаж, комн. 11 | 190369464 | 02330/0552902, выд. 27.01.2004, № 24, прод. 8.01.2009 № 2 | 27.01.2014 | производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| Республиканское научно-исследовательское УП «Институт радиологии», филиал «Белорусское отделение Российско-белорусского информационного центра по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС» | 246050, Гомель, ул. Федюнинского, 16, филиал 220112, г. Минск, ул. Шпилевского, д. 59, помещ. 7Н | 400068342 филиал 102318730 | 02330/0552829, выд. 17.02.2004, № 45, прод. 3.02.2009 № 12 | 17.02.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| СООО «Белфакта Медиа» | 220037, г. Минск, ул. Менделеева, 13 | 100703109 | 02330/0494031, выд. 17.02.2004 № 45, прод. 8.01.2009 № 2 | 17.02.2014 | производственно-практическое, справочное |
| ИП Климов А.А. | 220030, г. Минск, пер. Казарменный, д. 5А, кв. 22 | 190056482 | 02330/0494048, выд. 17.02.2004 № 45, прод. 3.02.2009 № 12 | 17.02.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ООО «Попурри» | 220113, г. Минск, ул. Мележа, д. 5, корп. 2, пом. 403 | 100153677 | 02330/0548529, выд. 17.02.2004, прод. 03.02.2009 № 12 | 17.02.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, литературно-художественное, издание для досуга |
| УО «Государственный институт управления и социальных технологий БГУ» | 220037, г. Минск, ул. Ботаническая, д. 15, ком. 322 | 100849921 | 02330/0494050, выд. 17.02.2004, № 45, прод. 03.02.2009 № 12 | 17.02.2014 | научное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| УО «Минский государственный высший радиотехнический колледж» | 220005, г. Минск, пр. Независимости, 62 | 190243638 | 02330/0494033, выд. 17.02.2004 № 45, прод. 08.01.2009 № 2 | 17.02.2014 | научное, учебное, справочное |
| ГУО «Центр повышения квалификации руководящих работников и специалистов системы Госимущества» | 220005, г. Минск, ул. Красная, 12, этаж 3, к. 2 | 190476434 | 02330/37, выд. 17.02.2004 № 45, прод. 08.01.2009 № 2 | 17.02.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное |
| ИРУП «Мастацкая літаратура» | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 11, к. 903 | 100055406 | 02330/0494049, выд. 17.02.2004 № 45, прод. 03.02.2009 № 12 | 17.02.2014 | официальное, научное, научно-популярное, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИПЧУП «Новик» | 220030, г. Минск, ул. Октябрьская, 12 | 100012479 | 02330/0494068, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| ООО «Энергия» | 223710, Минская обл., г. Солигорск, ул. Строителей, 30-А | 600142203 | 02330/0494059, выд. 2.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | справочное, издание для досуга |
| ООО «Гольфстрим» | 220034, г. Минск, ул. Платонова, 10-404 | 100423318 | 02330/0494301, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 02.03.2014 | справочное, издание для досуга |
| РЧУП «Рифтур» | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 19А, комн. 17 | 100905010 | 02330/0494305, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 02.03.2014 | научно-популярное, справочное, издание для досуга |
| ООО «Информпресс» | 220004, г. Минск, ул. Раковская, 36, к. 1 | 101159989 | 02330/0494058, выд. 02.03.2004, № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | официальное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ОДО «Аверсэв» | 220090, г. Минск, ул. Олешева Н. Н., дом 1, офис 309 | 100599817 | 02330/0003944, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 01.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ПТЧУП «Издательство Альтернатива» | 224013, г. Брест, пр. Машерова, д. 75/1, к. 312 | 290334782 | 02330/0494051, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, литературно-художественное, издание для досуга |
| ПЧУП «Бестпринт» | 220026, г. Минск, ул. Филатова, 9-1 | 100263406 | 02330/0494307, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 02.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, справочное, издание для досуга |
| УО «Белорусский торгово-экономический университет потребительской кооперации» | 246029, г. Гомель, проспект Октября, 50 | 400079828 | 02330/0494302, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3 | 02.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| НТООО «ТетраСистемс» | 220014, г. Минск, ул. Железнодорожная, 9 | 101035494 | 02330/0494056, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, справочное |
| ОДО «Дубки» | 223013, Минский р-н, п. Самохваловичи, ул. Русиновичи, 1а | 600050462 | 02330/0494084, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 №12 | 02.03.2014 | литературно-художественное, издание для досуга |
| ИП Филимонова Л. А. | 220019, г. Минск, ул. Тикоцкого, д. 26, кв. 69 | 101222068 | 02330/0494303, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 04.03.2009 № 3.3. | 02.03.2014 | научно-популярное, издание для досуга |
| РУП «Белорусский государственный институт метрологии» | 220053, г. Минск, Старовиленский тракт, 93, корп. 1, 2 | 10055197 | 02330/0494071 выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | производственно-практическое, справочное |
| РУП "Издательство «Беларусь»" | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 11 | 100060858 | 02330/0494065, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РУП "Издательство «Вышэйшая школа»" | 220048, г. Минск, пр. Победителей, 11, ком. 801-816, 818-823 | 100079604 | 02330/0494062, выд. 02.03.2004 № 60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| РУП "Издательство «Белорусская Энциклопедия имени Петруся Бровки»" | 220012, г. Минск, пер. Калинина, 16 | 100262560 | 02330/0494061 выд. 02.03.2004 №60, прод. 03.02.2009 № 12 | 02.03.2014 | официальное, научное, научно-популярное, производственно-практическое, учебное, массово-политическое, литературно-художественное, справочное, издание для досуга |
| ИООО «ПРАВО И ЭКОНОМИКА» | 220072, г. Минск, ул. Сурганова, д. 1, корп. 2, к. 701 | 100699202 | 02330/0494335, выд. 01.04.2004 № 77, прод. 16.03.2009 № 31 | 01.04.2014 | научное, справочное |

давателей и студентов университета / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный технологический университет; [редколлегия: Пятов В. В. и др.]. — Витебск: ВГТУ, 2011. — 331 с. — Часть текста на белорусском языке. — 45 экз. — ISBN 978-985-481-240-3.

**Информационные технологии и управление**: материалы 47-й научной конференции аспирантов, магистрантов и студентов (Минск, 25–29 апреля 2011 г.) / [редколлегия: Л. Ю. Шилин (главный редактор) и др.]. — Минск: БГУИР, 2011. — 118 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-488-813-2.

**Личность – слово – социум**: материалы X Международной научно-практической конференции (Минск, 29–30 апреля 2010 г.) / [редколлегия: В. В. Фалалеев (главный редактор) и др.]. — Минск: Паркус плюс, 2010. — 237 с. — Часть текста на английском, белорусском и польском языках. — 100 экз. — ISSN 2076-4588.

**Машеровские чтения (5; 2011; Витебск)**. V Машеровские чтения: материалы международной научно-практической конференции студентов, аспирантов и молодых ученых, Витебск, 29–30 сентября 2011 г. / [редколлегия: А. П. Солодков (главный редактор) и др.]. — Витебск: ВГУ, 2011. — 449 с. — Часть текста на белорусском языке. — 47 экз. — ISBN 978-985-517-265-0 (ошибоч.).

**Минский государственный лингвистический университет. Научная конференция студентов и магистрантов (2011)**. Материалы ежегодной научной конференции студентов и магистрантов университета, 27–28 апреля 2011 г.: в 3 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет; [редколлегия: Н. П. Баранова (ответственный редактор) и др.]. — Минск: МГЛУ, 2011. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-444-2.

Ч. 1. — 227 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — ISBN 978-985-460-445-9.

Ч. 2. — 227 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-460-449-7.

Ч. 3. — 203 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-460-450-3.

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Марціновіч, А. А.** Свяці, зорка, свяці: дзецям пра Максіма Багдановіча: нарысы / Алесь Марціновіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 149 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-02-1302-0 (у пер.).

**Котов, А. И.** История Беларуси и мировые цивилизации = The history of Belarus and the world civilizations: [для старшего школьного возраста: перевод с белорусского] / Альберт Котов. — Минск: Энциклопедикс, 2011. — 227 с. — Часть текста на английском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-31-4.

**Ляббе, Б.** Вера и знание: для детей / Брижитт Ляббе, П. Ф. Дюпон-Берье; [перевел с французского П. А. Самсонов]. — Минск: Попурри, 2011. — 50 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1396-9.

**Ляббе, Б.** Любовь и дружба: для детей / Брижитт Ляббе, Мишель Пюш; [перевел с французского П. А. Самсонов]. — Минск: Попурри, 2011. — 53 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1397-6.

**Молитвослов для самых маленьких** / [художник Евгения Суховерхова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 19 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6886-68-6.

**Преподобная Евфросиния Полоцкая** / [пересказала для детей Демченко Светлана Петровна]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-405-6.

**Проказов, Б. Б.** Слава России: заграничные походы Русской армии и флота / Борис Проказов; [иллюстрации автора]. — Минск: Братство в честь святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2011. — 47 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-6978-18-3 (в пер.).

**Святая блаженная Валентина Минская** / [пересказала для детей Дашкевич Татьяна Николаевна; иллюстрации Г. Л. Ивановой]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — 1500 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-409-4.

**Святая великомученица Екатерина** / [пересказал для детей Велько Александр Владимирович; рисунки А. В. Велько, Г. Л. Ивановой]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 20 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-410-0.

**Святая праведная София, княгиня Слуцкая** / [пересказала для детей Малишевская Оксана Вадимовна; иллюстрации, схемы и фотографии Т. В. Стасевич и др.]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-396-7.

**Святая преподобномученица Евпраксия, княгиня Псковская** / [пересказала для детей Старостина Ирина Анатольевна; схемы А. В. Велько, иллюстрации Г. Л. Ивановой, В. В. Прапорщика, фотографии иеромонаха Мардария, И. А. Старостиной, М. Н. Мироненко]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-358-5.

**Томсон, Р.** У тебя еще не начались?: [ты и твои месячные: расскажем все как есть] / Рут Томсон, Хлоя Томсон; [перевела с английского Ю. Е. Андреева]. — Минск: Попурри, 2011. — 111 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-15-1395-2.

**Трафимова, Г. В.** Иванов клад: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2011. — 48 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1663-9.

**Трафимова, Г. В.** Почему у черной смородины ягоды черные?: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2011. — 78 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1623-3.

**Трафимова, Г. В.** Чудо в полосочку: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2011. — 71 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1685-1.

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ

### Філасофія

**Время и вечность: философия, логика, познание**: сборник научных трудов к 90-летию белорусского философа Алексея Климентьевича Манеева / Государственное научное учреждение «Институт философии Национальной академии наук Беларуси»; [научные редакторы: А. А. Лазаревич и др.]. — Минск: Право и экономика, 2011. — 214 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-980-9.

**Кикель, П. В.** Философский минимум / П. В. Кикель. — Минск: Право и экономика, 2011. — 590 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-982-3.

**Медведева, Л. С.** О соотношении философских систем Алена Бадью и Платона: научный доклад / Л. С. Медведева; под научным руководством и редакцией Карасевой Светланы Геннадьевны. — Минск: Право и экономика, 2011. — 43 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-986-1.

**Основы социально-гуманитарных наук**: краткий курс лекций: [для учащихся ССУЗов] / Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова; составитель А. И. Хмарский. — Могилев: МгГУ, 2011. — 141 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-480-737-9.

### Псіхалогія

**Дайер, У.** Как избавиться от комплекса неполноценности = Your erroneous zones / Уэйн Дайер; [перевел с английского С. И. Ананин]. — Минск: Попурри, 2012. — 287 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1467-6.

**Киселев, С. А.** Основы психологии и педагогики: курс лекций для студентов УО «БГСХА» всех специальностей / С. А. Киселев; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. — Горки: БГСХА, 2011. — 164 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-467-335-6.

**Конспект лекций по общей психологии**: [познавательные процессы, эмоциональная и волевая сферы, психические свойства]: пособие для студентов педагогических специальностей вузов / [С. Н. Жеребцов и др.]; под общей редакцией С. Н. Жеребцова, М. А. Дыгуна. — Минск: Экоперспектива, 2011. — 201 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-469-401-6.

**Основы психологии и педагогики**: курс лекций для студентов заочной формы обучения / [Баталко Тамара Ивановна и др.]. — Витебск: ВГТУ, 2011. — 131 с. — 95 экз. — ISBN 978-985-481-239-7. — ISBN 987-985-481-239-7 (ошибоч.).

**Основы психологии и педагогики**: учебно-методический комплекс: [для студентов / Частное учреждение образования «Минский институт управления»; авторы-составители: Н. А. Лобан и др.]. — 2-е изд. — Минск: МИУ, 2011. — 441 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-757-4.

**Статистические методы в психологии**: учебно-методическое пособие для студенток заочной формы обучения по специальности «Психология» / Женский институт Энвила, Кафедра психологии; [автор-составитель: В. В. Сечко]. — Минск: ЭНВИЛА, 2011–

Ч. 2: Проверка статистических гипотез и корреляционный анализ. — 2011. — 67 с. — 240 экз.

**Шлыкова, Т. Ю.** Психология и педагогика: учебно-методическое пособие: [для аспирантов] / Т. Ю. Шлыкова; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет, Кафедра психологии и педагогики. — Минск: БГАТУ, 2011. — 245 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-519-413-3.

## РЭЛІГІЯ. БАГАСЛОЎЕ

**Старостенко, В. В.** Религия и свобода совести в Беларуси: очерки истории: монография / В. В. Старостенко; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011. — 271 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-480-736-2.

### Хрысціянства

**Беларускі праваслаўны каляндар, 2012**: месяцаслоў, звод імёнаў святых, святыя зямлі беларускай, старажытныя храмы Беларусі, канон пакаянны да Госпада, канон малебны да Прасвятой Багародзіцы / [галоўны рэдактар протаіерэй Георгій Латушка; укладальнікі: Тацяна Матрунчык, Лідзія Кулажанка; перакладчык: протаіерэй Сергій Гардун; фота Ігара Камінскага і інш.]. — Мінск: Прыход Свята-Петра-Паўлаўскага сабора ў г. Мінску, 2011. — 151 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6594-39-0.

**Буслы над Святым Полем**: матэрыялы XVIII Міжнароднай навукова-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да Святыняў» з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга / [праект, укладанне і рэдакцыя Ніны Сямёнаўны Загорскай і Аляксандра Мікалаевіча Лапата-Загорскага; фота: Я. В. Пясецкі, А. М. Лабада]. — Мінск: Права і эканоміка, 2011. — 140 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 300 экз. — ISBN 978-985-442-996-0.

**Башкиров, В. Г.** О корыстолюбии и средствах его преодоления / протоиерей Владимир Башкиров. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 22 с. — 1000 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-985-511-365-3.

**В помощь кающимся** / [автор-составитель И. В. Новиков]. — Минск: В. П. Ильин, 2011. — 47 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-6365-34-1.

**Введение в православное богословие**: учебно-методическое пособие: [для студентов] / ГУО «Институт теологии им. святых Мефодия и Кирилла Белорусского государственного университета»; [составитель: преосвященнейший Артемий, епископ Гродненский и Волковысский]. — 2-е изд. — Минск: Зорны Верасок, 2011. — 335 с. — 10 экз. — ISBN 978-985-6957-52-2.

**Гийон, Ж.** Метод молитвы: перевод с французского / Жанна Гийон; [вступление Веры Кушнир]. — Минск: Бизнесофсет, 2011. — 110 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6939-34-4.

**Год с русскими поэтами**: православный календарь, 2012: стихотворения, фрагменты из дневников и писем русских поэтов Золотого и Серебряного века / составитель Дмитрий Шеваров. — Москва: Сретенский монастырь; Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 383 с. — 10000 экз. — ISBN 978-5-7533-0599-2 (Сретенский монастырь). — ISBN 978-985-6886-59-4 (Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске).

**Долгопалец, В. И.** Круг жизни: путешествие по Святой земле / Владимир Долгопалец, бакалавр богословия. — Минск: Братство в честь святого Архистратига Михаила, 2011. — 319 с. — 3300 экз. — ISBN 978-985-6978-15-2 (в пер.).

**Другая земля**: [о насельниках психоневрологического интерната № 3 г. Минска / редакторы-составители: монахиня Евпраксия (Шиленкова), Игорь Полевиков; фотоматериал: Димитрий Кунцевич, София Кондакова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 126 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6886-52-5.

**Жития святых, просиявших на Святой Горе Афон**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 782 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6886-58-7 (в пер.).

**Игнатий (Брянчанинов Д. А.).** Аскетические опыты: т. 1–2 / святитель Игнатий Брянчанинов. — Минск: Лучи Софии, 2011. — 911 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-6869-13-9 (в пер.).

**Кирилл (Гундяев В. М.; патриарх; 1946– ).** Храните веру в сердцах: слово Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Кирилла / [составитель Велько Александр Владимирович]. — Минск: Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви, 2011. — 525 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-511-406-3 (в пер.).

**Молитвослов**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 447 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6886-28-0 (в пер.).

**Поучения на каждый день года святителя Николая Сербского (из «Охридского пролога»)**: [в 2 ч.] / перевод И. А. Чароты, А. И. Чароты, В. И. Чароты; под общей редакцией И. А. Чароты. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 1500 экз.

Ч. 1. — 367 с. — ISBN 978-985-545-035-2.

Ч. 2. — 369 с. — ISBN 978-985-545-036-2.

**Преодоление скорби** / [редактор-составитель монахиня Евпраксия (Шиленкова)]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 126 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6886-63-1.

**Святое Евангелие**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 542 с. — 7000 экз. — ISBN 978-985-6886-64-8 (в пер.).

**Скрижали. Серия «Ветхозаветные исследования»**: [альманах / главный редактор Акимов Виталий Викторович]. — Минск: Ковчег, 2011–

Вып. 1. — 2011. — 142 с. — Часть текста на немецком и французском языках. — 99 экз. — ISBN 978-985-7006-39-7.

**Стоуэлл, Д.** Жизнь в царстве: в 2 ч. / Джозеф Стоуэлл; перевод с английского [Александра Капустина]. — Минск: Религиозная миссия «Библейский радиокласс», 2011.

Ч. 2: Следование мировоззрению и образу жизни царя. — 2011. — 31 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6844-42-6.

**Хлеб наш насущный**: ежедневное христианское чтение: в 4 кн. / [перевод с английского: Александр Капустин]. — Минск: Религиозная миссия «Библейский радиокласс», 2010– — ISBN 978-985-6844-36-5.

Кн. 2: Апрель, май, июнь, 2011. — 2011. — 95 с. — 11200 экз. — ISBN 978-985-6844-41-9.

Кн. 3: Июль, август, сентябрь, 2011. — 2011. — 95 с. — 13000 экз. — ISBN 978-985-6844-43-3.

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. ПАЛІТЫКА. ЭКАНОМІКА. ГАНДАЛЬ. ПРАВА. ДЗЯРЖАВА. ВАЕННАЯ СПРАВА. АДУКАЦЫЯ. ФАЛЬКЛОР

**Академия управления при Президенте Республики Беларусь (Минск)**. Научные труды Академии управления при Президенте Республики Беларусь. — Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2001– — ISSN 2218-2195.

Вып. 13: Экономика и управление. Право. Философия, психология, педагогика управления / [редколлегия: главный редактор – А. Н. Морозевич и др.]. — 2011. — 247 с. — Часть текста на белорусском языке. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 100 экз.

**Обществоведение**: пособие для подготовки к централизованному тестированию / [М. И. Вишневский и др.]; под редакцией М. И. Вишневского. — Минск: Аверсэв, 2011. — 383 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-772-8.

### Тэорыя статыстыкі

**Спирков, С. Н.** Теория статистики: учебно-методический комплекс: [для студентов экономических специальностей] / С. Н. Спирков, Н. П. Шелег; [Частное учреждение образования «Минский институт управления»]. — Минск: МИУ, 2011. — 205 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-758-1.

### Сацыялогія

**Барановский, Н. А.** Антидевиантная политика: теория и социальная практика / Н. А. Барановский; Национальная академия наук Беларуси, Институт социологии. — Минск: Беларуская навука, 2011. — 270 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1320-6.

**Берч, Д.** Искусство убеждения / Джефф Берч; [перевел с английского О. Г. Белошеев]. — Минск: Попурри, 2011. — 318 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-15-1427-0.

**Елсуков, А. Н.** История социологии: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности «Социология» / А. Н. Елсуков, А. Н. Данилов. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 574 с. — 1050 экз. — ISBN 978-985-17-0358-2 (в пер.).

**Карнеги, Д.** Как завоевывать друзей и оказывать влияние на людей: 5 навыков: тренинг / Дейл Карнеги; [перевела с английского И. В. Гродель]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 315 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1482-9 (в пер.).

**Кийосаки, Р. Т.** Богатый папа, бедный папа / Роберт Т. Кийосаки и Шэрон Л. Лектер; [перевод с английского – Е. А. Мартинкевич]. — 11-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 270 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1463-8 (в пер.).

**Максвелл, Д.** Золотые уроки лидерства: как поднять свой авторитет среди людей / Джон Максвелл; [перевела с английского Л. А. Бабук]. — 3-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 221 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1432-4.

**Моранси, П.** Просите – и получите / Пьер Моранси; [перевел с английского О. Г. Белошеев]. — 3-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 158 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1465-2.

**Мэрфи, Д.** Сила подсознания для карьерного роста / Джозеф Мэрфи; составитель Артур Пелл; [перевел с английского В. М. Боженов]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 268 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1462-1.

**Постсоветское пространство в миропорядке XXI века: приоритеты, особенности, будущее**: материалы международной научно-практической конференции, Минск, октябрь 2010 г. / [редколлегия: А. Н. Данилов (главный редактор), В. Ф. Гигин, С. Г. Мусиенко]. — Минск: Медиафакт, 2011. — 286 с. — Часть текста на английском языке. — 110 экз. — ISBN 978-985-6875-15-4.

**Психология социального развития: традиции и исследовательские перспективы**: сборник научных трудов кафедры психологии / Российский государственный социальный университет, Филиал РГСУ в г. Минске; [научная редакция: Н. В. Гольцова]. — Минск: Амалфея, 2011. — 215 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-441-963-3.

**Рубанов, А. В.** Социология массового поведения: учебно-методическое пособие для студентов, обучающихся по специальностям 1-23 01 05 «Социология», 1-23 01 07 «Информация и коммуникация» / А. В. Рубанов. — Минск: БГУ, 2011. — 158 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-503-2 (в пер.).

**Социально-психологические проблемы современного общества и человека: пути решения**: материалы международной научно-практической конференции, Витебск, 20–21 октября 2011 г. / [редколлегия: Г. А. Качан, С. Д. Матюшкова]. — Витебск: ВГУ, 2011. — 345 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 97 экз. — ISBN 978-985-517-317-6.

**Социология туризма**: методические рекомендации : [для преподавателей] / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра философии; [составитель: Л. Н. Кривцун-Левшина]. — Витебск: ВГУ, 2011. — 49 с. — 50 экз.

**Уильямс, Д.** К чертям работу! Как заниматься любимым делом и получать за это деньги / Джон Уильямс; [перевел с английского С. Э. Борич]. — Минск: Попурри, 2011. — 301 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1414-0.

**Цивилизационная идентичность в эпоху глобализации**: международная молодежная научная конференция, Минск, 10 марта 2011 г. / [редакторы: Е. М. Галиновская, Ж. К. Зеневич, О. В. Шарпило]. — Минск: Национальная библиотека Беларуси, 2011. — 303 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 150 экз. — ISBN 978-985-6879-55-8.

**Эволюция семьи в Европе: Восток – Запад**: по материалам исследования «Родители и дети, мужчины и женщины в семье и обществе»: сборник статей / Независимый институт социальной политики; [под общей редакцией С. В. Захарова, Л. М. Прокофьева, О. В. Синявской]. — Минск: Альтиора – Живые краски, 2011. — 391 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6831-65-5.

### Формы палітычнай арганізацыі

**Доўнар, Т. І.** Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасцях "Правазнаўства", "Паліталогія", "Эканамічнае права", "Міжнароднае права" / Т. І. Доўнар. — Мінск: ДІКСТ БДУ, 2011. — 548 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-491-071-0 (у пер.).

**Демидова, И. А.** История государства и права Республики Беларусь: учебно-мето-дические материалы: [для студентов] / И. А. Демидова, П. А. Концевой; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011. — 74 с. — 97 экз.

**Ильинский, Н. И.** История государства и права зарубежных стран: в вопросах и ответах: [для студентов] / Н. И. Ильинский, Г. К. Аргучинцев. — Минск: Дикта, 2011. — 163 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-494-631-3.

**Лукина, Л. В.** Основы идеологии белорусского государства: учебно-методическое пособие для студентов ветеринарного, биотехнологического и заочного факультетов, слушателей факультета повышения квалификации и переподготовки кадров / [Л. В. Лукина]; Витебская государственная академия ветеринарной медицины, Кафедра философии и политологии. — Витебск: ВГАВМ, 2011. — 42 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-512-528-1.

### Унутраная палітыка

**Яскевич, Я. С.** Политический риск и психология власти / Я. С. Яскевич; Государственное научное учреждение «Институт философии НАН Беларуси». — Минск: Право и экономика, 2011. — 297 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-989-2.

### Міжнародныя адносіны

**Союзное государство в контексте мировых интеграционных процессов**: научные материалы Межакадемического совета по проблемам развития Союзного государства / Межакадемический совет по проблемам развития Союзного государства, Постоянный комитет Союзного государства, Российская академия наук, Национальная академия наук Беларуси; [под ред. С. М. Дедкова, В. К. Егорова]. — Минск: Центр системного анализа и стратегических исследований НАН Беларуси, 2010–

Вып. 2. — 2011. — 261 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6999-03-4. — ISBN 985-6999-03-4 (ошибоч.).




## Кнігарня "Цэнтральная кніжная крама", г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
2. Уладзімір Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім. — Мінск: Мастацкая літратура, 2008.
3. Чароўны свет. З беларускіх легендаў, паданняў і казак. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2011.
4. Минск за один день. — Минск: Рифтур, 2010.

*Автор текста Христофор Хилькевич о своей работе говорит так: "Сочинение путеводителя по Минску отчасти похоже на хождение по минному полю", а бывалые экскурсоводы скажут, что таким Минск еще не видел никто. Издание с качественной полиграфией, интересными фотографиями — непривычно много свежих панорам центра города, снятых с вертолёта, есть ночные снимки. Вооружившись путеводителем, действительно можно за один-два дня обойти и увидеть практически все основные достопримечательности столицы Беларуси. Кроме того, книга будет хорошей памятью о визите в Минск или вашим подарком его гостям.*

5. Анатолий Тарас. Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII — XX веках. — Минск: Харвест, 2010.
6. Тамара Лисицкая. Идиотки. — Минск: Регистр, 2010.
7. Михаил Голденков. Тропою волка. — Минск: Букмастер, 2011.
8. Беларускія народныя казкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010.
9. Фирейдон Батмангхелидж. Вода для здоровья. — Минск: Попурри, 2009.
10. Билл Ньюмен. Парите вместе с орлами. — Минск: Попурри, 2006.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Джордж Оруэлл. 1984. Скотный двор. — Москва: АСТ, 2010
2. Екатерина Вильмонт. Девочка с перчиками. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
3. Марк Леви. Те слова, что мы не сказали друг другу. — Москва: Иностранка, 2011.
4. Дина Рубина. Зелёный шатёр. — Москва: Эксмо, 2010.
5. Татьяна Устинова. С небес на землю. — Москва: Эксмо, 2011.
6. Валерий Синельников. Возлюби болезнь свою. — Москва: Центрполиграф, 2011.
7. Сергей Коновалов. Книга, которая лечит. Исцеление души. — Санкт-Петербург: Прайм-Еврознак, 2010.
8. Анатолий Некрасов. Материнская любовь. — Москва: Центрполиграф, 2011.
9. Сергей Лукьяненко. Непоседа. — Москва: АСТ, 2011.
10. Джон Грэй. Мужчины с Марса, женщины с Венеры. — Москва: София, 2011.

## Унікальны праект



**12 студзеня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося ўрачыстае адкрыццё юбілейнага Купалаўскага года, у рамках якога прайшла прэзентацыя выдання “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Каталог”. Выданне падрыхтавана ў межах праекта ЮНЕСКА “Стварэнне і публікацыя электроннай і друкаванай версій каталога калекцыі аўтографаў (рукапісаў) народнага паэта Беларусі Янкі Купалы” пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА.**



# Напісанае застаецца

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Калекцыя “Аўтографы Янкі Купалы” складаецца з 559 рукапісаў паэта рознага часу. Сярод іх ёсць сапраўдныя рарытэты: рукапісны зборнік “Шляхам жыцця” (раней захоўваўся ў Беларускім музеі ў Вільні), аўтографы паэм “Сон на кургане”, “Бандароўна”, камедыі “Паўлінка”, рукапісы аўтарскага перакладу “Слова аб палку Ігаравым”, а таксама тэксты вершаў паэта на беларускай і польскай мовах з аўтарскімі праўкамі і надпісам “Пісаў у 1906 годзе І. Луцэвіч”, асабістыя пісьмы і запісы. Публікацыя аўтографаў першага народнага паэта Беларусі будзе садзейнічаць папулярызацыі яго спадчыны і ідэнтыфікацыі беларускіх нацыянальных культурных каштоўнасцей у свеце.



Да 130-годдзя Янкі Купалы ў папяровым і электронным варыянтах выдадзены аўтографы паэта. Сёння з дапамогай сучасных тэхналогій можна зазірнуць у яго творчую лабараторыю і ўзважыць, колькі “тонн словеснoй руды” перапрацаваў Іван Дамінікавіч перш, чым знайшоў адпаведныя словы, якім наканавана было стаць класікай. Выданне “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Каталог” убачыла свет па ініцыятыве Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Яго старонкі захавалі накіды вершаў на бланках тэлеграм і цыгарэтных пачках, неадназова перакрэсленыя радкі, выкінутыя вялікія кавалкі тэксту, чарнавыя і белавыя аўтографы твораў (перапісаныя начыста варыянты, якія паэт аддаваў друкаваць), праўкі яго рукою ў машынапісным тэксце, заўвагі. А яшчэ дарчыя надпісы на кнігах, фотаздымках, віншаванні і проста прывітанні блізкім людзям на паштоўках, што наблiжаюць для нас атачэнне народнага паэта. Падпісаны яго почыркам канверт ліста да Максіма Зінгера, ліст у рэдакцыю газеты “Савецкая Беларусь”, дарчы надпіс К. Буйло: “Мілай Костцы на мілы ўспамін. Янка. Масква, 1935 год”, паштоўка ад 6 красавіка 1914 года да А. А. Карынфскага, ліст на бланку беларускага страхавога таварыства, сам бланк якога ўжо рарытэт, ліст паперы, датаваны 1904 годам, на адным баку — 15 ліпеня, верш “Мая доля” на беларускай мове за подпісам Янка Купала, на другім — 14 ліпеня, “Kobjeze” на польскай за подпісам Ян Луцэвіч…

Сучасныя дасягненні дазваляюць працягнуць тэрмін існавання папяровым адбіткам жыцця чалавека, чыё імя — сімвал і гонар Беларусі. Дзякуючы гэтаму выданню адна з найбольш каштоўных калекцый Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы — “Аўтографы Янкі Купалы” — стане даступнай вялікай колькасці людзей. Супрацоўнікі музея лічаць, што ўнікальная калекцыя павінна быць унесена ў Дзяржаўны спіс гістарычнай і культурнай спадчыны.

Ідэя выдаць каталог узнікла ў 2010 годзе. Была пададзена заяўка ў Нацыянальную камісію Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і атрыманы грант. Праца над праектам працягвалася год намаганнямі шасці чалавек.

Электронны фармат — дыск з поўным каталогам аўтографаў (у тым ліку рукапісы вялікіх твораў — кніг “Гусляр” яшчэ лацінкаю, “Шляхам жыцця”, “Сон на кургане” і інш., дарчыя надпісы з кніг і фота. Першая старонка мае гіперспасылкі на ўласна “Каталог” і “Уступнае слова” на беларускай і англійскай мовах (артыкулы Міністра культуры краіны Паўла Латушкі, старшыні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзіміра Шчаснага, доктара філалагічных навук, прафесара, старшыні Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслава Рагойшы, дырэктара Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алены Ляшковіч) і інфармацыю пра музей. З раздзела “Каталог” можна перайсці па гіперспасылцы ў два буйныя падраздзелы: “Арыгіналы” і “Копіі”. У сваю чаргу, “Арыгіналы” падзяляюцца на “Аўтографы-подпісы”, “Дакументы”, “Байкі і шарады (рукапісы)”, “Чарнавыя накіды”, “Даклады”, “Выразкі з газет”, “П’есы”, “Кнігі”, “Вершы”, “Пераклады”, “Эпісталярная спадчына”, “Змешаныя аўтографы”, “Сшыткі паэм і п’ес” і інш. У кожным з іх можна адчыніць адпаведны дакумент. Размешчаны дакументы ў храналагічным парадку.



Друкаваны каталог (тыражом 100 экзэмпляраў) адрозніваецца ад электроннай версіі. Ён, як і электронны, распачынаецца ўступнымі словамі і звесткамі пра музей. Але на мелаваных старонках чытач знойдзе толькі найбольш прэзентатыўныя з аўтографаў, пададзеныя не ў храналагічным парадку, а па месцы стварэння (Вільня, Масква, Смаленск і інш.). Фонам для аўтографаў служаць краявіды гэтых мясцін. У друкаванай версіі шмат фотаздымкаў паэта. Асноўная частка каталога складаецца з выяў рукапісаў, іх кароткага апісання, якое ўключае назву, дату і месца напісання (пры наяўнасці), прысвячэнне (пры наяўнасці), памер рукапісаў. Укладальнікі палічылі мэтазгодным уключэнне фотаздымкаў Янкі Купалы, якія адносяцца да таго ці іншага перыяду жыцця і творчасці паэта. Асобны раздзел — “Па купалаўскіх мясцінах”. Ужо немагчыма вызначыць месца, дзе дакладна напісаны той ці іншы твор. Часам пад творам стаіць дата, а ёсць чарнавікі, дзе і даты няма. Завяршаецца выданне самым апошнім лістом Янкі Купалы, напісаным у 1942 годзе за некалькі дзён да смерці.

Пагартаем старонкі, зазірнём у твары тых, хто побач з Купалам на ранніх і позніх фотаздымках — дзеячы культуры розных краін, чые імёны захавала гісторыя. Прыглядзімся да некалькіх разрозненых лісткоў, на якіх — вехі яго біяграфіі: пераезды сям’і яшчэ ў дзяцінстве і юнацтве, самыя істотныя даты. Цэльнай аўтабіяграфіі паэт не пакінуў. Зірнём на фота філіяла Дзяржаўнага музея паэта ў Мінскай вобласці, Дварцовай плошчы і Аляксандраўскай калоны Санкт-Пецярбурга пачатку мінулага стагоддзя, з выявамі якіх ён адпраўляў паштоўкі сябрам. Глянем на старонку асабістага альбома М. Карынфскай, дзе Купалава рука пакінула верш “Беларуская мова”, пагартаем рукапісны сшытак 1910 года — чарнавы аўтограф паэмы “Сон на кургане” і вершаванага перакладу “Песні аб паходзе Ігара”, вядомага пад назвай “Слова аб палку Ігаравым”, зроблены ў Акопах у 1921-м. Уявім, што лёс толькі што звёў паэта з будучай жонкай у Вільні, у доме на фота пачатку мінулага стагоддзя, дзе размяшчалася рэдакцыя газеты “Наша ніва”. Перачытаем і яго творы, прасякнутыя любоўю да Беларусі.

***На здымках: старонкі з друкаванай версіі каталога.***

## Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА**



**Нам засталася спадчына: нарысы, вершы / уклад.: Мікола Маляўка, Тамара Тарасава, Уладзімір Мазго; маст. Лізавета Пастушэнка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 208 с.**

Гэтую кнігу можна смела назваць падручнікам па гісторыі Беларусі для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту. Але гэта незвычайны падручнік. Бо факты ў ім выкладзеныя не ў сумных традыцыйных “параграфах”, напісаных прафесійнымі гісторыкамі, а ў вершах, нарысах ад пісьменнікаў і журналістаў. Творы, што ўвайшлі ў зборнік, раней друкаваліся пад рубрыкай “Наша спадчына” часопіса “Вясёлка”. Са старонак выдання дзеці даведаюцца пра адметнасці беларускай нацыі, нашы звычаі, традыцыйныя святы, гарады, рэкі і знакавыя мясціны краіны, пазнаёмяцца са слаўнымі постацямі гісторыі.



**Мазго, У. М. Сакавіны / Уладзімір Мазго. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2012. — 216 с.**

“Штогод / У родныя мясціны / Прыходзіць свята — / Сакавіны. / Зямлі заспанай / Абуджэнне, Вясны жаданай / Нараджэнне”, — так піша паэт у вершы, што даў назву ўсяму зборніку. У новую кнігу Уладзіміра Мазго, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, літаратурнай прэміі “Залаты Купідон”, увайшла любоўная, філасофская і пейзажная лірыка. Чулая душа паэта не застаецца ўбаку і ад роднай гісторыі, таму ў кнізе заканамерна і лагічна з’яўляюцца аўтабіяграфічныя мініяцюры і літаратурна-краязнаўчыя эсэ. У першую чаргу яны прысвечаны родным мясцінам паэта, яго “зялёнаму гарадку” Зэльве і Зэльвеншчыне, рэгіёну, багатаму на гісторыю.



**Шимолин, В. И. Записки газетного волка / В. И. Шимолин. — Минск: БГУ, 2011. — 312 с.**

У лёсе кожнага чалавека адбіваецца эпоха. Гэта аксіёма. Але далёка не кожны можа распавесці пра сваё жыццё нібыта з вышыні і распавесці так, каб гэта было цікава не толькі яму самому і сваякам, але і шырокаму колу чытачоў. Віктар Шымолін змог. Героямі яго аповедаў, кароценькіх замалёвак, сталі аднакласнікі, сябры, выпадковыя суразмоўцы, людзі, з якімі аўтар сутыкаўся падчас журналісцкай працы.



**Кутзее, Дж. М. Жизнь и время Михаэла К. / Джозеф М. Кутзее; пер. с англ. И. Архангельской, Ю. Жуковой. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2010. — 288 с.**

Менавіта за гэты раман аўтару быў прысуджаны яго першы “Букер”, на ўручэнне якога сам Кутзее не з’явіўся. Ён — нобелеўскі лаўрэат, самы загадкавы, экстравагантны, а таксама неправдказальны з усіх узнагароджаных гэтай галоўнай літаратурнай прэміяй свету. Раман зачароўвае, інтрыгуе, прымушае чытача, як і яго героя Міхаэла, знаходзіцца ў стане паўсну… калі ўсе пачуцці нібыта адыходзяць на другі план, а застаецца толькі жаданне чытаць і чытаць далей, рухацца па дарозе жыцця за Міхаэлам. Яго герой мае фізічныя недахопы, але вельмі моцны дух і надзвычайны склад асобы… у краіне, дзе ідзе вайна, з горада на ферму, разам з хворай маці ў імправізаванай калясцы… на закінутую ферму, абкружаную лагерамі для працоўных, і так да бясконцасці, нібыта ў гэтым руху і ёсць спакой.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**



Святлана Дзянісава

# Аўтобус рухаўся наперад

## Апавяданне

На прыпынку было мнагалюдна. Аўтобуса, відаць, чакалі ўжо даўно. Не дзіва, бо дарогі раптам аказаліся замеценымі такой навалай снегу, якой ніхто сёння не абяцаў. Прагназісты з тэлевізара запэўнівалі раніцай, што мяцеліца будзе толькі заўтра. Памыліліся.

Стаяць холадна і мокра. Да нейкіх унутраных дрыжыкаў. Можна тупаць, біць нагой аб нагу, варушыць у ботах пальцамі, хаваць далоні ў рукавах і прыціскаць галаву да плячэй, але гэта не дапаможа пазбавіцца ад холаду, што няўзнак паспеў пранізаць сярэдзіну. Цяпер трэба гарачай гарбаты. І капнуць туды трохі бальзаму. І насаладзіць, каб аж вусны прыліпалі да кубка. І піць павольна, фіксуючы кожны глыток. З выдыхамі. Тады цеплыня спачатку разальецца па страўніку — гэта вельмі адчувальна, калі холадна, — а потым пачне авалодваць целам, праганяючы з яго такое непрыемнае адчуванне халоднай маркоты. І гэта трэба рабіць толькі дома. І добра, калі папярэдне цябе хто-небудзь накрые коўдрай. Хаця, вядома ж, няпраўда, што коўдры грэюць. Гэта мы іх грэем, аддаём ім сваю цеплыню. А пасля ўжо яны нам яе вяртаюць. З працэнтамі.

Аўтобус нарэшце прыехаў. І не адзін, адразу два. Лепш сесці ў другі, бо ў першы ўжо набілася людзей з ліку тых, хто не заўважыў "хваста". Цяпер толькі б сесці ў куточак і ехаць, пазіраючы ў акно. Дамы, магазіны, такія самыя аўтобусы. Елкі, упрыгожаныя агеньчыкамі. Праз хвіліну, праўда, ужо не будзе меці ніякага значэння, што там, за акном. Думкі ўсё роўна перанясуць у іншае месца, дзе елак ніякіх няма.

Калі табе ў аўтобусе дастаецца сядзенне, на якім трэба глядзець назад, гэта не адзначае, што табе не пашанцавала. Гэта ўвогуле нічога не адзначае. Але ты сядзіш, глядзіш на дамы, елкі ды іншыя дрэвы, а яны не плывуць да цябе, яны нібыта ўцякаюць. Людзі, што ідуць па вуліцы, кожны па сваёй патрэбе, таксама аддаляюцца ад цябе. І вось ты ўсё застаешся ў адзіноце, вось ужо нейкая выпадковая думка чапляецца за пункцік-цвічок у тваёй галаве. Не проста чапляецца, а павісае на ім. Больш таго, пачынае гойдацца на гэтым цвічку, як на арэлях. Вядома ж, паступова пашыраючы радыус дзеяння. Здаецца, што ты нічога не робіш, проста сядзіш у аўтобусе, які недзе едзе. Хвіліну таму нават было шкадаванне, што няма ў сумцы ніякай цікавай кніжкі, каб забавіць час, але тая думка, што першай трапляе ў галаву, аваладвае гэтай галавой цалкам. Амаль цалкам. Ты быццам зусім нічога не робіш, але на самай справе…

Нельга, едучы ў аўтобусе надвячоркам, не заўважыць, які колер мае снег у прамежак часу ад пасляабедзеннага да хвілін, калі пачне цямнець. Ён мае колер бэзу. І не толькі снег, а і ўсё наўкол. Нават едучы ў аўтобусе, ты быццам дыхаеш паветрам, якое пранізана пахам бэзу. Як хораша ён цвіў некалі ў вёсцы! На сцэнцы, як там, напэўна, і цяпер называецца высокая мяжа паміж суседнімі агародамі. І ніколі ж па гэты бэз не хадзілі спецыяльна. Ён заўсёды трапляў на вочы, калі трэба было нарваць шчаўя. Яно таксама расло на сцэнцы, толькі ніжэй, у высокай траве. Шчаўе трэба было выдзіраць з травы, бо надта густа яна расла. Таму часцей яго прыносілі дадому з травой, а потым, ужо дома, перабіралі нарванае, седзячы на ганку. Са шчаўя добры халаднік, але цяпер слова гэтае не тое што вымаўляць, нават у думках трымаць холадна. Цяпер бы лепш капусты, варанай у печы. Ды з сушанымі грыбамі. З іх наедку амаль ніякага, з тых грыбоў. Яны быццам жабкі для бусла: толькі ў рот возьмеш, як тут жа коўць — і няма. Але без грыбоў не вельмі цікава. І пах не той. Яшчэ трэба, каб тамат-пастай было прыпраўлена. І абавязкова заскварана. Каб як тады, раней. У дзяцінстве. У бабулі.

Ці не вельмі часта апошнім часам яно ўспамінаецца, тое дзяцінства? І невядома, добра гэта ці дрэнна. З аднаго боку, гэта здаецца нечым накшталт крынічкі натхнення. З іншага, ці не сведчыць звычка вяртацца да яго зноў і зноў пра ўнутраную слабасць? Цікава, што гавораць пра гэта псіхолагі? Хоць, папраўдзе, людзі яны нейкія крыху дзіўныя. Як табе хочацца, каб была патлумачана тая ці іншая з'ява, так яна і будзе патлумачана. Мо гэта і ёсць мудрасць жыцця? Або правільная яго стратэгія. А вось сапраўды цяжкае пытанне — ці трэба да тых псіхолагаў звяртацца? Сёння гэта модна. Бо людзям, напэўна, усё больш цяжкім падаецца самастойнае вырашэнне некаторых пытанняў асабістага жыцця і лёсу. Але ж атрымаўшы нават карысныя парады ад чужога чалавека, хіба можна зразумець праявы жыцця па-сапраўднаму? Напэўна, толькі калі на сваім вопыце адчуеш дзеянне правільных і памылковых крокаў, тады, як кажуць камп'ютарызаваныя дзеці, місія будзе пройдзена. Цікава, што місія ў кожнага з нас ёсць, але ў большасці людзей палова жыцця ідзе на тое, каб гэта зразумець, і яшчэ значная частка часу прысвячаецца пошуку сэнсу гэтай місіі. Чамусьці нельга чалавеку з'явіцца на свет у якой-небудзь абгортцы з прыпіскай. А то выходзіць, што спачатку чалавек задаецца пытаннем, нашто ён спатрэбіўся гэтаму свету, потым доўга і пакутліва шукае адказ самому сабе на гэтае пытанне. Адказ яго можа азначаць, напрыклад, што ён жыве, каб зразумець, навошта ён жыве. Але ж трэба паспець не толькі зразумець, але і выканаць тое, што стала зразумелым. Ці трэба толькі зразумець, і ў гэтым якраз і ёсць сэнс? Бо мо ад нас нічога большага не патрабуецца, як толькі спасцігнуць прыгажосць самой ідэі нашага існавання?

Як цяжка пра гэта думаць, як усё заблытана. Вось сядзіць насупраць мужчына ў шэрым паліто. Ён таксама пра гэта думае? І яго турбуе, навошта мы жывём? А вось бабуля ў квяцістай хустцы. Ці ведае яна адказ? Здаецца, чым даўжэй чалавек жыве на свеце, тым больш простым здаецца яму тое, што маладому спачатку ўвогуле не ў галаве, а пасля — незразумелае да болю ў сэрцы. Напэўна, па гэтай прычыне моладзь не вельмі разумее старых. Ну і няхай, абы паважалі. Ці павагі без разумення не бывае? Назіранні падказваюць, што так.

Назіраць увогуле цікава. Седзячы ў аўтобусе, назіраць за людзьмі нават карысна. Хоць і трохі няёмка бывае ад перахопленага незнарок позірку. Людзі розныя. Ёсць такія прыгожыя, ладныя, зграбныя. Быццам з партрэта сышлі. Здаецца, у такіх не можа быць недахопаў. Часам залюбуешся якойнебудзь дзяўчынай ці хлопцам, а мо і чалавекам больш сталага ўзросту, і пачынаеш маляваць сабе яго характар, думкі, лад жыцця. А потым быццам знарок хто-небудзь патэлефануе яму, гэтаму чалавеку. Пачуеш яго голас, характар вымаўлення слоў, сэнс іх, інтанацыю — і куды падзелася нядаўняя сімпатыя? А бывае, што чалавек нейкі зусім непрыгожы, недарэчнай знешнасці. А глядзець на яго чамусьці хочацца. Хочацца даўжэй затрымаць на ім пагляд, быццам адчуваеш патрэбу зразумець унутраны сэнс, растлумачыць сабе выраз твару і яго такія недарэчныя асаблівасці.

Вось сядзіць насупраць прыгожая дзяўчына. Вельмі прыгожая. Як лялька, якую нельга не купіць. Яна бездакорная, як дарагі тавар. Цікава, што б яна рабіла, калі б не паспела навесці манікюр ці падрумяніць скуру ў салярыі? Сядзела б дома і румзала? Кажуць, такія вось прыгажуні — самыя ўпэўненыя ў сабе асобы. І таму іх баяцца мужчыны. Наіўныя мужчыны. Дурнаватыя і няшчасныя. Бо няпраўда гэта. Самая ўпэўненая ў сабе асоба не трасецца над кожным кіпцікам, бо добра ведае, што манікюр — далёка не ўсё, чым яна можа ганарыцца. І той факт, што яна не падфарбавала з раніцы вусны, не адбярэ ў яе здольнасці шчыра гаварыць, якасна працаваць і любіць без усялякіх на тое ўмоў.

Ат, няхай едзе спакойна, куды яна там едзе, гэтая падсмажаная.

Запахла варанай бульбай. З вуліцы ці адкуль гэта? Нехта варыць дома бульбу, а пах ляціць у фортку. Да прыпынку нават даляцеў. І аўтобусу перапала. Трэба будзе, прыехаўшы дадому, таксама наварыць бульбы.

Сядзенне насупраць толькі стала свабодным, як ізноў яго занялі. Маладая жанчынка з вялізнымі клункамі ў адной руцэ і перавязаным тортам у другой. Яна не ведае, як ёй размясціцца, куды ўладкаваць клункі і як зберагчы торт. Урэшце ўладкоўваецца на двух сядзеннях адразу. І правільна, бо калі клункі пакласці на зямлю, яны будуць бруднымі і мокрымі.

Мужчына сярэдніх гадоў, напэўна, хацеў сесці побач. Цяпер ён, добра нахіліўшыся, разглядае торт.

— А я якраз торт вельмі люблю, — гаворыць ён нарэшце.

Маладая жанчына стомлена глядзіць некуды скрозь яго. Потым, відаць, пачынае адчуваць сябе няёмка ад таго, што нічога яму не адказала, бо па твары яе прабягае нешта падобнае да ўсмешкі.

— Што вы такая сумная? Новы год заўтра, — мужчына цягне гэтыя словы, як капрызлівы хлопчык. — Што вы ўсе нейкія?

Жанчынцы зусім ужо зрабілася няёмка, яна выціскае з сябе стомленую ўсмешку і ціха гаворыць:

— Проста цяжка.

— Што вам цяжка?

— Пакункі цяжкія.

— Калі такія цяжкія, то давайце палову мне, — і рагоча, дурань. — Маёй лядоўні ўсё спатрэбіцца.

Набліжаецца прыпынак. Жанчынка ўжо выходзіць? Канечне ж, яна зноў не ведае, як ёй быць з клункамі і як не нашкодзіць торту. А мужчыне, відаць, таксама тут трэба выйсці, бо надта ж цікавіцца вывай за аўтобусным шклом і хутка кідаецца да дзвярэй. Жанчынка з тортам, хаця б ты паспела выйсці…

Вось ужо насупраць сядзяць дзеці, два хлопчыкі. І мама да іх падсела. А на месцы гаспадара прагнай лядоўні стаіць вялікі — высокі і шырокі, не тоўсты, а менавіта шырокі — чалавек. Як ён тут паспеў апынуцца? Сіваватыя вусы, капялюш, чорнае паліто. Цікава, што больш нічога адметнага ў ім няма, але яго, відаць, усе заўважылі. Нават хлопчыкі, што тузалі адзін аднаго, сцішана пазіраюць цяпер у яго бок. А ён глянуў на іх, потым на маму, потым зноў на іх. І палез у кішэню свайго чорнага паліто.

— Я вось вам, дзеці, па цукерцы зараз дам. І маме вашай дам цукерку. А вы, калі ласка, паабяцайце мне, што ніколі больш не будзеце сваю мамку крыўдзіць. Вы добрыя дзеткі.

Пазірае на маму хлопчыкаў, усміхаецца светла і працягвае ёй цукерку. Хлопчыкі таксама атрымалі па цукерцы. Сядзяць цяпер быццам заварожаныя.

За акном ізноў дамы, дрэвы і аўтобусы. Стала значна цяплей. Можна ўжо і рукавіцы зняць. А дзе дзядзька з цукеркамі? Знік. І куды? Прыпынку ж, здаецца, не было. О штукар! Дзеці сядзяць ціха. А не, трохі ачунялі ўжо.

— Гэта быў Дзед Мароз, — кажа старэйшы хлопчык. Ён разглядае цукерку, што ляжыць на далоньцы.

— Ага, Дзед Мароз. Пераапрануты ў звычайнага дзядзьку, — згаджаецца з ім малодшанькі.

Пакідаючы ззаду дамы і прыпынкі, елкі ды іншыя дрэвы, аўтобус, поўны пасажыраў, не звяртаючы ўвагі на густы шпаркі снег, рухаецца далей, наперад.



Алена Раманоўская

# Ён зусім не памятаў

## Абразок

Ён зусім не памятаў, як апынуўся тут. Але думаць пра гэта цяпер не мог, толькі глядзеў вакол. Усюды, колькі хапала зроку, узвышаліся пліты, даволі тонкія, розныя па форме і велічыні, спрэс пакрытыя нейкімі лініямі. Пліты былі цвёрдыя (ён наважыўся памацаць) і нейкага дзіўнага шараватага колеру. Прыглядзеўшыся, ён убачыў, што адценні маўкліва і няўлоўна змяняюцца ад святлейшага да цямнейшага і наадварот. Усе пліты ўрасталі ў гэткую ж цвёрдую і малюнкавую паверхню.

Ён ішоў між гэтых пліт і ніяк не мог зразумець, што ж яму рабіць далей. Што назад ён не вернецца — гэта было ясна. Але што яму рабіць тут? Што яму тут рабіць, між гэтых пліт? Ён адчуў, што стаміўся, і сеў, прытуліўшыся спінай да нейкае пліты. Раптам ён зразумеў, што плача.

Колькі так прасядзеў, ён і сам не ведаў. А пасля выразна адчуў, што нешта адбываецца. Пліта, ля якой ён сядзеў, пачала неяк дзіўна вібраваць. Нечага спалохаўшыся, ён ускочыў. Пліта цяпер была нашмат святлейшая, і па ёй марудна спаўзала невялічкая кропля. Усе астатнія пліты таксама неяк нязвыкла вібравалі і ўсё больш і больш цямнелі. Шум нарастаў, хоць вакол была поўная цішыня. Ён не разумеў, што адбываецца. Пліта хутка набывала ўсё святлейшы і святлейшы колер, яна была ўжо нясцерпна белая, калі раптам на ёй з'явілася чорная кропка, якая імгненна разраслася, ламаючы ўвесь малюнак, і праз момант пліта рассыпалася на дробныя кавалкі.

Ашаломлены, ён не мог зварухнуцца і толькі глядзеў, як паволі ўсе астатнія пліты супакойваюцца і вяртаюцца да звыклых рытмаў і адценняў. Толькі некалькі пліт наводдаль амаль непрыкметна дрыжалі.

Адбылося штосьці страшнае, гэта безумоўна, і адбылося менавіта з-за яго. Ён парушыў нешта ў гэтым незнаёмым, але жывым і зладжаным свеце, больш за тое, ён будзе зноў і зноў разбураць, хоць ён гэтага зусім не хоча і зусім пра гэта не думае.

Заставалася толькі адно выйсце, ён выразна гэта бачыў, і абдумваць доўга не хацелася. Ён толькі сумняваўся, ці атрымаецца. Ён паглядзеў вакол, усё было як звычайна. "Так, я гэтага хачу," — падумаў ён. Трохі пачакаў. Нічога не адбывалася. Ён яшчэ раз паглядзеў на кавалкі разваленай пліты. "Я гэтага хачу!" — нема закрычаў ён і, заплюшчыўшы вочы, адчуў, як ногі яго ўрастаюць у цвёрдую паверхню.

# Першы крок у новы год

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва запрашае ўсіх жадаючых наведаць сваю вялікую залу, дзе адбылося акрыццё выставачнага праекта "Company & Цэслер". Тут прадстаўлены лялькі Алены Байрачнай, скульптуры Мікалая Байрачнага і Віктара Мінко, а таксама аб'екты Уладзіміра Цэслера.**



На ўрачыстасці з гэтай нагоды дырэктар музея Наталля Шаранговіч зазначыла, што ў работах шмат творчасці, крэатыву, сапраўднага высокага мастацтва. Свет экспазіцыі разнастайны: ён аб'ядноўвае як новыя творы, так і тыя, што сталі ўжо знакавымі. Лялькі Алены Байрачнай паўстаюць нечаканай, цікавай, яскравай гістарычнай рэканструкцыяй. А малады скульптар Віктар Мінко цудоўна ўпісаўся ў агульную канцэпцыю выстаўкі, стварыў і адлюстраваў нечаканы, фантастычны свет.

У сваю чаргу, міністр культуры Беларусі Павел Латушка і яго намеснік Тадэуш Стружэцкі падкрэслілі той факт, што Музей сучаснага выяўленчага мастацтва першым у нашай краіне ў новым годзе распачынае выставачную дзейнасць наватарскім мастацкім праектам. Яго навізна задаецца перш за ўсё высокім тонам саміх аўтараў, вядомых не толькі ў Беларусі, а і па-за яе межамі. Прыкладам, мастак і дызайнер Уладзімір Цэслер уваходзіць у лік 500 лепшых дызайнераў свету. У мінулым годзе ён адзначыў сваё 60-годдзе. Міністэрства культуры нашай краіны, з якім творца актыўна супрацоўнічае, не засталося ў баку ад гэтай падзеі: за значны ўнёсак у развіццё сучаснага мастацтва і нашай нацыянальнай культуры Уладзімір Цэслер на адкрыцці выстаўкі быў узнагароджаны ганаровым знакам Міністэрства культуры. Павел Латушка дадаў, што ў нашай краіне будзе рабіцца ўсё для таго, каб пашыраліся магчымасці для крэатыўных людзей, каб яны змаглі праявіць сябе, свой талент і творчасць менавіта ў такім цікавым напрамку, як сучаснае мастацтва.



Такіх майстроў, як Уладзімір Цэслер і Мікалай Байрачны, практычна не трэба прадстаўляць айчыннаму гледачу. Ужо больш як трыццаць гадоў кожны з іх з'яўляецца велічынёй у абраных імі відах ды жанрах. По сутнасці, іх можна назваць своеасаблівымі "мульты-інструменталістамі", якія вольна валодаюць разнастайнымі тэхнікамі выяўленчага мастацтва.



У прадстаўленых у экспазіцыі арт-аб'ектах стыль Уладзіміра Цэслера пазнаецца з першага погляду. Яго работы адрознівае іранічная гульня з кантэкстамі і стэрэатыпамі нашага мыслення. Скульптурныя кампазіцыі Мікалая Байрачнага ўспрымаеш як спробу стварыць выраб, які не проста існуе ў інтэр'еры, але арганізоўвае і ў нейкім сэнсе нават падпарадкоўвае яго сабе. Таму, магчыма, яны гэтак уражваюць гледача сваёй адмысловасцю і празмернасцю пластычных вырашэнняў.

Малады скульптар Віктар Мінко ў сваіх работах абірае знешне вельмі эфектны шлях сінтэзу фантазійнага і рэальнага. Яго невялікія па памерах бронзавыя кампазіцыі маюць адбітак лаканічнасці з дамешкам манументальнасці. Парадаксальнага вобразнасць кожнай з іх нараджаецца дзякуючы валоданню скульптара ўсімі нюансамі асаблівай візуальнай і пластычнай гульні з гледачом.

Лялькі Алены Байрачнай па-свойму арганічна ўпісваюцца ў кантэкст выстаўкі. Спалучаючы скрупулёзную дакладнасць рэканструкцыі гістарычнага касцюма са зваротам да нашай падсвядомасці, яны дадаюць свой непаўторны гульнявы акцэнт у экспазіцыю.

Здавалася б, што можа аб'яднаць такіх розных па ўзросце і па творчых метадах мастакоў? Галоўны "злучальны" акцэнт пабудаваны на спалучэнні высокага прафесійнага майстэрства з індывідуальнымі аўтарскімі аранжыроўкамі, якія праз тонкую гульню з сэнсамі выходзяць за межы банальнасці, трывіяльнасці і ператвараюць іх у эстэтычна паўнавартасныя мастацкія аб'екты. Прынцып сінтэзу, злучэнне незлучальнага — у аснове практычна ўсіх работ, прадстаўленых у экспазіцыі.

***На здымках: Віктар Мінко "Імператар" (бронза, граніт); Уладзімір Цэслер "Муму"; касцюмная лялька "Германія, XVI ст." Алены Байрачнай і Мікалая Байрачнага (аксаміт, фарфор, шоўк, скура, сталь, костка маманта, камень напаўкаштоўны; лепка, шыццё, абпал высокі, вышыўка).***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь статус вядучай установы вышэйшай адукацыі ў сферы культуры нададзены Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Разам з гэтай прыемнай навіной мы атрымалі дадатковую інфармацыю з Міністэрства культуры, у якой паведамляецца, што сёння ў структуры БДАМ — пяць факультэтаў, дзе навучаюцца грамадзяне не толькі Беларусі, але і іншых краін. А засноўвалася гэтая ВНУ у 1945 годзе як Беларускі дзяржаўны тэатральны (з 1953 г. — тэатральна-мастацкі) інстытут адпаведнай пастановай урада БССР.

Каля 80 палотнаў айчынных мастакоў экспануецца на выстаўцы "Прасторы вольныя зямлі". (Беларускі пейзаж 1950 — 2000-х гадоў)", што адкрылася ўчора ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і працягнецца да канца лютага. Яна зладкаваная ў межах музейнага праекта "Нашы калекцыі" і прадстаўляе пейзажы, якія захоўваюцца ў фондах НММ. Сярод іх — і хрэстаматыйныя, і мала знаёмыя шырокаму гледачу работы.

Салістку Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Аксану Волкаву запрасілі на галоўную партыю ў новым спектаклі "Кармэн", пастаўленым на славутай маскоўскай сцэне. Папулярная опера Ж. Бізэ вярнулася ў рэпертуар нядаўна адрэстаўраванага Вялікага тэатра Расіі ў сучаснай пастановачнай версіі і з новай гераіняй, на ролю якой



выканаўцу шукалі па заходніх тэатрах, а знайшлі ў Мінску. Зрэшты, імя маладой беларускай опернай дзівы і Еўропа, і Масква для сябе ўжо адкрылі. У спектаклях таго ж Вялікага тэатра Расіі Аксана Волкава выконвала Вольгу ("Яўгеній Анегін"), Любашу ("Царская нявеста"). На роднай мінскай сцэне яна выступіць у партыі Кармэн 21 студзеня.

Многія з нас рыхтуюцца сімвалічна сустрэць Стары Новы год. А тыя, хто сёння завітае ў НАВТ оперы і балета Беларусі, адзначаць гэтае традыцыйнае свята проста з размахам, бо тут ужо трэці год запар ладзіцца "Вялікі навагодні баль"! Пачнецца ён а дзявятай гадзіне вечара, а завершыцца далёка за поўнач. Атмасфера тут будзе прасякнута вясёлым і ўзнёслым настроем, а кожны госць зможа далучыцца да мноства розных прыемных і творчых падзей: паўдзельнічаць у конкурсах, паслухаць выступленні оперных зорак і рэтра-канцэрт духавога аркестра; пазнаёміцца з рыцарскім этыкетам, пагутарыць з нашчадкамі беларускай шляхты і зазірнуць ва ўласны радавод; атрымаць на памяць свой эксклюзіўны фотапартрэт; патанчыць і падзівіцца на прафесійнае выкананне свецкай мазуркі ды галантнага паланэза... Традыцыя новая, але прасякнутая духам славутых венскіх і пецярбургскіх баляў і, вядома ж, самабытнасцю ўрачыстых беларускіх шляхецкіх вечарын, поўных сюрпрызаў і добрай музыкі.

***На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі Аксана Волкава.***

# Пра ісціны вечныя

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Прэм'ера мастацкай кінастужкі "Прыпавесці-2", створанай на студыі ў імя святога спаведніка Іаана Ваяра (мінскі Свята-Елісавецінскі манастыр), адбылася ў сталіцы падчас 10-й праваслаўнай выстаўкі-кірмашу "Нараджэнне Хрыстова".**

У гісторыі гэтай студыі, якой пайшоў толькі шосты год, спачатку было Слова. Бо станаўленню яе кінадзейнасці паспрыяла праца над запісамі духоўна-асветніцкіх гутарак настаяцеля Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра Андрэя Лемяшонка. Апошнім жа часам на малады творчы калектыў, з якім супрацоўнічаюць і вядомыя прафесіяналы (прынамсі, кінадакументалісты), звяртае ўвагу кінематаграфічны свет.

Прынцыпова новай работай студыі стала мастацкая стужка "Прыпавесці" (2010 год) рэжысёра Віталя Любецкага. Гледачы "атакавалі" яго пытаннямі-просьбамі накont працягу ўпадабанай стужкі. І вось, разам з аператарам Т. Логінавай, В. Любецкі зняў паводле ўласнага сцэнарыя з ужо знаёмымі персанажамі фільм "Прыпавесці-2".

Не мае значэння, глядзелі вы першы фільм ці не: стужка "Прыпавесці-2" успрымаецца і як самастойны экранны аповед. Ён складзены з трох "душеполезных", павучальных і досыць камічных жыццёвых гісторый, праз якія рэжысёр знаёміць гледача з духоўнай спадчынай Праваслаўнай Царквы. Кніжная мудрасць старадаўніх прыпавесцей, пераасэнсаваная ў рэаліях звычайнага жыцця, набліжаецца да свядомасці сучасніка і, пэўна ж, дасягае ўнутранага свету чалавека, нават далёкага ад рэлігіі.

У навеле "Лампадка" малады паслушнік (артыст М. Есьман) папракае працавітага гаспадара вялікай сям'і за недастатковую "праведнасць", бо той толькі двойчы на дзень успамінае Бога. Але сам не вытрымлівае простага іспыту: выконваючы наказ мудрага старца (артыст А. Ткачонак), прабягае з лампадкай вакол вёскі, не загасіўшы агню і не праліўшы ні кроплі алею, але... забыўшыся пры гэтым чытаць малітву.

"Кашуля" — аповед пра ўдоўку Марыю (артыстка А.Сідарава), якая не спраўляецца з вясковa-дачнай гаспадаркай, пераважае скосыя суседскія позіркі, аддае горкаму п'янтосу самы дарагі знак памяці — мужаву кашулю. Але спадзяецца на Бога — і адбываецца цуд!

Самая "пазачасавая" прыпавесць "Трое вас, трое нас" распавядае пра візіт мараплаўцаў (сярод іх усё тыя ж старац ды паслушнік) да трох рыбакоў-астравіцянаў, якіх навакольны люд лічыць за святых, цуда творцаў. Містычныя постаці сівых барадачоў у белым усявед-старац успрымае з неўласцівым хрысціяніну скепсісам: яны нават ніводнай малітвы не ведаюць, звяртаюцца да Святой Тройцы неяк па-свойму. Навучыўшы рыбакоў прамаўляць "Ойча наш", мараплаўцы пакінулі бераг і выйшлі на вялікую ваду. А неўзабаве ажно знямелі: тупаючы па хвалях, іх лодку даганялі трое старых, бо забыліся словы малітвы, якой іх навучылі госці...



Аўтары "Прыпавесцей-2" прапануюць нам на простых пераканаўчых прыкладах адчуць вечную і відавочную слушнасць мудрых і такіх, здавалася б, усім вядомых запаветаў. І паразважаць разам з экраннымі героямі пра існасць асноватворных каштоўнасцей хрысціянства — веры, надзеі, любові, задумацца пра сапраўдную, шчырую і някідкую духоўнасць ды паказную, знарочыстую "святасць". І ўсвядоміць, што моц малітвы не ў шматслоўнасці, а ў шчырасці малітоўнага духу. А яшчэ — што не трэба адказваць злом на зло: ад гэтага зла навокал не паменее, яно толькі памнożыцца, затое добры ўчынак урэшце створыць процівагу ліху.

Строгі праваслаўны дух (што не дазваляе ўспрымаць і рэцэнзаваць стужку як кіно для шырокай аўдыторыі), мэтанакіраваная павучальнасць спалучаюцца са стылістычнай прастацю дыялогаў, "лёгкімі" дасціпнымі стасункамі герояў у кадры, назіральнасцю камеры, гумарам, які праціна атмасферу фільма. А магчыма, праз год мы ўбачым працяг.

***На здымку: артыст Міхаіл Есьман (паслушнік) у фільме "Прыпавесці-2".***

# Цяжэй пераканаць выхавацеля

***Беларуская дзяржаўная філармонія запрашае меламанаў усіх узростаў... на баль-маскарад. А дакладней — на канцэрт-бенефіс Анатоля Парэцкага. Чытачам "ЛіМа" гэтага чалавека прадстаўляць не трэба. Выдатны лектар-музыказнаўца, ён выхаваў не адно пакаленне філарманічных слухачоў і апроч таго на працягу многіх сезонаў з'яўляецца сярод сваіх калег адзіным у Беларусі паслядоўным прапагандыстам дзіцячай выканальніцкай творчасці на галоўнай прафесійнай канцэртнай сцэне краіны. Бенефіс мае адбыцца ў бліжэйшую сераду. А прымяркоўваецца незвычайная музычная імпрэза да 50-годдзя творчай дзейнасці Анатоля Парэцкага, які неўзабаве адзначыць і свой жыццёвы юбілей. У сённяшнім інтэрв'ю вядомы музычны асветнік дзеліцца ўласным досведам у канцэртна-лекцыйнай справе і разважае пра набалелыя праблемы.***

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

**— Анатоль Давыдавіч, сёння, калі рэй вядзе масавая культура, якія новыя падыходы выпрацоўваеце вы, каб крануць класікай сэрцы вашых юных слухачоў?**

— У сваёй працы я заўсёды імкнуўся спалучаць і новыя, і старыя метады. Зразумела, калі ў тэлеперадачы, у спектаклі ці ў кагосьці з калег я бачу нейкі цікавы прыём, дык бяру яго на ўзбраенне. Бясспрэчна, трэба ўлічваць і ўзровень развіцця сучаснай моладзі. Але ж часцей за ўсё мне даводзіцца перацягваць на бок класічнага мастацтва не саміх дзяцей, а іх выхавацелей. Апошнім часам мяне з маімі канцэртамі запрашаюць толькі ў дзіцячыя садкі. Ніхто не ўлічвае, што я магу шмат чаго даць і школьнікам! Навошта камусьці дадатковы клопат? За сувязі са школамі адказвае іншы адміністратар. Урэшце, у садках нашы канцэрты-лекцыі маюць немалы поспех. Дзеці нават падыходзяць пасля імпрэзы і дзякуюць. Аднак сустракаюцца і малыя, густ якіх ужо сапсаваны сучаснай псеўдакультурай. Менавіта дзеля такіх я і выпрацоўваю новыя падыходы. Перад кожным выступленнем бяру свой сшытак са старымі запісамі, куды заносіў усе свае лекцыі да апошняга слова (гэта ж мая творчасць!), гартаю яго, штосьці адкідваю, штосьці, наадварот, дадаю. Часам і перапрацоўваю тэкст ад пачатку да канца. Бо падчас выступлення можна згадаць цытату з вядомага класіка, а можна знайсці і больш моцны ход. Напрыклад, цяпер я рыхтую праграму разам з Брэсцкім сімфанічным аркестрам, прысвечаную сюіце Э. Грыга "Пер Гюнт". У маім сшытку ёсць старая праграма на гэтую тэму, зробленая вельмі дыхтоўна, добрасумленна. І ўсё ж я разумею, што сёння з юнай аўдыторыяй трэба гаварыць па-іншаму. Як? Вось пытанне! На шчасце, я адшукаў найцікавейшыя словы самога кампазітара, які пісаў, што пасля выканання першай сюіты з музыкі да драмы "Пер Гюнт" публіка выказала такое захапленне, што ў яе воклічах нават страчвалася ўсялякая артыкуляцыя. У зале гучала не "біс" ці "брава", а проста нейкае мыканне. Што гэта, як не найвышэйшая кропка экстазу? А хто знаходзіўся на сцэне? Не рок- ці поп-зорка. Там быў сімфанічны аркестр! Значыць, людзі зведалі такое дзікае захапленне ад класікі! Карацей кажучы, я ў вечных пошуках. І гэта сябе апраўдвае. Бо з выказванняў тых, хто падыходзіць да мяне пасля канцэртаў, можна зрабіць высновы, што я на правільным шляху. Аднак цяжэй за ўсё знайсці і пераканаць менавіта выхавацеля, які ў сваю чаргу здолее пераканаць бацькоў, што нашы лекцыі-канцэрты патрэбныя іх дзецям! Тыя чамусьці загадзя ўпэўненыя, што дзецям класіка не спадабаецца...



**— У вашых канцэртах бяруць удзел выхаванцы Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У дзіцячым узросце яны ці не ўсе ўжо лаўрэаты розных конкурсаў. Але ж у іх, як кажуць, няма дзяцінства. Будучыня ж вельмі няпэўная. Што іх чакае? Праца настаўнікаў музыкі з не надта высокімі заробкамі?**

— Безумоўна, праблема ёсць. І кожны вырашае яе па-свойму: хтосьці сыходзіць на эстраду, хтосьці — у камерцыю. Струннікам, напрыклад, лягчэй: ёсць сімфанічныя аркестры, да таго ж плануецца адкрываць нават оперныя тэатры ва ўсіх абласцях краіны. З уладкаваннем піяністаў больш складана. Думаю, мы дапусцілі памылкі, галоўная з якіх — у скіраванасці музычных школ. Іх задумвалі як установы, што будуць выхоўваць, перш за ўсё, слухачоў. А што атрымалася? Школы гадуюць напаўпрафесіяналаў! І тыя напаўпрафесіяналы потым ідуць вучыць дзяцей у тыя ж музычныя школы. А для прафесіяналаў месцаў не знаходзіцца! Так, філармоніі патрэбныя канцэртмайстры. І ў БДФ сёння даволі моцныя піяністы. Можа быць, прафесійны канцэртмайстры вострa спатрэбяцца калісьці і ў абласных філармоніях? Але ж і гэта — кропля ў моры.

**— Якое ж выйсце?**

— Мне здаецца, што многія з піяністаў маглі б стаць музычнымі асветнікамі. У сталічнай філармоніі толькі два штатныя музыказнаўцы. А было шэсць... Гэта ж найцікавейшая прафесія, у якой можна тварыць! Як член мастацкага савета БДФ я запрашаю таленавітую моладзь: прыходзьце да нас! Вы нам патрэбныя! Аднак некаторыя чамусьці ідуць у аспірантуру. Навошта? Каб раскладваць музыку на формулы?

**— Анатоль Давыдавіч, калісьці ж і вы вучыліся на піяніста, а сталі музыказнаўцам-асветнікам. Не шкадуеце сёння пра свой выбар?**



— Што вы! Калі я запрашаю ў свае праграмы таленавітых дзяцей, грэюся ў промнях іх незвычайнага мастацтва! Дзякуючы сваёй адукацыі я здольны ацаніць іх выкананне. Але ж мой шлях іншы. Я зрабіў свой выбар свядома. І, дайце веры, ніколі не пашкадаваў пра гэта.

**Гутарыла Алена МІНЧУКОВА**

***На здымках: у часы студэнцтва (1954 год); Анатоль Парэцкі перад канцэртам.***




**На Стары Новы год Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" выступіць у сталіцы з калядным канцэртам. Адбудзецца ён сёння ўвечары на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Праграма ўключае адмысловы, насычаны народнымі найгрышамі ды спевамі, харэаграфічны спектакль "Зіма" з грандыёзнага цыкла "Беларусы", створанага мастацкім кіраўніком ансамбля Валянцінай Гаявой паводле нацыянальнага каляндарна-абрадавага фальклору. І яшчэ — зіхоткі калядны вяночак з папулярных беларускіх танцаў, самых вядомых і яркіх кампазіцый з рэпертуару "Харошак", што заўсёды праходзяць "на ўра", спрыяючы святочнаму настрою публікі.**



# Жылі-былі «Харошкі»

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

А пачалі гэты год "Харошкі" прэм'ерай, стварыўшы першы за сваю гісторыю спектакль для дзяцей — немудрагелістую навагоднюю казку ў пяці карцінах "Жыла-была Ёлачка". Тут усё амаль як у вядомай песенцы пра зялёную лясную прыгажуню: гадавалася дрэўца, радавалася жыццю, але аднойчы ўзімку было ссечана і трапіла на кірмаш, адкуль добрыя людзі забралі Ёлачку на сямейнае свята, пасля якога яна, воляю законаў казкі, не загінула, апынулася ў родным лесе. Ёлачка рассыпала па зямлі свае шышкі, з якіх узняліся новыя дрэўцы.

Гісторыя Ёлачкі разгортваецца ў асяроддзі рэальных і казачных персанажаў: бабулі, дзядулі, іх маленькіх унукаў, Дзеда Мароза, Снягуркі, цыганоў, скамарохаў, кабылкі, мядзведзя, рамонкаў, сняжынак, буслоў... У якасці драматурга рызыкнула дэбютаваць сама Валянціна Гаявая; музыку напісаў кампазітар Дзмітрый Далгалёў. Сцэнічныя вобразы спектакля "Жыла-была Ёлачка" ўвасобілі і артысты "Харошак", і выхаванцы дзіцячай студыі гэтага калектыву, а таксама славуты ансамбль танца "Равеснік" ды акцёры мінскіх тэатраў. Паказы праходзілі ў Палацы Рэспублікі падчас школьных вакацый.

Творчы дух прапінае не толькі канцэртную дзейнасць "тэатра танца" Валянціны Гаявой. Памятаеце, якім цудоўным дапаўненнем да праграм яе калектыву была экспазіцыя сцэнічных касцюмаў, створаных для "Харошак" вядомымі мастакамі? А фотавыстаўкі — спыненыя імгненні рэпетыцый і выступленняў? Больш як два гады таму наведвальнікі канцэртаў ансамбля ў Палацы Рэспублікі маглі падзівіцца на выстаўку «Харошкі». Лунаць над часам". Яе аўтар, вядомы далёка за межамі Беларусі фатограф-дызайнер Аляксей Паўлюць, так разважаў з нагоды гэтага праекта: "Падуладны сваім пачуццям і руху душы, чалавек узнімаецца над тым, што яго трымае, і намагаецца ўзнесціся над усім і над часам, абуджае ў сабе і ў іншых дзівосны агонь і неўразумелае жаданне руху, руху ў танцы... Гэты вялікі рух дапамагае нам адкрыць сябе, свае вытокі, сваю культуру ды ідэнтычнасць... Для мяне як для аўтара выпаў вялікі гонар атрымаць рэдкасную магчымасць прычыніцца да Мастацтва танца харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", да таемнасці нараджэння танца, ад першых рухаў да канчатковага ўвасаблення, ад працяглай і карпатлівай працы на рэпетыцый да трыумфу на сцэне".

І вось захапленне фотамастака нагадала пра сябе, увасобіўшыся ў новы творчы праект. Ансамбль "Харошкі" пры партнёрскай падтрымцы Нацыянальнай авіякампаніі Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў "Etihad Airways" выдаў два стылізаваныя "пад сепію" камплекты аўтарскіх паштовак Аляксея Паўлюця, куды ўвайшло і некалькі работ яго калег Дзмітрыя Казлова ды Яўгена Коктыша. У кожным камплекце — 12 непаўторных імгненняў танцавальнага руху, якія заваражыў аўтара-фотамайстра. Што ні здымак — пранікнёны мастацкі вобраз: "Каляда" і "Валачобнікі", "Дрыготка" і "Вясновыя скокі", "Местачковы вальс", "Полацкі сшытак" і, вядома ж, "Гусарыкі", з якіх пачыналася гісторыя "Харошак". Асаблівую каштоўнасць надае "дакументальны кантрапункт": паштоўкі з вывамі артыстаў ансамбля ў будзённым трыко, буйныя планы салістаў у рэпетыцыйнай зале — закулісны творчы працэс.

Арыгінальная фота з жыцця "Харошак" — гэта куды цікавей за маляўнічыя афішы і рэкламныя буклеты, ці ж не так?..

***На здымках: вокладка аднаго з камплектаў паштовак; танец "Кросны".***

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

13 студзеня 2011 г.



# Маіх радкоў няма без Беларусі

**"У пярэймы году наступнаму" — так называлася дыскусійная старонка мінулага "Бібліятэчнага сшытка", дзе нашыя суразмоўцы разважалі пра Год кнігі, якім аб'яўлены 2012-ы, і пра неабходнасць міжведамаснай праграмы падтрымкі чытання. Яна — у будучым. А вось сустрэчныя і сугучныя з праграмай праекты нараджаюцца ўжо сёння. Багатая на ініцыятывы Берасцейская зямля (дастаткова згадаць акцыю "Кніжныя помнікі Брэсцкай вобласці" ці міжнародную канферэнцыю "Берасцейскія кнігазборы...") у лістападзе арганізавала яшчэ адзін праект пад назваю "Маіх радкоў няма без Беларусі". Ухіл робіцца менавіта на папулярызацыю нацыянальнай мастацкай літаратуры. На пытанні "ЛіМа" адказала дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Тамара ДАНІЛЮК.**

Ірына ТУЛУПАВА

**— "Маіх радкоў няма без Беларусі"... Тамара Паўлаўна, у кантэксце праекта гэта простая мова супрацоўнікаў бібліятэк альбо літаратараў, аўтараў кніг?**

— Думаю, што ў гэтых словах — галоўная тэма вельмі многіх твораў беларускіх паэтаў, празаікаў, літаратурных крытыкаў, ды і ўсіх творчых людзей, удумлівых і пішучых.

Бібліятэкары Брэстчыны, як і ўсёй нашай краіны, ставяць перад сабой задачы досыць сур'ёзныя — садзейнічаць духоўнаму адраджэнню нацыі з дапамогай ведаў пра беларускую культуру, літаратуру, мову.

**— Якую ж мэту вы ставілі перад сабою, арганізуючы такі цікавы і, бясспрэчна, вельмі чаканы праект?**

— Галоўныя мэты праекта "Маіх радкоў няма без Беларусі" — больш высокі ўзровень краязнаўчай працы бібліятэк рэгіёна. Адзін з кірункаў гэтай дзейнасці — літаратурнае краязнаўства. Мяне могуць папракнуць, маўляў, бібліятэкі і так шмат робяць, каб гучалі імёны мясцовых аўтараў, прэзентаваліся іх новыя кнігі. Каб абазначыць цікавасць да беларускай мастацкай літаратуры, у шэрагу бібліятэчных сістэм вобласці былі праведзены анкетаванні, апытанні, маніторынгі запытаў і адмоў на мастацкую літаратуру беларускіх аўтараў. Вынікі маркетынгавых даследаванняў аказаліся несуцяшальнымі. Чытачы, як правіла, называюць беларускіх класікаў Якуба Коласа, Янку Купалу, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Уладзіміра Караткевіча і практычна не ведаюць сучасных паэтаў і празаікаў.

**— Каго з аўтараў і якія кнігі вы берацеся папулярызаваць найперш?**

— У першую чаргу хацелася б, каб чытачы даведаліся пра аўтараў, якія сталі лаўрэатамі рэгіянальнай літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка, заснаванай Брэсцкім аблвыканкамам. Маючы магчымасць падчас прэзентацый новых кніг, літаратурных вечарын, аўтарскіх сустрэч гаварыць з пісьменнікамі, узнікае (у тым ёсць прафесіяналізм добрага бібліятэкара) жаданне прачытаць кнігу. А імёны вельмі дастойныя! М. Купрэеў і яго "Палеская элегія", В. Гапееў — "Пастка на рыцара", З. Дудзюк — "Кола Сварога", паэты М. Рудкоўскі, М. Пракаповіч, А. Каско — "Трохперсце", Н. Мацяш — "У прыгаршчах ветру", А. Бензярук — "Свята для сэрца" і шмат іншых.

**— Першая акцыя праекта "Маіх радкоў няма без Беларусі" праведзена ў лістападзе мінулага года. Якія вынікі пазначыліся? Ці сталі берасцейцы больш пытацца пра беларускія кнігі? Альбо часцей гаварыць па-беларуску (у тым ліку звяртаючыся да супрацоўнікаў бібліятэк)?**

— Першыя вынікі былі разгледжаны на калегіі абласнога ўпраўлення культуры ў снежні 2011 года. Агулам усе бібліятэкі Брэсцкай вобласці правялі каля 800 мерапрыемстваў, пачынаючы з невялікіх кніжных выставак у сельскіх бібліятэках да гарадскіх і раённых літаратурных свят. Слаўны такімі святамі Пінскі раён, дзе праводзяцца ў лістападзе "Янішчыцкія чытанні" і "Каласавіны".

З 14 лістапада 2011 года ў Брэсцкай абласной бібліятэцы працавала кніжная выстаўка "Доўгі шлях да чытача". Наведвальнікам была прапанавана літаратура беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, рэпрэсіраваных у 30-я гады ХХ ст. Шэраг твораў для гэтай выстаўкі быў выпісаны з Нацыянальнай і Прэзідэнцкай бібліятэк Беларусі. Чытачы азнаёміліся з лёсам і творамі Ц. Гартнага, С. Грахоўскага, П. Галавача, М. Гарэцкага. Практычна 80 працэнтаў кніг, прадстаўленых на выстаўцы, пасля заканчэння яе працы былі запытаныя чытачамі.

Не магу сказаць, што чытачы часцей гавораць з намі па-беларуску. Гэта праблема, якую бібліятэкам краіны самастойна не вырашыць. Калі мамы з татамі будуць гаварыць дома са сваімі дзецьмі на беларускай мове, а ў школах колькасць гадзін, адведзеных на вывучэнне беларускай літаратуры і мовы, павялічыцца, тады і вынік будзе відавочным.

**— Ці могуць падобныя акцыі паўплываць на творчасць сучасных літаратараў, вызначаць тэматыку і запатрабаванасць кніг?**

— Упэўнена ў гэтым! Таму што лепш за бібліятэкара, якому ўсё часцей аўтар прыносіць для першага прачытання рукапіс сваёй будучай кнігі, не ведае творчую сітуацыю ніхто. Ва ўсякім разе, так адбываецца ў нас, у Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага. Менавіта з РВУ "Літаратура і Мастацтва" ажыццяўляецца праект "Берасцейскае вогнішча", які пачаў даваць плён яшчэ ў 2007 годзе. Сутнасць праекта заключаецца ў тым, што, выкарыстоўваючы творчы і тэхнічны патэнцыял выдавецтва і яго магчымасці па распаўсюджванні друкаваных выданняў на тэрыторыі краіны, "ЛіМ" стаў выдаваць кнігі брэсцкіх аўтараў — у адпаведнасці са сфарміраваным бібліятэкай на аснове вывучэння чытацкіх запытаў, актуальнасці тэматыкі і грамадскай значнасці спісам. Убачылі свет кнігі маладой і таленавітай брэсцкай паэтэсы І. Дашынай "Графіці на сэрцы" (2007 г.); В. Ляшук-Зарэцкай і Г. Снітко "Літаратурная Берасцейшчына"; мастацка-дакументальная кніга А. Гладышчука "Нямцэвічы: сапраўдныя гісторыі"; кнігі А. Паплаўскага, А. Бензерука, З. Дудзюк.

**— Як вы самі сустракалі Год кнігі? Са спадзяваннямі, што...**

— Сустракала новы, 2012 год з сям'ёю — дзецьмі і ўнукамі. Пад ёлкай у чатырохгадовай Дар'і была пакінутая Дзедам Марозам у якасці падарунка не адна кніга, а некалькі, і радасць менавіта ад такіх падарункаў была непадробнай.

Спадзяюся, што добрая кніга для многіх з нас у новым годзе будзе не толькі прафесіяй, але і гордасцю, радасцю, душэўнай цеплынёй, працай для розуму, уменнем думаць, магчымасцю атрымліваць веды і вопыт і прымяняць іх у жыцці.

Дзіцячы свет

# Падарожжа ў Залюстрэчча



Кацярына БЯДУЛІНА

**Верыць у казку трэба заўсёды — таму што яна побач, і ты ніколі не ведаеш, калі пачнуцца цуды.**

У дзіцячай бібліятэцы № 10 прайшла творчая сустрэча "Экран застаецца, ўсё астатняе змяняецца..." з вядомай пісьменніцай, сцэнарыстам, рэжысёрам дзіцячых фільмаў "Навагоднія прыгоды ў ліпені" і "Рыжык у Залюстрэччы". Сцэнарый апошняга, дарэчы, быў напісаны па аднайменнай кнізе казак, што ўбачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацва". На сустрэчу былі запрошаны школьнікі малодшых класаў, многія з якіх займаюцца ў тэатральных гуртках, танцуюць, спяваюць ці малююць. І таму такая сустрэча была для іх нечым накшталт майстар-класа. Як робіцца кіно? Як выглядае сам творчы працэс? Хто такі мастак-аніматар? Алена Турава адказвала на розныя пытанні і нават правяла для дзяцей невялікі кастынг.

— Мяркую, тое, што сустрэча праходзіць менавіта ў дзіцячай бібліятэцы, — гэта знакава, — распавяла Алена Турава, — таму што ў фільме асноўнае дзеянне якраз адбываецца ў бібліятэцы, дзе працуе маці дзяўчынкі, якую за рудыя валасы ўсе празвалі Рыжыкам. У кніжным сховішчы дзяўчынка выпадкова адкрывае старадаўні фаліянт, а там — вядзьмарства, магія, ператварэнні! Адным словам, казка ажывае...

— Экран — гэта, канечне, добра, — працягвае Алена Турава. — Аднак хочацца, каб чыталіся кніжкі, як гэта робіць гераіня фільма Рыжык. Ніякая камп'ютарная гульня не заменіць кнігу. А калі гэта яшчэ і выданне з добрай і светлай казкай, то ў ім можна знайсці адказ на розныя пытанні. Нездарма кажуць: "Сказка ложь, да в ней намёк..."

Віншуем!

# Абапірацца на карані

**Адным з лаўрэатаў Гродзенскай абласной прэміі імя Аляксандра Дубко за лепшыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва па выніках 2011 года стала дырэктар Іўеўскай ЦБС Святлана Міронччык. Яна прызнана бібліятэкарам года.**

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Святлана застаецца вернай сваім родным мясцінам: тут вучылася і расла, скончыла Іўеўскую сярэднюю школу (у 1982 годзе). Адразу, не працягваючы адукацыю, пайшла працаваць мастаком-афарміцелем (!) у бібліятэку. "Мастацкія здольнасці прыйшліся дарэчы", — прызнаецца з усмешкай бібліятэкар. Хаця без захаплення кнігай наўрад ці дарога прывяла б менавіта сюды. З часу, калі ўпершыню ў якасці штатнага работніка пераступіла парог бібліятэкі, і да 1995 года Святлана працавала амаль ва ўсіх аддзелах кніжніцы, пасля — загадчыкам дзіцячай бібліятэкі і намеснікам дырэктара ЦБС. А з сярэдзіны дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя яна стала дырэктарам цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Вядома, пасля таго ўжо, як скончыла Мінскі інстытут культуры.

Галоўнае ў працы, на думку Святланы Міронччык, — абслугоўванне чытача. А для гэтага неабходны і багатыя фонды, і сучаснае абсталяванне, і адпаведны інтэр'ер. "Часта мы, самі таго не ўсведамляючы, адштурхоўваем ад сябе чытача: сваім дрэнным настроем, нежаданнем выслухаць".

Цяпер у раёне — 19 бібліятэк. На студзень, багаты святамі, запланаваны і святочныя, і літаратурныя сустрэчы. Да прыкладу, Ліпнішкаўская бібліятэка-краязнаўчы цэнтр Іўеўскай ЦБС правяла Калядкі "Хай свята прыйдзе ў кожны дом!". У кожную хату завіталі чытачы-калядоўшчыкі, якія напярэдадні старанна рыхтавалі пажаданні для гаспадароў (дабрабыту, здароўя, ураджаю на наступны год). З тым каб не забыцца і на народныя традыцыі вёскі Ліпнішкі.

А хутка у свет казак запросіць дзяцей Іўеўская раённая дзіцячая бібліятэка: тут адбудзецца гульнёвая праграма па казцы А. Мілна "Віні-Пух і Усе-Усе-Усе", прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. Пажылых людзей ужо заўтра чакаюць на вячорках "Самовар кипит, скучать не велит" Бобравіцкая сельская бібліятэка Іўеўскай ЦБС.

На кніжнай выстаўцы "Запрашаем да стала" будуць прадстаўлены не толькі кнігі і перыядычныя выданні па кулінарыі, але і кулінарныя вырабы ўдзельнікаў аб'яднання.



***На здымку: Святлана Міронччык.***

**Алена ЦІТАВЕЦ,**
**загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

# Жыццё і каханне Магдалены Радзівіл

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падрыхтавана выстаўка "Асветніца і мецэнатка (да 150-годдзя з дня нараджэння Магдалены Радзівіл)"**

Княгіня Марыя Магдалена Радзівіл пражыла доўгае, багатае на падзеі жыццё. Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 г. у Варшаве. Бацька Магдалены, Ян (Іван) Казімір, паходзіў з беларускага шляхецкага роду Завішаў герба "Лебедзь". Ён быў сапраўдным патрыётам сваёй радзімы, займаўся археалогіяй, вывучаў гісторыю роднага краю. З малых гадоў бацька прывіваў дачцэ любоў да Беларусі, пазней гэта афармілася ва ўсведамленне ёю сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Раннія гады арыстакраткі прайшлі ў радавых маёнтках Жарноўцы і Кухцічы ў Ігуменскім павеце.

У 1881 г. Магдалена ўзяла шлюб з казачна багатым графам Людвікам Красінскім (1833 — 1895), які быў ужо ў даволі сталым узросце. Калі муж памёр, іх адзінае дзіця — дачка Марыя Людвіка — атрымала маёмасць у 50 мільёнаў рублёў, частка з гэтых грошай дасталася Магдалене.

Другім мужам Магдалены ў 1906 г. стаў князь Вацлаў Мікалай Радзівіл, на 19 гадоў маладзейшы за яе. Ён не быў сваяком нясвіжскіх Радзівілаў, а паходзіў з небагатага нямецкага роду. Малады афіцэр браў удзел у англа-бурскай вайне, ваяваў на Балканах, а пазней на баку Расіі ў руска-японскай вайне. Яго адметнасцямі былі прыгажосць, адчайная адвага і авантурызм, у польскіх арыстакратычных колах яго лічылі масквафілам і дзіваком. Шлюб з багатай удавой у вышэйшых колах выклікаў актыўнае незадавальненне. У адказ муж і жонка парвалі ўсялякія сувязі з польскім асяроддзем.

Маладажоны пасяліліся ў Кухцічах — сялянскай рэзідэнцыі княгіні. Магдалена ўпарта падтрымлівала беларускія нацыянальныя ініцыятывы і ігнаравала ўсё польскае. У гэты час у Санкт-Пецярбургу пачала дзейнічаць першая легальная беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906 — 1914) пад кіраўніцтвам прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Княгіня аказала суполцы фінансавую дапамогу.

Значныя сродкі княгіня выдзяляла Беларускаму выдавецкаму таварыству ў Вільні. За яе грошы былі надрукаваны першыя кнігі класікаў беларускай літаратуры. Яна спансіравала першую беларускую газету "Наша ніва", каталіцкую газету "Biełarus". Дзейнасць Магдалены не абмяжоўвалася дапамогай беларускім выдавецтвам, яна фінансавала таварыствы цвярозасці, шпіталі, адкрыла беларускія школы ў сваіх уладаннях у Кухцічах, Уздзе, Каменцы, апладзіла будаўніцтва дзялянкі Лібава-Роменскай чыгункі.

Яна хацела, каб беларускае насельніцтва карысталася роднай мовай (беларуская мова была абавязковай ва ўсіх яе маёнтках, на ёй навучаліся дзеткі ў школах), марыла пра адраджэнне ў Беларусі грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

На пачатку Першай сусветнай вайны князь Радзівіл загінуў ва Усходняй Прусіі, пахавалі яго ў Кухцічах. Пасля смерці мужа Магдалена жыла то ў сваіх беларускіх маёнтках, то ва ўласным доме па вуліцы Захар'еўскай у Мінску. У 1918-м яна назаўсёды пакінула Беларусь, спачатку пасялілася ў Польшчы, потым у Германіі. З прыходам да ўлады фашыстаў пераехала ў Швейцарыю, але і адтуль працягвала фінансаваць беларускія арганізацыі, якія знаходзіліся ў Польшчы. Апошнія гады свайго жыцця княгіня правяла ў кляштары сясцёр-дамініканак г. Фрыбурга. 6 студзеня 1945 г. Магдалена Радзівіл сышла ў іншы свет.




На выстаўцы прадстаўлены выданні, якія фінансавала Магдалена Радзівіл: экземпляры газет "Наша Ніва", надрукаваныя кірылічнымі і лацінскімі літарамі (1909 — 1914), "Biełarus: tydniowaja katalickaja hazeta" (1913 — 1915), кнігі выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1907 — 1914) і Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні (1913 — 1915). У фондах ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца экземпляры ўсіх 5 выданняў, на якіх быў надрукаваны герб Магдалены "Лебедзь": зборнікі вершаў Максіма Багдановіча "Вянок", "Курганная кветка" Канстанцыі Буйло, "Рунь" Максіма Гарэцкага, "Васількі" Ядвігіна Ш., "Родныя з'явы" Тараса Гушчы (Якуба Коласа).

У экспазіцыі — успаміны (друкаваныя і рукапісныя), у якіх пра княгіню Радзівіл распавядаюць самыя розныя асобы. Сярод іх беларускія нацыянальныя дзеячы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, святарства. Яны пішуць пра свае ўражанні (прыязныя і не вельмі) ад асабістага знаёмства з княгіняй, паведамляюць пра яе дабрачынную дзейнасць.

У фондах ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца рукапіс успамінаў аднаго з вядомых адраджэнцаў, рэдактара-выдаўца "Нашай Нівы" Аляксандра Уласава "Менск-Беларускі 1912 — 1914 г.". На вузкіх палосках пажаўцелых аркушаў, счэпленых ніткамі, можна ўбачыць яго запісы карычневым чарнілам: *"Мікалай Радзівіл, муж вядомай многім беларусам Магдалены Радзівіл (яна ў часе вайны ўтрымлівала ў Менску на свой кошт беларускія ахронкі для дзяцей), цікава, што гэтая фамілія лічыла сябе беларусамі і мела вялікі антаганізм з пальшчызнай"*.

Адзін з пачынальнікаў нацыянальнага адраджэння, літаратуразнаўца і публіцыст Вацлаў Ластоўскі ў часопісе "Крывіч" (1926 г., № 11) напісаў пра тое, як друкаваўся зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок".

У гістарычным нарысе "Bełaruski Chryścijanski Ruch", надрукаваным у часопісе "Chryścijanskaja Dumka" (1938), грамадска-палітычны дзеяч, каталіцкі святар Адам Станкевіч паведаміў пра ахвяраванне княгіняй Радзівіл грошай гуртку беларускай студэнцкай моладзі ў Пецярбургу для арганізацыі бібліятэкі.

Цікавыя і супярэчлівыя назіранні пра жыццё і характар Магдалены змешчаны ва ўспамінах асоб, якія бачылі на свае вочы тагачасныя падзеі. Пра стаўленне польскіх колаў да Магдалены распавядаецца ў аповесці-дзённіку "Dzieciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego" польскага журналіста і пісьменніка Міхала Паўлікоўскага: *"Магдалена Красінская не вызначалася прыгажосцю. Мела доўгі нос і была, як кажуць, паўвекавухай… Казалі, што пашлюбілася з Радзівілам не з кахання, а назло нейкай варшаўскай паўарыстакратцы, якая яго захапала для сваёй дачкі. Гэтыя варшаўскія інтрыгі неўзабаве асабліва адбіліся на лёсах "польскай" кар'еры Мікалая Радзівіла… Магдалена так узяла да сэрца афронт, выказаны мужу, што з зацятай полькі стала зацятай беларускай"* (Лондан, 1959).

Адвакат, музыказнаўца, даследчык беларускай культуры Гай Пікарда (псеўданім Г. Піхура) у артыкуле, напісаным з нагоды 20-годдзя з дня смерці Магдалены Радзівіл, прывёў звесткі, атрыманыя ад графіні С. Замойскай: *"Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту… Нават у старасьці захавала вялікую прыгажосьць, з клясычным прафілям, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ей падабалася вязаньне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту"* ("Княгіня Магдалена Радзівіл" — "Божым шляхам", 1965, № 2) .

Асобы, якія працавалі ў маёнтках княгіні, па-рознаму ставіліся да гаспадыні, па-рознаму апісвалі яе звычкі і лад жыцця. З павагай, вельмі стрымана ўспамінае пра свае сустрэчы з "мультыміліянеркай-магнаткай" былы паверараны ў маёмасных справах княгіні Гаўрыіл Царык, які аказваў ёй юрыдычную дапамогу пры будаўніцтве чыгункі Верайцы-Градзянка ("Успаміны члена беларускага гуртка ў Вільні" — "Нёман", 1998, № 11—12). Па яго словах, Магдалена абмяркоўвала з ім не толькі гаспадарчую дзейнасць, яны размаўлялі пра гісторыю бацькаўшчыны, старажытны род Завішаў, пра беларускую інтэлігенцыю, якая клапацілася пра адраджэнне беларускай культуры. Гаўрыіл Царык выконваў даручэнні княгіні, у тым ліку перадаваў грошы для падтрымкі Беларускага выдавецтва ў Вільні.

Непрыязнае стаўленне да Магдалены выказана ва ўспамінах артысткі і педагога Паўліны Мядзёлкі ("Сцежкамі жыцця: успаміны". Мінск, 1974), якая працавала настаўніцай у беларускай школе ў адным з маёнткаў Магдалены Радзівіл. У сваёй працы яна сутыкнулася з цяжкасцямі: па загадзе княгіні навучанне павінна было весціся не так, як у іншых школах, а на беларускай мове. Не хапала падручнікаў, сшыткаў і іншых неабходных рэчаў.

Магчыма, разыходжанні ў поглядах, якія выявіліся пазней, паўплывалі на ўспаміны пра сустрэчу з Магдаленай: *"Праз колькі хвілін я стаяла перад невялічкай сухенькай бабулькай. Праз чорную маркізетавую блузку, без якога б ні было станіка, прасвечваў касцісты гарсэт. Нядбайна зачасаныя валасы шэрымі ад сівізны касмыкамі рассыпаліся ў розныя бакі. Доўгі з гарбінкай нос і вочы… Шэра-вадзяністыя вочы дапытліва ўпіліся ў мяне"*.

З удзячнасцю за атрыманыя працу і жыллё ў цяжкія часы ўспамінае княгіню Іна (Міхалі) Буйло, малодшая сястра паэтэсы Канстанцы Буйло, якая разам з сястрой Стасяй таксама ў 1917 — 1918 гг. працавала настаўніцай у прыватнай школе. Першае спатканне з Магдаленай Радзівіл яна апісвае так: *"Мы увидели седую, худенькую, маленькую старушку, скромно одетую, держащую на коленях собачку"* ("По пройденным дорогам" — "Голас Радзімы", 1997, № 19 — 20).

Доўгі час жыццё і дзейнасць мецэнаткі нацыянальнага адраджэння пачатку ХХ ст. заставаліся ў Беларусі па-за ўвагай, і толькі ў апошнія дзесяцігоддзі з'явіліся публікацыі, якія далі магчымасць шырокай аўдыторыі пазнаёміцца з асобай выдатнай жанчыны.

У экспазіцыі — дзве невялікія па аб'ёме, але вельмі каштоўныя кнігі, прысвечаныя яе жыццю і грамадскай дзейнасці: беларускага выдаўца і журналіста Віктара Хурсіка "Белы лебедзь у промнях славы: Магдалена Радзівіл" (Мінск, 2001) і шырокавядомай і паважанай асобы — беларускага грэка-каталіцкага святара, апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы Аляксандра Надсана "Княгіня Магдалена Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі" (Мінск, 2006).

Завяршае выстаўку найноўшая публікацыя — цікавы, сенсацыйны артыкул беларускага літаратуразнаўцы, пісьменніка, гісторыка Адама Мальдзіса "Тайна портрета княгини-«холопоманки»" ("СБ. Беларусь сегодня", 16 апреля 2011). У ім аўтар даказвае, што знакаміты партрэт жанчыны з дзяўчынкай, на якім, як меркавалася, намалявана Магдалена з дачкой, змяшчае выявы зусім іншых асоб — сясцёр Эльжбеты і Гелены Радзівіл. У артыкуле паведамляецца і пра тое, што нібыта знойдзены дзённік Магдалены.

Такім чынам, з'явілася новая інтрыга ў жыццяпісанні неардынарнай асобы, пра якую нам далёка не ўсё вядома. Будзем чакаць новых публікацый пра беларускую асветніцу і мецэнатку, магчыма, самае цікавае яшчэ наперадзе.

**З матэрыяламі выстаўкі можна азнаёміцца таксама ў Інтэрнэце:**

***http://www.slideshare.net; http://ru.calameo.com.***

# Няўрымслівыя ці разважлівыя?

**Ганна АТРОШЧАНКА,**
**фота аўтара**

Кожны раз, калі сустракаюся з загадчыкамі сельскіх бібліятэк, нечакана прыходжу да думкі, што ва ўстановах культуры працуюць людзі асаблівага гарту. Няўрымслівыя, разважлівыя, неабыякавыя да чужога лёсу, да праблем сваіх чытачоў… Такім людзям, як кажуць, і чужая болька баліць!

Дзесяць год працуе Антаніна Жыгалава ў Клімаўскім эстэтычна-культурным цэнтры выхавання (Гомельскі раён), дзе налічваецца 730 чытачоў. Кніжны фонд тут складае крыху больш як 8 тысяч кніг, ёсць падшыўкі часопісаў і газет.

У невялікім памяшканні заўсёды ўтульна і камфортна, шматлікія кніжныя выстаўкі аформлены толькі на беларускай мове. На самым ганаровым месцы — звесткі і фотаздымкі шаноўных людзей вёскі, якія доўгі час працавалі ў мясцовай гаспадарцы, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Асаблівую цікавасць выклікае незвычайная выстаўка пад агульнай назвай "Вясёлка талентаў", дзе можна падзівіцца на цікавыя вышыванкі, вырабы з бісеру, малюнкі…

У вёсцы Клімаўка размешчаны "Сямейны дом-2000", дзе знайшлі прытулак маладыя інваліды, ад многіх з якіх яшчэ пры нараджэнні адмовіліся бацькі. Амаль кожны дзень зазірае сюды загадчыца сельскай бібліятэкі. Антаніна Уладзіміраўна — добры і надзейны сябар, дарадца, арганізатар. Яна знаходзіць чулых і неабыякавых людзей, якія маюць магчымасць нечым дапамагчы гэтай установе, арганізоўвае выязныя экскурсіі для юнакоў і дзяўчат.

Завітваюць сюды і гомельскія паэты з раённага літаратурнага аб'яднання "Пралеска". Такім чынам да літаратурнага жыцця далучаюцца і сельскія жыхары, і маладыя людзі, якія жадаюць павышаць сваю адукацыю.



***На здымку: Антаніна Жыгалава знаёміць госцю бібліятэкі з духоўнай літаратурай.***

# ...І фаліянты хавалі ў зямлі

**Калі б прапанавалі вандроўку па бібліятэках Хойніцкага раёна, то, пэўна ж, пачалі знаёмства з вёскі Глінішча, дзе ёсць музей Івана Мележа. Далей накіраваліся б у вёску Вялікі Бор, на радзіму Барыса Сачанкі: у мясцовай бібліятэцы знаходзіцца пакой-музей пісьменніка. І, вядома, завіталі б у Цэнтральную раённую бібліятэку Хойнікаў. У 2011-м ёй споўнілася 90 год. Заснаваная ў 1921 годзе, бібліятэка першапачаткова размяшчалася ў народным Доме культуры, які быў пабудаваны на падмурку памешчыцкага дома Мітрафана Аўрамава.**

Ірына ТУЛУПАВА

***Ці перажывала кніжная скарбніца перыяды ўзлётаў і падзенняў?***

— Бясспрэчна, былі гады, калі ў бібліятэку хадзіла вельмі мала чытачоў, супрацоўнікі больш часу праводзілі ў арганізацыях, былі вымушаны туды насіць кнігі і перыядычныя выданні, — тлумачыць дырэктар Наталля Ешчанка. — Гэта быў час, калі атрымлівалі вельмі мала літаратуры (сярэдзіна 1990-х). Тады практычна не было паступлення літаратуры ў бібліятэку і больш карысталіся перыядычнымі выданнямі.

У бібліятэчнай сістэме раёна цяпер каля 300 тысяч адзінак захоўвання. Кожны другі жыхар — актыўны чытач. Хаця рэгіён — досыць асаблівы, тут вельмі шмат выселеных вёсак. Дарэчы, у бібліятэцы створана адмысловая база даных пра зніклыя населеныя пункты. Вярнуўшыся ў сваё недалёкае мінулае, супрацоўнікі здзівіліся: выселенымі аказаліся самыя вялікія вёскі. Такі незайздросны лёс напаткаў 49 населеных пунктаў, дзе былі і школы, і дзіцячыя садкі, дзе не сціхаў дзіцячы смех, а бацькі для задавальнення надзённых сваіх клопатаў маглі звяртацца ў розныя ўстановы: у вёсках тых было па некалькі магазінаў, нават масла- і хлебазаводы. Жыццё віравала: у населеных пунктах было шматлюдна, пражывалі ў іх па 800 — 900 чалавек.

***Што стала з бібліятэкамі, якія дзейнічалі, і з кнігамі?***

— Частку кніг закапалі ў зямлю, — з сумам успамінае Наталля Уладзіміраўна. — Нашы кніжныя скарбы, фаліянты, якія мелі не толькі духоўную, а і гістарычную каштоўнасць, былі пахаваны, таму што карыстацца імі было нельга. Праводзілі, як і належыць, замярэнні радыяцыйнага фону — прыборы зашкальвалі. Кнігі, якія можна было чытаць, пераразмяркоўвалі ў іншыя бібліятэкі.

Той далёкі ўжо ад нас 1986 год стаўся трагічным не толькі для людзей, а і для ўстаноў. Ламаліся лёсы, планы, нерэалізаванымі засталіся задумы. Бібліятэчная сістэма рэзка зменшылася.

— Бібліятэк шэсць ці восем згубілі ў год экалагічнай катастрофы — у такіх населеных пунктах, як Аравічы, Пагоннае, Тульгавічы, Бабчын, — тлумачыць дырэктар скарбніцы.

***Што цяпер адбываецца ў бібліятэчнай сістэме?***

За апошнія 4 гады колькасць кніжніц зменшылася, але нязначна: было 27, цяпер іх 25. Разумеючы, што насельніцтву, якое пачынае расці, духоўныя цэнтры неабходныя, сучасную сетку бібліятэк імкнуцца захаваць. Дзеля гэтага практыкуюць розныя формы працы, у тым ліку бібліятэкі-клубы. У вёсках, дзе насельніцтва нешматлікае, аб'ядноўваюць клуб і бібліятэку, фактычна захоўваючы абедзве структуры. І што асабліва каштоўна — работніка, які працуе на стаўку. Пяць бібліятэк функцыянуе ў саміх Хойніках.



Чарнобыльскае рэха адгукнулася і ў саміх установах. Іх работнікі, выдатныя прафесіяналы, людзі з вышэйшай адукацыяй, вымушаны былі з'язджаць з напрацаваных месцаў, шукаць матэрыяльнае і духоўнае апірышча за межамі раёна. Выязджалі не толькі з выселеных вёсак, пакідалі і горад: трагедыя, якую перажывалі ўпершыню, была невядомая сваімі наступствамі. І штат бібліятэк тады даводзілася камплектаваць нанова. Імкнуліся, каб і новыя людзі, якія прыходзілі ў кніжныя скарбніцы, вучыліся. Той паслячарнобыльскі час таксама быў вельмі цяжкі, таму што працаваць даводзілася з непрафесіяналамі. Цяпер сітуацыя выпраўляецца.

***Ці актыўна чытаюць беларускую літаратуру і беларускамоўныя перыядычныя выданні?***

— Запатрабавана ў асноўным тая літаратура, якая прадугледжана школьнай праграмай, — тлумачыць Наталля Ешчанка. — Добра чытаюць беларускія часопісы: "Нёман", "Полымя"... "Полымя" выпісваем практычна ў кожную бібліятэку. Мы яго прапагандуем, праводзім сустрэчы з насельніцтвам, урокі ў школах, каб ведалі пра гэты часопіс, галоўны рэдактар якога — наш зямляк з вёскі Бабчын Мікола Мятліцкі!

На пытанне, ці папулярны наш штотыднёвік "ЛіМ", дырэктар бібліятэкі адзначае, што чытаюць яго бібліятэкары, таму што, сапраўды, вельмі цікавая газета. Некаторыя артыкулы нават абмяркоўваюцца на семінарах!

Літаратурныя клубы і аб'яднанні пры бібліятэках таксама не рэдкасць. З-за таго, што раён пацярпеў экалагічную катастрофу, бібліятэкі цяпер робяць ухіл на эколага-краязнаўчую тэматыку. Але вельмі даўно ў аграгарадку Судкова працуе клуб "Світанак" тэатральна-мастацкага кірунку. Праходзяць там літаратурныя гадзіны, сустрэчы, віктарыны з дарослымі і са школьнікамі. Вельмі цікавае назіранне: цяпер у бібліятэкі пачалі хадзіць хлопчыкі — для іх выпісваюць цікавыя часопісы, купляюць кнігі. Каб далучыць да чытання і не згубіць гэтую аўдыторыю.

А ўвогуле, мы перакanaча можам сцвярджаць: людзі сталі чытаць больш!

***На здымку: Мікола Мятліцкі са сваячкай Івана Мележа Соф'яй Лінніцкай у музеі ў вёсцы Глінішча.***

## Юрыдычная кансультацыя

*Рубрыку вядзе галоўны спецыяліст упраўлення права і міжнародных дагавораў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці Андрэй ЛУЧАНОК.*

# Маёмаснае права

**Паводле Закона "Аб аўтарскім праве і сумежных правах", які уступіў у сілу з 1 снежня 2011 года, аўтару — фізічнай асобе, якая стварыла твор, — належаць маёмасныя і асабістыя немаёмасныя правы.**

Падкрэслім: асабістыя немаёмасныя правы ахоўваюцца бестэрмінова, належаць аўтарам і выканаўцам незалежна ад маёмасных і не могуць адчужацца і перадавацца па дагаворы.

**Маёмасныя правы** азначаюць, што аўтар ці іншы праваўладальнік мае права сам выкарыстоўваць твор любым спосабам, а таксама дазваляць ці забараняць яго выкарыстанне іншым асобам. Выкарыстаннем твора з'яўляецца ўзнаўленне твора ў любой аб'ектыўнай форме (напрыклад, шляхам выдання ў друку, тыражавання на касетах, дысках і іншых носьбітах і абсталяванні); распаўсюджванне арыгінала ці экзэмпляраў твора праз продаж ці іншую перадачу права ўласнасці; пракат арыгінала ці экзэмпляраў твора; імпарт экзэмпляраў твора; публічны паказ арыгінала ці экзэмпляраў твора; публічнае выкананне твора; перадача твора ў эфір і па кабелі; іншае давядзенне твора да ўсеагульнага ведама (напрыклад, праз Інтэрнэт); пераклад твора на іншую мову; перапрацоўка яго для стварэння вытворнага твора (музыкальнай аранжыроўкі ці інш.); іншыя спосабы выкарыстання.

Выканаўцы таксама маюць права выкарыстоўваць сваё выкананне любым спосабам, а таксама дазваляць ці забараняць яго выкарыстанне іншым асобам.

У адносінах да камп'ютарных праграм новы Закон прадугледзеў, што аўтару ці іншаму праваўладальніку ў адносінах да камп'ютарных праграм належыць выключнае права здзяйсняць ці дазваляць установку камп'ютарнай праграмы на камп'ютар ці іншае прыстасаванне, запуск і работу з ёй.

У новым Законе захавалася права следавання, якое азначае, што ў кожным выпадку публічнага перапродажу арыгіналаў твораў выяўленчага мастацтва, арыгіналаў рукапісаў твораў пісьменнікаў, кампазітараў і вучоных (праз аўкцыён, галерэю выяўленчага мастацтва, краму і інш.) аўтар і яго спадчыннікі маюць права на атрыманне ад прадаўца адлічэнняў у памеры 5 працэнтаў ад цаны перапродажу. Гэта права з'яўляецца неадчужальным і пераходзіць толькі да спадчыннікаў аўтара на тэрмін дзеяння выключнага права.

Не змяніўся ў новым Законе тэрмін дзеяння выключнага маёмаснага аўтарскага права на твор: яно дзейнічае на працягу ўсяго жыцця аўтара і пяцідзесяці гадоў пасля яго смерці, за выключэннем іншых выпадкаў, прадугледжаных Законам. Дарэчы, у заканадаўствах нашых суседзяў, у тым ліку Расіі і Украіны, тэрмін ахоўвы маёмасных аўтарскіх правоў ужо складае семдзесят гадоў.

Выключнае права выканаўца на выкананне дзейнічае на працягу пяцідзесяці гадоў з моманту ажыццяўлення выканання, або першага запісу выканання, першай перадачы выканання ў эфір ці па кабелі, альбо іншым шляхам.

Значную перапрацоўку ў новым Законе атрымалі нормы, якія датычаць **службовага твора**. Ён створаны аўтарам па заданні наймальніка ці ў парадку выканання абавязкаў, прадугледжаных працоўным дагаворам.

Так, выключнае права на службовы твор з моманту яго стварэння пераходзіць да наймальніка, калі іншае не прадугледжана дагаворам паміж ім і аўтарам. Гэты дагавор можа прадугледжваць аўтарскае ўзнагароджанне за выкарыстанне твора.

Новаўвядзеннем з'яўляецца прадугледжаная магчымасць вяртання выключнага права на твор ад наймальніка да аўтара ў выпадку, калі наймальнік на працягу пяці гадоў не пачне выкарыстанне твора ці не перадасць выключнае права на гэты твор іншай асобе, калі іншае не прадугледжана дагаворам паміж наймальнікам і аўтарам.

Пасля ліквідацыі юрыдычнай асобы — наймальніка, а таксама ў выпадку смерці фізічнай асобы — наймальніка пры адсутнасці ў яго спадчыннікаў выключнае права на службовы твор аўтаматычна пераходзіць да яго аўтара, у выпадку смерці аўтара — да яго спадчыннікаў.

Такія ж правілы дзейнічаюць і ў адносінах да службовага выканання.

Новы Закон пашырыў спіс аўтараў аўдыёвізуальных твораў (тэлефільмы, відэафільмы і падобныя творы). Цяпер імі акрамя рэжысёра-пастаноўшчыка, аўтара сцэнарыя і аўтара спецыяльна створанай музыкі з'яўляюцца таксама аператар-пастаноўшчык і мастак-пастаноўшчык.

Маёмасныя правы на твор ці на выкананне могуць быць адчужаны па дагаворы саступкі выключнага права ў поўным памеры на ўвесь тэрмін дзеяння аўтарскага права на твор ці на выкананне, перададзены па ліцэнзійным (у тым ліку аўтарскім) дагаворы, дагаворы аб стварэнні і выкарыстанні аб'ектаў аўтарскага права ці сумежных правоў.

Аўтары і выканаўцы пры заключэнні такіх дагавораў павінны быць уважлівымі, бо цяпер Законам устаноўлена магчымасць заключэння іх на бязвыплатнай аснове, а ў дагаворы аб стварэнні і выкарыстанні аб'ектаў аўтарскага права ці сумежных правоў павінна быць устаноўлена адказнасць аўтара (выканаўцы) за непрадастаўленне твора ў тэрмін.

Такім чынам, можна адзначыць, што новы Закон прадугледзеў для аўтараў і выканаўцаў шырокія правы. Кожны аўтар, выканаўца ці іншы праваўладальнік павінен зразумець, што цяпер многае залежыць ад яго самога: дзяржава стварыла ўмовы для рэалізацыі і аховы правоў, прадугледжаных заканадаўствам, а як карыстацца прадастаўленымі магчымасцямі — актыўна весці перагаворы з выкарыстальнікамі твора (выканання) з мэтай уключэння ў дагавор прымальных для творцы умоў, звяртацца ў суд з адпаведнымі патрабаваннямі да парушальнікаў ці пасіўна назіраць парушэнне сваіх правоў і інтарэсаў — кожны вырашае самастойна.

Хаця практыка сведчыць, што ў многіх выпадках творцам лепей было б аб'ядноўвацца для аховы сваіх правоў і інтарэсаў. Але пра гэта — у наступных артыкулах.

Першы крок



# Проста айпад!

**Намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Павел КАРАНЕЎСКІ:**

— Уласную бібліятэку дагэтуль збіраю. Нават крызіс не перашкаджае: адкладваю на гэта грошы. На жаль, добрую кнігу я не заўсёды маю магчымасць купіць, таму, каб штосьці пачытаць, пераходжу на новыя тэхналогіі. Вось, да прыкладу: выданні Вебера і Муракамі каштуюць каля 20 долараў! Я спампаваў іх з Інтэрнэта і буду чытаць на планшэце, на айпадзе. Але тую кнігу, якую я хацеў бы мець пры сабе заўсёды, — куплю. Калі раней, у гады 1970 — 1980-я, мае бацькі стаялі ў чэргах па кнігі, здавалі макулатуру, каб купіць тое, што хацелася, то цяпер… Ідзеш у "букініст" і купляеш збор твораў Л.Талстога — 22 тамы (1978 — 1985 гг.) — за амаль сімвалічную плату! Так што, з аднаго боку, новая кніга падаражэла, а з іншага — букіністычная, папярэдніх гадоў выдання, стала таннай.

Вельмі шмат чытаю класікі, магу яе перачытваць у вольны час. Гэта і Чэхаў, і Дастаеўскі. Люблю пісьменнікаў і паэтаў сярэбранага веку. Гэта быў час, у які, напэўна, нараджаліся вершы.

А памятаеце "цвяток радзімы васілька" М. Багдановіча? Яго лірыку з толькі яму ўласцівай беларускай мовай, дзе сустракаюцца словы рускія, але як гучаць!

Люблю таксама рускіх пісьменнікаў, сучасную французскую літаратуру. Яна, як мне падаецца, вельмі блізкая нам, бо эмацыянальная і прачулая. Чаму тыя ж Заля, Флабэр такую папулярнасць маюць? Таму, што мы па духу блізкія!

*Фота Міхаіла Маругі*

Імпрэзы

# Убачыць Дзеда Прыродазнаўцу

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**Гасцямі Докшыцкай дзіцячай раённай бібліятэкі напрыканцы снежня сталі аўтары шматлікіх кніг для дзяцей, навукова-метадычнай літаратуры Галіна і Сяргей Трафімавы. Яны адзначаны дыпломам лаўрэатаў літаратурнага конкурсу Саюза пісьменнікаў Беларусі "Залатое пяро" ў намінацыі "Дзіцячая літаратура".**

Размова ішла пра серыю "Апавяданні Дзеда Прыродазнаўцы" і дзве кніжкі апавяданняў "Яны не павінны знікнуць" (пра жывёл і расліны, занесеныя ў Чырвоную кнігу). Выданні гэтыя цяпер добра вядомыя і карыстаюцца асаблівым попытам сярод цікаўнай і дапытлівай малечы. "А пасля сустрэчы іх літаральна "змялі" з паліц бібліятэкі. Таму што чытачам-непаседам вельмі хацелася даведацца пра тое, дзе шукаць залатую птушку, чаму капусту называюць капустай альбо "чым страляе агурок". Пра ўсё гэта Галіна Уладзіміраўна і Сяргей Анатольевіч расказалі падчас прэзентацыі сваіх кніг", — патлумачыла такую незвычайную цікавасць да выданняў загадчыца бібліятэкі Алена Гудзь. Па словах Алены Уладзіміраўны, у малодшых класах гэтыя кнігі з задавальненнем чытаюць пры вывучэнні курса "Чалавек і свет". Такая літаратура не залежваецца і на прылаўках магазінаў. Невялікія па аб'ёме, па-мастацку аформленыя, выкладзеныя простымі словамі з дапамогай яркіх вобразаў, кніжкі прыцягваюць увагу і юных чытачоў, і іх настаўнікаў, і бацькоў.

Трафімавы падрыхтавалі да імпрэзы адмысловую гульнёвую праграму, падчас якой юныя чытачы змаглі прадэманстраваць і свае веды правіл дарожнага руху. Прынамсі, добрыя падказкі можна было знайсці тут жа, пагартаўшы старонкі "Азбукі юнага пешахода" і "Азбукі юнага пасажыра".

Падчас сустрэчы з бібліятэкарамі ў рамках рэгіянальнага семінара размова ішла пра досвед творцаў па прапагандзе літаратуры.

Зачытаныя кнігі

# Рэйтынг найбольш чытаемых у снежні кніг прапануе Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна

### Аддзел краязнаўства:

1. Беларусы: у 8 т. / В. К. Бандарчык, Г. М. Курыловіч, Т. І. Кухаронак і інш. — Мінск: Беларуская навука, 1995 — 2009.
2. Беларускі фальклор: энцыклапедыя: у 2 т. / Рэдкал. Г. П. Пашкоў і інш. — Мінск: БелЭн, 2005.
3. Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік / складальнікі: І. Клімковіч, В. Аўтушка. — Мінск: Беларусь, 2011.
4. Туристическая мозаика Беларуси / А. И. Локотко и др. — Минск: Беларуская навука, 2011.
5. Кулагін, А. М. Праваслаўныя храмы Беларусі: энцыклапедычны даведнік. — Мінск: БелЭн, 2007.

### Чытальная зала:

1. Бессолицын, А. А. Экономическая история России. Очерки развития предпринимательства: учебное пособие для вузов. — Москва: ГУ ВШЭ, 2005.
2. Бичик, С. В. Словарь экономических терминов. — Минск: Вышэйшая школа, 2009.
3. Борисов, Е. Ф. Экономическая теория: краткий курс: учебное пособие для вузов. — Москва: Инфра-М, 2005.
4. Вечканов, Г. С. Макроэкономика: учебник для вузов. — Санкт-Петербург: Питер, 2009.
5. Вечканов, Г. С. Микроэкономика. — Санкт-Петербург: Питер, 2008.

### Абанемент:

1. Нестерова, Наталья. Бабушка на сносях: роман. — Москва: Центрполиграф, 2007.
2. Асадов, Э. А. Стихотворения. — Москва: АСТ, 2001.
3. Миллер, Г. Сонник: Толкования 10000 снов. — Москва: АСТ, 2011.
4. Тамоников, А. А. Бой капитанов: роман. — Москва: Эксмо, 2009.
5. Лазарева, О. Аромат рябины: сборник рассказов. — Москва: Эксмо, 2008.

### Аддзел абслугоўвання дашкольнікаў і вучняў 1—5 класаў:

1. Успенский, Э. Н. Всё о Простоквашино: Сказочные повести и весёлые истории. — Москва: Астрель: АСТ, 2003.
2. Гераскина, Л. В стране невыученных уроков. — Москва: Самовар, 1990.
3. Ролинг, Дж. К. Гарри Поттер и узник Азкабана: Роман. — Москва: Росмэн-пресс, 2002.
4. Постникова, В. Ю. Карандаш и Самоделкин на необитаемом острове: повесть-сказка. — Минск: Современная школа, 2009.
5. Матюшкина, К. Лапы вверх: повесть-сказка. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2006.

### Аддзел абслугоўвання вучняў 6—9 класаў:

1. Коэльо, П. Дневник мага: роман. — Москва: АСТ, 2008.
2. Риордан, Р. Перси Джексон и похититель молний: роман. — Москва: Эксмо; 2010.
3. Майер, С. Затмение. — Москва: АСТ, 2009.
4. Мид, Р. Академия вампиров. — Москва: Эксмо, 2010.
5. Ночкин, В. Слепое пятно: фантастический роман. — Москва: АСТ: Астрель, 2010.

Штрых-код

# Што будзе

**15 студзеня** Харосіцкая сельская бібліятэка Навагрудскай ЦБС запросіць чытачоў да ўдзелу ў гадзіне літаратурнага партрэта "Гартаючы жыцця свайго старонкі", прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння М. Танка. Будзе працаваць кніжная выстаўка "Максім Танк — жыццё ў паэзіі", прагучаць вершы ў выкананні чытачоў бібліятэкі.

**17 студзеня** ў Варнянскай сельскай бібліятэцы Астравецкай ЦБС адбудзецца літаратурная гадзіна да 65-годдзя Г. Марчука "На вернасць краю прысягаю". У праграме — аповед пра жыццё і працу пісьменніка, віктарына па яго творчасці сярод вучняў, кніжная выстаўка.

**19 студзеня** ў Віцебскай абласной бібліятэцы адбудзецца сустрэча з прэзідэнтам Міжнароднай лігі развіцця навукі і адукацыі, членам Расійскага саюза рэктараў, галоўным рэдактарам навуковага часопіса "Вестник Международного института управления" і газеты "Вузовские известия" Анатолем Яжовым.

**19 студзеня** ў Бобрыкаўскай сельскай бібліятэцы Пінскай РЦБС запланавана справаздача перад чытачамі "Роля кнігі ў лёсе чалавека".

**19 студзеня** Навагрудская цэнтральная раённая бібліятэка запросіць на юбілейную вечарыну да 40-годдзя часопіса "Родная прырода". Будуць экспанавацца лепшыя публікацыі і матэрыялы часопіса за апошнія некалькі гадоў.

**19 студзеня** ў Віцебскай гарадской бібліятэцы імя І. Крылова пройдзе ўрок прафарыентацыі "Дарогі, якія мы выбіраем".

**19 студзеня** ў Лышчанскай сельскай бібліятэцы Пінскай РЦБС арганізуецца гутарка "Кожнаму чалавеку шлях адкрыты ў бібліятэку".

**21 студзеня** Ардашынская сельская бібліятэка Смаргонскай ЦБС правядзе гадзіну мастацтва, прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння Р. Шырмы. Наведвальнікі пазнаёмяцца з жыццём і творчасцю знакамітага беларускага дырыжора, фалькларыста, публіцыста, музычнага і грамадскага дзеяча.

**22 студзеня** ў Мокрадубраўскай сельскай бібліятэцы Пінскай РЦБС адбудзецца конкурс "Лепшы чытач года".

**23 студзеня** Аршанская гарадская бібліятэка № 9 запрашае ў падарожжа па кнізе А. Мілна "Віні-Пух і Усе-Усе-Усе".

**23 студзеня** Смаргонская гарадская бібліятэка № 2 прапануе сваім наведвальнікам краязнаўчае падарожжа "Гэта Радзіма мая". У кніжніцы будзе разгорнута выстаўка "Падарожжа па родным краі", агляд літаратуры "Мы ганарымся, што мы беларусы", прагучаць вершы беларускіх паэтаў пра Радзіму, родную зямлю.

**25 студзеня** ў Пятрэвіцкай сельскай бібліятэцы Навагрудскага раёна арганізуецца выстаўка-прагляд "Песняры зямлі беларускай", якая пазнаёміць наведвальнікаў з жыццём і творчасцю Якуба Коласа і Янкі Купалы.

**26 студзеня** Лепельская цэнтральная раённая бібліятэка арганізуе гадзіну карысных парад "Шляхі-дарогі ў свет здароўя".

**29 студзеня** ў Іўеўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца пасяджэнне літаратурна-музычнай гасцёўні "Спадчына" на тэму "Напалеон Орда: кампазітар, музыкант, мастак, чалавек".

**29 студзеня** ў Трабскай сельскай бібліятэцы Іўеўскай ЦБС спецыялісты арганізуюць агляд літаратуры "Святы беларусаў". Плануецца таксама гутарка за "круглым сталом" — "Традыцыі маёй сям'і".

Да ўвагі

# «Вожык» — у класічным фармаце

Работнікі Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі запрасілі на сустрэчу з дырэктарамі сельскіх бібліятэк супрацоўнікаў альманаха "Вожык", які адзначыў сваё 70-годдзе. Трэба сказаць, што гэта выданне карыстаецца вялікай папулярнасцю ў раёне. Яго выпісвае кожная бібліятэка, а ўсяго — больш як 30 экзэмпляраў. Гэта самы высокі паказчык у Гродзенскай вобласці.

Галоўны рэдактар альманаха Юлія Зарэцкая, рэдактар аддзела літаратуры Павел Саковіч расказалі пра цікавую гісторыю "Вожыка", які пачынаўся са знакамітага выдання "Раздавім фашысцкую гадзіну". Узгадалі легендарных галоўных рэдактараў, выдатных супрацоўнікаў і аўтараў "Вожыка" — класікаў нашай літаратуры. Госці падзяліліся творчымі планамі ды згадалі пра тое, што з гэтага года альманах вяртаецца да свайго ранейшага, "класічнага", фармату, пачне выходзіць штомесячна і ў большым аб'ёме — 24 старонкі.

У заключэнне Ю. Зарэцкая і П. Саковіч адказалі на пытанні прысутных, прачыталі новыя гумарыстычныя творы і падарылі бібліятэцы кнігі: свае і са знакамітай "Бібліятэкі «Вожыка»".

**Ірына ЦАРУК,**
**намеснік дырэктара Навагрудскай ЦРБ**

# Шукаць прастату, але не спрошчанасць

**Ёсць афарыстычнае вызначэнне: каб зрабіць тую ці іншую скульптурную выяву, трэба проста адкінуць усё лішняе з кавалка мармуру, граніту або дрэва. Але ў тым і сутнасць таленту: неабходна ведаць, адчуваць тое, што варта адкінуць. Яўген Барысенка, які ўсё сваё жыццё падсвядома навучаўся таямніцам такога майстэрства, здолеў ім авалодаць.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ, фота аўтара**



У яго скульптурных выявах сапраўды няма нічога лішняга. У гэтым можна пераканацца на выставе скульптурных твораў “Філасофія дрэва”, якая адкрылася ў Светлагорскай карціннай галерэі “Традыцыя” імя Германа Пранішнікава. Нішто не перашкаджае твору быць творам. Героі яго жывуць, разважаюць, спрачаюцца, знаходзяць паразуменне, засяроджваюцца на саміх сабе, застаюцца ў межах таго часу, у якім наканавана было нарадзіцца і жыць. Аказваецца, дрэва можа мець пачуцці, памяць, характар. Але такое здараецца толькі тады, калі яно сустракаецца з талентам, з творчай апантанасцю.

Філосаф па жыццеадчуванні, Яўген Аркадзьевіч мае вялікую мастацкую бібліятэку. І такая далучанасць да сусветнай скарбніцы здабыткаў мастацтва не дазволіла яму знізіць патрабаванні да самога сябе. Нават назвы яго твораў сцвярджаюць іх філасофскую і гістарычную заглыбленасць, натуральнасць асацыяцый. “Дыяніс. Прадчуванне асалоды” — чытаем пад адной са скульптурных выяў. У грэчаскай міфалогіі гэтага бога ўрадлівасці, вінаградарства і вінаробства называлі яшчэ Бахусам, Вакхам. Гістарычнае падабенства пераконвае. Адразу ж прыгадваецца міф пра нараджэнне Дыяніса, яго барацьбу за права ўвайсці ў лік 12 алімпійскіх багоў. Сын Зеўса і дачкі фіванскага цара Кадмы Сямелы, ён мог загінуць у агні, не нарадзіўшыся. Але Зеўс выратаваў яго і, паводле міфа, зашыў сабе ў бядро, каб потым у вызначаны час той змог нарадзіцца.



Не ведаючы ўсяго гэтага, можна проста любавацца складанай скульптурнай кампазіцыяй. А калі ведаеш, то адразу ж зразумелымі робіцца вінаградная лаза і іншыя мастацкія дэталі незвычайнага твора. Заўважаеш: каля Дыяніса прытулілася адна з вакханак, пасвойску ўтрымліваючы ў руцэ змяю. Ды ці толькі гэта? Скульптурная выява літаральна насычана асацыяцыямі, падтэкстам.

Гэтак жа шматасацыятыўна глядзяцца “Мроі пра каханне”, бо тут і Афрадыта, і Арэс, і Эрот, і Фенікс. Пазіраю і прыгадваю міф пра тое, як муж Афрадыты — адмысловы майстар і самы непрыгожы сярод багоў — у час аднаго са спатканняў Афрадыты з Арэсам здолеў прыкаваць іх нябачнай сеткай да ложка. У такім непрыстойным выглядзе іх і пабачылі астатнія багі. Кампазіцыя выявы, якая нечым нагадвае пра ўсё гэта, вельмі складаная, прасякнутая, так і хочацца сказаць, пачуццёвымі ракурсамі.

Ёсць і іншыя працы разьбяра па дрэве, якія створаны паводле старажытнай міфалогіі. “Пераадоленне хаоса” вымушае прыгадаць славутага Сігурда — героя, чые подзвігі ўслаўлены ў нямецкім эпасе “Песня пра нібелунгаў”. Галоўны з подзвігаў — умярцвенне дракона. Хочацца ўбачыць і казачны меч, і легендарнага каваля Рэгіна. Глыбіня асацыяцый шматгранная. Ёсць яна і ў “Дрыядзе”. У грэчаскай міфалогіі дрыядамі называлі німфаў, якія лічыліся апякунамі дрэў. Яны дапамагалі тым, хто саджаў і вырошчваў дрэвы, валодалі старажытнай мудрасцю, таямніцамі жыцця і смерці. Нельга не здзівіцца прастаце ўвасаблення, сімволіцы гэтага складанага сюжэта.

Майстар шукае прастаты, але не спрошчанасці. І знаходзіць яе ў пачуццёвых праяўленнях. Эмацыянальная напружанасць адчуваецца ў “Апошнім коласе”, “Прароку”, але асабліва ярка — у “Самасузіранні”. Па-рознаму можна ўспрымаць твар героя гэтага псіхалагічна асэнсаванага твора. Але яго пакутлівая засяроджанасць на самім сабе відавочная. Вочы прыкрытыя, лоб зморшчаны, бровы прыўзнятыя, у вуснах адчуваецца немы боль. І наогул, ён нібыта пазірае ў таямнічую сутнасць сваёй душы. Нервова напружана рука, якая падпірае шчаку. Вось яна, уразлівая загадкавасць самасузірання.

Перадаць псіхалагічны стан герояў скульптурных выяў, іх пачуццёвасць, зрабіць носьбітамі філасофскай думкі — мэта надзвычай складаная і для прафесійных скульптараў. Тым не менш Яўген Аркадзьевіч ставіць перад сабой такія творчыя задачы не толькі ў прыгаданых творах, але і ў “Філасофскай антрапалогіі”, дзе збліжаюцца або аддаляюцца нейкай патаемнай сутнасцю ўвасабленні малпы і старога чалавека. Адно з такіх ўвасабленняў мае назву “Прасветленасць”. Адразу ж прыгадваецца, што менавіта так — прасветленым — у будыйскай міфалогіі называлі Буду — чалавека, які дасягнуў найвышэйшых межаў духоўнага развіцця. Вачамі святла пазірае на нас і “Сын Божы”.

Ёсць і больш даступныя сюжэтныя або партрэтныя ўвасабленні. З якой шчырасцю, з якім тонкім лірызмам здолеў майстар перадаць адчуванне яскрава шчаслівай роднасці маці і яе сына! Відавочная пачуццёвая супакоенасць зыходзіць ад твора, які так і называецца — “Шчасце”. Юныя светлагорцы, а іх часта можна ўбачыць у галерэі, безумоўна, парадуюцца такім выявам, як “Гном”, “Хатабыч”, “Лясныя жыхары”.

Вось ужо больш як 30 гадоў свой вольны час майстра аддае любімаму занятку. Назва выставы — “Філасофія дрэва” — цалкам адпавядае яго творчай сутнасці.

***На здымках: “Самасузіранне”; “Філасофская антрапалогія”.***

З глыбінкі

## Незабыўная сустрэча

Рыхтуючыся да ўдзелу ў абласным этапе рэспубліканскага конкурсу “Мае землякі — мой гонар”, члены краязнаўчага гуртка Пацейкаўскай сярэдняй школы Капыльскага раёна вырашылі падрыхтаваць старанна сабраны імі матэрыял пра жыццё і творчасць былой выпускніцы гэтай школы, пісьменніцы-дэтэктывісткі Леаніды Падвойскай.

Гэта і стала падставай для сустрэчы з пісьменніцай, якая сёння жыве і працуе ў Мінску. Вечарына пачалася з прэзентацыі працы школьных краязнаўцаў: “Леаніда Падвойская: жыццё і творчасць”. Потым слова ўзяла шаноўная госця. Гутарка зайшла пра кнігі Леаніды Іванаўны “Максім” і “Алена” з цыкла “Прадцечы звера”. Іх героі — зусім маладыя людзі. Пісьменніца паведаміла, што кнігі напісаны на аснове назіранняў за жыццём падлеткаў.

Актыўна выказвалі свае стаўленне да прачытаных кніг Падвойскай і школьнікі. Праз самы, пэўна, запатрабаваны моладдзю жанр — дэтэктыў — аўтар імкнецца дапамагчы падлеткам правільна вырашаць жыццёвыя праблемы. Загадчыца цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Таццяна Серая расказала пра літаратурныя традыцыі і літаратурную сучаснасць Капыльшчыны.

Добрыя словы прызнання і падзякі пачула пісьменніца ў гэты дзень і ад школьных настаўнікаў. Леаніда Іванаўна адказала на пытанні чытачоў, перадала школе ў падарунак кнігі і дыплом за актыўны ўдзел у духоўным выхаванні моладзі ад Саюза пісьменнікаў Беларусі за подпісам старшыні гэтай арганізацыі Мікалая Чаргінца.

**Вадзім САЛАВЕЙ, Капыльскі раён**

## Карціны крыжыкам

У святочныя дні майстрыхі з г. Баранавічы прадставілі публіцы вышываныя карціны на выстаўцы “У свой твор уклаў я душу”. Тых, для каго вышыўка крыжыкам стала часткай жыцця, аб'яднала ў своеасаблівы клуб адзінадумцаў гаспадыня магазіна “Бабулін клубочак” Юлія Касьяновіч. Кожны дзень, сустракаючыся з творчымі людзьмі, яна вырашыла работы баранавіцкіх майстрыц зрабіць набыткам не толькі іх сяброў і сваякоў, але і больш шырокага кола аматараў хараства. Гэтак і ўзнікла думка пра выстаўку.

Прадстаўленыя вышываныя карціны — самых розных жанраў: ад традыцыйных кветкавых кампазіцый і рэпрадукцый вядомых палотнаў да дзіўнай прыгажосці ікон і партрэтаў канкрэтных людзей. Ёсць тут нават аўтапартрэт. Яго выканаў адзіны сярод удзельніц выстаўкі мужчына — Канстанцін Дунец.

Выстаўка працягнецца да старога Новага года. Да гэтага часу наведвальнікі будуць галасаваць за лепшыя работы, аўтараў якіх узнагародзяць каштоўнымі падарункамі.

**Ірына САСНІНА, г. Баранавічы**

# Капялюш радыусам у… два метры

**Марыя ЖАБІНСКАЯ**



Беларусы заўсёды беражліва ставіліся да лесу і спрадвеку выкарыстоўвалі для сваіх патрэб кару, карэнне, галінкі, майстравалі з прыроднага матэрыялу рэчы, неабходныя ў хатнім побыце. А з лазы плялі лапці, у якіх хадзілі ад вясны да вясны.

Успамінаецца выступленне Смаргонскага ансамбля песні і танца імя Агінскага, якое адбылося ў 60-я гады мінулага стагоддзя ў Палацы прафсаюзаў. Яшчэ не было чутно ні слоў, ні музыкі, а зала ўскалыхнулася ад воплескаў — глядач дзякаваў мастаку. Справа ў тым, што артысты былі апранутыя і абутыя па эскізах Леаніда Баразны, які першы адважыўся ўзнавіць мясцовы шляхетны касцюм. Падчас наступнага выступлення ўзняўся на сцэну фальклорны гурт з Палесся ў ільняным адзенні. Палешукі былі абутыя ў… лапці.

Сёння традыцыйнае рамяство — лозапляценне — прываблівае новых умельцаў, зробленыя імі рэчы даволі эстэтычныя, што дазваляе характарызаваць іх як творы мастацтва. Вялікую цікавасць прадстаўляе творчасць майстра са Смаргоні Аляксандра Мускага. Дакладней, усёй яго сям'і, паколькі лозапляценнем займаюцца: жонка Людміла (яна, дарэчы, таксама член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці), да іх ахвотна далучыліся дачка, сын і ўнук. Ім падуладныя ўсе сакрэты гэтага майстэрства. Напрыклад, капялюш радыусам каля двух метраў, што захоўваецца ў фондах мясцовага музея. Дужа адчувальны вопыт гэтай сям'і ў справе захавання мясцовай экалогіі. Гаспадар, каб не шкодзіць лесу, пасадзіў лазу на сваім лецішчы і кожную восень зразае аднагадовыя галінкі для сваіх патрэб.

***На здымку: вырабы, створаныя Аляксандрам Мускім.***

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2861
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк
12.01.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 144
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686